Кс. Ян Твардоўскі

# Як дайсці

Як дайсці да Цябе
ці толькі праз афіцыйную браму
за святымі ў цвёрдых каўнерыках
што няспынна нясуць
неабходныя паперы з пячаткаю
а можа з іншага боку
пайсці нацянькі
крыху наўкола
абыходзячы ззаду
абмінаючы ўсюдыісную роспач
праз пачакальню другога і трэцяга класаў
з білетам у іншы бок
без веры але з дабрынёю дарэмнаю
праз аварыйны выхад на ўсялякі выпадак
з ключом запасным ад самой Маці Божай
праз усе малыя зялёныя веснічкі
што кручком адчыняюцца
не разбіраючы дарогі
ўбогімі пакручастымі сцежкамі
з кожнага месца адкуль Ты клічаш
жывым заўсёды сумленнем

*Пераклад з польскай мовы*
*Бануты Бічэль.*



У нумары 3/2012
НАША ВЕРА



Максімільян Марыя Кольбэ.
Апошняе фота. 1941 г.

# Гісторыя жыцця святога Максімільяна Марыя Кольбэ

Максімільян Кольбэ нарадзіўся ў Здуньскай Волі 8 студзеня 1894 года. У той жа дзень ён быў ахрышчаны ў мясцовым парафіяльным касцёле. Падчас хросту атрымаў імя Раймунд. Бацькі Раймунда Кольбэ — Марыяна і Юліюш — ажаніліся 5 кастрычніка 1891 г. у Здуньскай Волі і пасля заключэння шлюбу пасяліліся ў доме на вуліцы Броварнай (сёння вуліца святога Максімільяна), дзе кіравалі ткацкаю майстэрняю. Абое былі вельмі пабожнымі людзьмі. Старэйшы брат Максімільяна, Францішак, у 1914 г. пайшоў у манаства. Падчас Другой сусветнай вайны ён быў арыштаваны органамі гестапа і трапіў у лагер у Аўшвіцы. Памёр Францішак Кольбэ ў студзені 1945 г. у лагеры Бухенвальд-Міттэльбаў. Малодшы брат, Юзаф, у кляштары прыняў імя Альфонс. Ён быў найбліжэйшым паплечнікам Максімільяна. Памёр у 1930 годзе.

У 1907 годзе Раймунд прыняў сакрамэнт бежмавання і ў тым самым годзе вырашыў пайсці ў кляштар. Ён прыбыў у Львоў восенню 1907 г., каб вучыцца ў гімназіі, якой кіравалі францішкане. У Львоў Раймунд прыехаў разам са старэйшым братам Францішкам. Праз год следам за імі скіраваўся з рэкамендацыйнымі лістамі самы малодшы брат, Юзаф.

Да Галіцыі браты дабраліся на возе, схаваўшыся ў сене, бо не мелі пашпартоў і былі падданымі расійскага цара. Праз тры гады вучобы ў гімназіі, 4 верасня 1910 года, браты ўступілі ў навіцыят ордэну францішканаў. Згодна з тагачаснай традыцыяй, яны атрымалі новыя імёны. Раймунд стаў Максімільянам, а Францішак — Валяр'янам.

Таварышы па вучобе ўзгадвалі, што Максімільян меў асаблівыя поспехі ў вывучэнні дакладных дысцыплінаў, шмат займаўся праектаваннем і эксперыментаваннем.

Летам 1912 года Максімільян закончыў вучобу ў Львове і быў пераведзены ў Кракаў. Восенню гэтага ж года настаяцелі скіравалі яго на далейшую вучобу ў Рым.

Святарскае пасвячэнне Максімільян Кольбэ атрымаў 28 красавіка 1918 года з рук кардынала, вікарыя Рыма Базіліо Пампілі ў касцёле Сант-Андрэа-дэлла-Валле. На наступны дзень у касцёле Сант-Андрэа-дэлле-Фраттэ ён цэлебраваў першую святую Імшу.

У Рыме Максімільян Кольбэ на працягу трох гадоў вывучаў філасофію ў Папскім грыгарыянскім універсітэце, а затым — тэалогію ў Міжнародным серафімскім калегіуме. Скончыў навучанне са ступенню доктара ў абедзвюх галінах.

1 лістапада 1914 года ў капліцы серафімскага калегіума ён склаў вечныя шлюбы ў прысутнасці а. Дамініка Тавані, генеральнага вікарыя ордэну, і прыняў дадатковае імя — Марыя.

Калі Максімільян знаходзіўся ў Рыме, у яго пагоршылася здароўе. Напрыканцы 1917 года ўрачы выявілі ў яго сухоты. З'яўляючыся слухачом серафімскага калегіума, брат Максімільян Марыя Кольбэ разам з таварышамі заснаваў Рыцарства Беззаганнай. Аб'яднанне, адной з мэтаў якога было навяртанне грэшнікаў і парышэнне культу Беззаганнай, утварылася 16 кастрычніка 1917 года.

Максімільян Марыя Кольбэ вярнуўся ў Польшчу ў канцы ліпеня 1919 года. Настаяцелі скіравалі яго на працу ў семінарыю. Ён прасіў правінцыяла даць яму магчымасць займацца навуковаю працаю, але правінцыял адмовіў, таму малады законнік заняўся пашырэннем ідэі Рыцарства Беззаганнай. Яму ўдалося схіліць на свой бок біскупа Адама Стэфана Сапегу, Мітрапаліта Кракаўскага. Падчас штогадовых рэкалекцый у 1920 годзе айцец Максімільян напісаў «Статут жыцця», які складаўся з 12-ці пунктаў. Пад першым пунктам ён запісаў такія словы: «Я павінен быць святым — як мага больш святым». У адным з наступных было напісана: «Рабі тое, што робіш; на ўсё іншае — добрае або дрэннае — не звяртай увагі». Гэтых пастановаў ён паслядоўна прытрымліваўся да канца свайго жыцця.

Пачынаючы з 1921 года да 1939-га айцец Максімільян быў частым госцем у Закапанэ. Ён прыязджаў туды лячыць сухоты. Часам пра-

водзіў там па некалькі месяцаў. У гэты час Максімільян не бяздзейнічаў, займаўся евангелізацыяй.

У студзені 1922 года айцец Максімільян выдаў першы нумар «*Rycerza Niepokalanej*». Напрыканцы 1922 года рэдакцыя часопіса была перанесена ў кляштар у Гродне. Яе размясцілі ў трох маленькіх пакойчыках на першым паверсе кляштара. Увесь калектыў рэдакцыі складаўся ўсяго з чатырох чалавек. У гэты першы перыяд існавання «*Rycerza Niepokalanej*» шрыфту не хапала для поўнага набору аднаго нумара. Аднак выдавецтва ўжо мела друкарскую машыну з ручным прывадам. Айцец Максімільян купіў яе за мільён марак у сясцёр з Лагеўнікаў у Кракаве. <...>

Праз пяць гадоў супрацоўнікаў у рэдакцыі было 24. У 1927 годзе яны выдавалі «*Rycerza Niepokalanej*» накладам 65 тысяч асобнікаў.

Дынамічнае развіццё рэдакцыі часопіса і цесната ў гродзенскім кляштары вымусілі айца Максімільяна шукаць новае месца для сваёй справы. У чэрвені 1927 года айцец Максімільян даведаўся, што ў мястэчку Тэрэсін пад Варшаваю князь Ян Друцкі-Любецкі дзеліць сваю маёмасць і прадае зямлю. Праз пасрэднікаў айцец Максімільян скантактаваўся з князем і папрасіў аб сустрэчы, якая адбылася ў тым жа месяцы. Князь згадзіўся ахвяраваць сваю зямлю манаскай супольнасці. Калі ў 1922 годзе айцец Максімільян пераязджаў з Кракава ў Гродна, усё абсталяванне рэдакцыі змясцілася ў адным яго чамадане. У лістападзе 1927 года для перавозу друкарскіх машын з Гродна ў Тэрэсін неабходна было наняць чатыры вагоны.

Будаўніцтва кляштара ў Тэрэсіне распачалося ў верасні 1927 года. Законнікам бескарысліва пачалі дапамагаць жыхары з прылеглых ваколіцаў. Большасць будаўнічых працаў у кляштары праводзілі самі браты. Першаю для карыстання была падрыхтаваная ў Непакалянаве капліца. У ёй усталявалі часовы алтар і канфесіянал, змайстраваны са звычайных негабляваных дошак. Айцец Максімільян адразу ж паехаў у Варшаву да арцыбіскупа, каб атрымаць дазвол на цэлебраванне святой Імшы ў новай капліцы і захоўванне ў ёй Найсвяцейшага Сакрамэнту. Барак для жылля і друкарня былі дабудаваныя ўжо пасля перанясення рэдакцыі з Гродна.

Непакалянаўскі кляштар быў пабудаваны вельмі хутка — за два месяцы. Напрыканцы лістапада 1927 года рэдакцыя з’ехала з Гродна. Браты загадзя надрукавалі «*Rycerza Niepokalanej*» на снежань 1927 года, каб выйграць крыху часу.

У снежні 1928 года наклад штомесячніка дасягнуў 140 тысяч асобнікаў. Развіваўся таксама кляштар. Для працы не хапала рук. На скаргі айца Максімільяна правінцыял адказаў, каб ён заснаваў у Непакалянаве школу і сам падрыхтаваў для сябе кадры. У верасні 1929 года распачала сваю дзейнасць Малая місійная семінарыя.

Калі ў Непакалянаве быў створаны кляштар-рэдакцыя, айцец Максімільян вырашыў рэалізаваць план, які выношваў у сэрцы з самага пачатку сваёй святарскай дзейнасці. 26 лютага 1930 года разам з чатырма братамі ён адправіўся на місіі ў Японію. У красавіку 1930 года місіянеры прыбылі ў японскі горад Нагасакі. Мясцовы біскуп шукаў выкладчыка філасофіі ў сваю семінарыю. Ён прыняў на працу айца Максімільяна, а таксама дазволіў выдаваць «*Rycerza Niepokalanej*» на японскай мове. Ужо ў маі з’явіўся першы нумар «*Rycerza Niepokalanej*» па-японску накладам 10 тысяч асобнікаў — «*Seibo no Kishi*». Ён быў разасланы па парафіях разам з мясцовым дыяцэзіяльным часопісам. Выданне «*Rycerza Niepokalanej*» па-японску было б немагчымым, калі б не дапамога мясцовых святароў, якія перакладалі артыкулы айца Максімільяна, напісаныя на лацінскай мове. Складаней было з наборшчыкамі, у якіх былі вельмі высокія расцэнкі — па гэтай прычыне законнікі самі набіралі «*Rycerza Niepokalanej*».

Японскі «Непакалянаў» развіваўся. У першапачатковым месцы братам стала зацесна. У сакавіку 1931 года місіянеры купілі зямлю пад будаўніцтва кляштара на схіле гары Хікасан, у прыгарадзе Нагасакі. Яны зрабілі гэта насуперак парадам мясцовых жыхароў. Рашэнне айца Максімільяна было прадбачлівае. У 1945 годзе на Нагасакі была скінута атамная бомба. Яна ўпала акурат на тое месца, якое францішканам раілі для будаўніцтва рэдакцыі. У францішканскім кляштары каля гары Хікасан... толькі паразбіваліся шыбы.

У чэрвені 1936 года айцец Максімільян паехаў у Польшчу на капітул правінцыі, дзе быў выбраны настаяцелем кляштара ў Непакалянаве. У Японію ён ужо не вярнуўся.

Непакалянаў, які ў 1936 годзе айцец Максімільян прымаў як настаяцель, быў ужо зусім не такім, з якога ён адпраўляўся на місіі ў 1930 годзе. Гэта быў амаль самадастатковы горад з уласнаю сельскаю гаспадаркаю, малочным прадпрыемствам, пякарняю. На тэрыторыі кляштара дзейнічала Добраахвотная пажарная ахова, якая складалася толькі з законнікаў. Да кляштара была падведзена вузкакалейная чыгунка, былі ўзведзены новыя будынкі.

У кляштары таксама стала больш людзей. Калі на пачатку 1930 года айцец Максімільян ад’язджаў у Японію, у Непакалянаве жыло больш за сто законнікаў. Напрыканцы 1935 года іх налічвалася 532. Супольнасць працягвала павялічвацца. У канцы 1936 года законнікаў было ўжо 658.

Айцец Максімільян пачаў рэфармаваць працу ў кляштары. Ён падзяліў Непакалянаў на 12 структураў, якія падпарадкоўваліся непасрэдна дырэкцыі. Распарадзіўся, каб кожны аддзел стварыў уласную энцыклапедыю працы, меў выпрабаваныя спосабы працы, арганізацыі і эканоміі часу. Дзейнасць мусіла быць арганізаваная так, каб у любы момант можна было перавесці законніка на іншую пасаду без шкоды для яго папярэдняга месца працы.

«*Mały Dziennik*», які выходзіў у Непакалянаве з мая 1935 года, напярэдадні Другой сусветнай вай-

ны быў адной з найбуйнейшых польскіх газет. Яго наклад дасягаў 300 тысяч асобнікаў. Акрамя таго, ён быў самым танным перыядычным выданнем: каштаваў 5 грошаў. На старонках канкурэнтных выданняў вельмі часта ўзнімалася пытанне аб цане «*Małego Dziennika*» і сцвярджалася, што ён фінансуецца з замежных крыніцаў. Галоўная рэдакцыя газеты знаходзілася ў Варшаве, але былі таксама рэгіянальныя рэдакцыі гэтага выдання ў найбуйнейшых польскіх гарадах. Друкаванне ажыццяўлялася толькі ў Непакалянаве.

Павялічваўся наклад «*Rycerza Niepokalanej*». Напрыканцы 1937 года ён налічваў 754 тысячы асобнікаў, а ў 1938 годзе дасягнуў мільённага накладу. У 1937 годзе на друкаванне ўсіх выданняў было выкарыстана больш за 1600 тонаў паперы і каля 35 тонаў друкарскай фарбы.

Друкарня ў Непакалянаве была адной з самых мадэрновых друкарняў у Польшчы. Машыны прывозіліся з Германіі. Грошы на іх пакупку паступалі з ахвяраванняў чытачоў «*Rycerza Niepokalanej*». Апрача «*Rycerza*» і «*Małego Dziennika*», у Непакалянаве друкаваліся «*Rycerzyk Niepokalanej*», «*Mały Rycerzyk Niepokalanej*», місійны бюлетэнь, а таксама «*Miles Immaculatae*», або «*Rycerz Niepokalanej*» на лацінскай мове для святароў. Законнікі мелі ўласны тартак і сталярню, дзе рабілі лавы, сталы і іншыя прадметы для кляштара. У кляштары быў таксама механічны цэх. Браты, якія ў ім працавалі, мелі пад сваім наглядам усё абсталяванне, што знаходзілася ў Непакалянаве, рамантавалі друкарскія машыны, аўтамабілі, веласіпеды.

У верасні 1939 года ў Кракаве адбыўся капітул правінцыі пад кіраўніцтвам генерала ордэну Бэда Марыя Хэсса. Айцец Максімільян паўторна быў выбраны настаяцелем Непакалянава, які ў той час быў ужо невялікім горадам: у верасні 1939 года ў ім жыло 13 айцоў, 527 братоў, 82 аспіранты, 18 клерыкаў і 122 вучні семінарыі — усяго 762 чалавекі. Непакалянаў часта наведвалі высокія касцёльныя дзеячы. У 1937 годзе горад Марыі наведаў арцыбіскуп Філіппо Картэзі, апошні Апостальскі нунцый у Другой Рэчы Паспалітай. Некалькі разоў у Непакалянаве быў кардынал Аўгуст Хлёнд, прымас Польшчы. Заснаваны айцом Максімільянам кляштар аглядаў таксама арцыбіскуп Адам Стэфан Сапега, Мітрапаліт Кракаўскі. У сваю чаргу кардынал Аляксандр Какоўскі, Мітрапаліт Варшаўскі, наведваўся ў Непакалянаў нават па некалькі разоў на год.

Айцец Максімільян звяртаўся да самых новых тэхнічных сродкаў. У снежні 1937 года было прынята рашэнне наладзіць у Непакалянаве працу радыё. 8 снежня падчас пробнай радыёперадачы трансліраваліся катэхезы пра Маці Божую. Браты далі таксама скрыпічны канцэрт. Пра дзейнасць радыё з самага пачатку клапаціўся брат Мансвэт Марчэўскі, які супрацоўнічаў з айцом Максімільянам яшчэ з гродзенскага перыяду. Развіццё радыёвяшчальнай станцыі перарваў выбух Другой сусветнай вайны. Радыё аднавіла сваю дзейнасць толькі 1 сакавіка 1995 года. Размяшчаецца яно ў тым самым будынку. Трансляцыя ідзе ў заходняй Мазовіі і ў Лодзкім ваяводстве, а са жніўня 2010 года праз пасрэдніцтва польскай эміграцкай станцыі — таксама ў Чыкага.

Айцец Максімільян цікавіўся радыё з часу яго ўзнікнення. Перш чым заснаваць у Непакалянаве ўласную радыёвяшчальную станцыю, ён двойчы прамаўляў на Польскім Радыё. Гэта было 8 снежня 1937 года і 2 лютага 1938 года. На жаль, запісы гэтых перадач не захаваліся.

4 верасня 1939 г.выходзіць апошні нумар «*Małego Dziennika*». На наступны дзень распачынаецца эвакуацыя кляштара. Законнікі атрымліваюць распараджэнне ехаць на сваю радзіму, сам айцец Максімільян застаецца ў кляштары (разам з ім застаецца невялікая група братоў). 7 верасня бомбы падаюць на Непакалянаў. Немцы захопліваюць кляштар раніцаю 19 верасня. Законнікі і айцец Максімільян былі арыштаваныя. Іх адправілі ў лагер у Амціц (цяпер вёска Гэмбіцэ каля Губіна), пасля яны трапілі ў лагер у Астжэшуве.

Адразу ж пасля захопу кляштара ў ім распачаўся ператрус. Немцы шукалі архіўныя асобнікі «*Małego Dziennika*», які быў прызнаны антынямецкім выданнем. Жаўнеры знішчылі склад з фігуркамі і бюро кляштара, забаранілі выдаваць «*Rycerza Niepokalanej*». Толькі ў канцы 1940 года, пасля доўгіх староанняў айца Максімільяна, немцы згадзіліся на выданне «*Rycerza*». За час вайны выйшаў усяго адзін нумар часопіса.

Камендантам лагера ў Астжэшуве быў Ханс Мульцар, нямецкі пастыр. Ён дазволіў пусціць у лагер ксяндза з Камуніяй для францішканаў. 8 снежня 1939 года законнікі былі вызваленыя.

Айцец Максімільян прадчуваў, што не перажыве вайну. 17 лютага 1941 года ў брамы кляштара загрукала гестапа. Афіцэры патрабавалі сустрэчы з айцом Максімільянам. Прыкладна а 12-й гадзіне дня айца Максімільяна разам з айцамі Піем Бартосікам, Урбанам Цеслякам і Юстынам Назімам пасадзілі ў машыны і вывезлі ў Варшаву. Іх кінулі ў вязніцу, якая ў народзе называлася Павякам. Праз некалькі дзён група законнікаў напісала ліст у гестапа з просьбаю вызваліць айца Максімільяна і забраць іх на яго месца.

28 мая 1941 года айцец Максімільян быў пераведзены ў Аўшвіц. Ён атрымаў нумар 16 670 і быў пасланы на самую цяжкую працу. Два тыдні працаваў у рабочай брыгадзе «Бабіцэ», дзе мучылі святароў. 15 чэрвеня 1941 года айцец Максімільян выслаў з Асвенціма ліст маці, у якім пісаў: «У мяне ўсё добра. Дарагая мама, будзь спакойная за мяне і маё здароўе, бо добры Бог ёсць у кожным месцы і з вялікаю любоўю клапоціцца пра ўсіх і ўсё». Гэта быў апошні ліст у яго жыцці.

У канцы ліпеня 1941 года з лагера ўцёк вязень Зыгмунт Піляўскі. Эсэсаўцы загадалі вязням сабрацца на штрафную пераклічку.



Арыштаваныя браты з а. Максімільянам Кольбэ.
19 верасня 1939 года.

Вязняў з 14-га барака, у якім быў таксама айцец Максімільян, паставілі на пляцы пад пякучымі промнямі сонца і выбралі 10 чалавек, якія павінны былі загінуць за ўцекача. Сярод іх быў таксама Францішак Гаеўнічак. Айцец Максімільян выйшаў наперад і сказаў здзіўленым эсэсаўцам, што хоча пайсці на смерць за гэтага чалавека. Немцы згадзіліся.

Дзесяць вязняў кінулі ў камеру смерці ў бараку пад нумарам 13. Іх мучэнні працягваліся два тыдні. 14 жніўня 1941 года жывымі былі ўжо толькі чатыры пакутнікі. Сярод іх — і айцец Максімільян. Эсэсаўцы прыводзілі ў камеру крымінальнага злачынцу, які кожнаму з вязняў рабіў ін'екцыю карболавай кіслаты ў левую руку. Айцец Максімільян сам падаў руку кату... Пасведчанне аб яго смерці было праслане ў Непакалянаў у студзені 1942 года.

Вестка пра смерць айца Максімільяна хутка дайшла да Непакалянава і разышлася па ўсім свеце. У 1946 годзе генерал ордэну даручыў сабраць усе лісты Максімільяна Кольбэ, а праз год пачаўся інфармацыйны працэс. Беатыфікацыйны працэс быў распачаты 15 мая 1960 года. Дэкрэт пра гераічнасць цнотаў айца Максімільяна выдаў папа Павел VI 30 студзеня 1969 года. 17 кастрычніка 1971 года Святы Айцец беатыфікаваў заснавальніка Непакалянава.

10 кастрычніка 1982 года папа Ян Павел II абвясціў благаслаўлёнага айца Максімільяна святым мучанікам. На кананізацыю айца Максімільяна ў Рым прыехалі тысячы палякаў. Прыбылі таксама дэлегацыі з Японіі — з місіі ў Нагасакі, якую заснаваў святы Максімільян. Дары Святому Айцу падносілі найбліжэйшыя паплечнікі айца Максімільяна. Заснавальнік Непакалянава на пачатку вайны адгадаваў бараду, каб пазбегнуць арышту. Валасы з яго барады захаваў брат цырульнік — гэта адзіная рэліквія, якая засталася пасля смерці святога...

У 1979 годзе ў час свайго першага візіту на Радзіму папа Ян Павел II наведаў Аўшвіц. Ён маліўся ў камеры смерці айца Максімільяна і цэлебраваў святую Імшу на тэрыторыі канцлагера. Падчас гаміліі Святы Айцец сказаў: *«У гэтым месцы страшных катаванняў, якія давялі да смерці чатыры мільёны чалавек з розных народаў, айцец Максімільян здабыў духоўную перамогу, падобную да перамогі самога Хрыста, калі дабравольна пайшоў на смерць у карцар голаду за брата»*.

Рыцарства Беззаганнай працягвае развівацца. У Польшчы да яго належаць больш за два мільёны чалавек. 17 кастрычніка 1997 года, у 80-ю гадавіну заснавання гэтага аб'яднання, Касцёл прызнаў Рыцарства публічным, усеагульным і міжнародным таварыствам вернікаў. Міжнародны цэнтр *MI* знаходзіцца ў Рыме, у той час як Непакалянаў з'яўляецца цэнтрам Рыцарства ў Польшчы. Папа Бэнэдыкт XVI у сваім звароце да Рыцараў Беззаганнай сказаў: *«Ваша харызма актуальная і патрэбная, таму абуджайце ў сабе апостальскую руплівасць і поўны давер да Беззаганнай Марыі»*.

«*Rycerz Niepokalanej*» — часопіс, які ў 1922 годзе заснаваў святы Максімільян, — існуе і ўвесь час развіваецца. У Польшчы ён выдаецца ўжо больш за 90 гадоў накладам звыш 100 тысяч асобнікаў. У Японіі часопіс выходзіць ужо больш за 70 гадоў. Свае аналагі «*Rycerz*» мае ва ўсім свеце, напрыклад, у Славакіі, Чэхіі, у Парагваі, Карэі, Індыі, ЗША. Нядаўна ён пачаў выходзіць таксама на мове суахілі.

Непакалянаў не заняпаў пасля смерці айца Максімільяна. У ім была ўзведзена вялізная святыня з высокаю, 47-метроваю, вежаю. Трохнававы касцёл амаль цалкам пабудавалі і абсталявалі законнікі. Уражвае ўнутраны выгляд святыні, якая дасягае 69 метраў у даўжыню і 18 метраў у шырыню.

Першая святая Імша ў касцёле была цэлебраваная 8 снежня 1949 года. У наступным годзе, 27 чэрвеня, Прымас Польшчы Стэфан Вышынскі стварыў у Непакалянаве парафію і даручыў францішканам апекавацца ёю. 30 красавіка 1980 года папа Ян Павел II надаў святыні тытул Базылікі меншай, а 25 сакавіка 2004 года Непакалянаў атрымаў статус агульнапольскага Санктуарыя Найсвяцейшай Панны Марыі Беззаганнай Пасрэдніцы ўсіх ласкаў (базыліка) і святога Максімільяна Марыі Кольбэ (капліца).

*Падрыхтавала*
*Ганна Шаўчэнка.*

Айцец Максімільян Марыя Кольбэ, настаяцель і рэдактар, за працаю. 1931–1933 гады.



# Трыумф насуперак перашкодам

Паўсюдна вядома, што святы Максімільян Кольбэ загінуў у Асвенціме, аддаўшы сваё жыццё за іншага чалавека, заснаваў Непакалянаў і «Рыцара Беззаганнай». Яго імя часта асацыюецца з Японіяй. Пра Гродна ўзгадваюць найбольш дасведчаныя знаўцы шляху святога Максімільяна да святасці і яго ідэі здабыць свет для Хрыста праз Беззаганную.

Гродна — гэта вельмі важны этап ўсёй дзейнасці, распачатай святым францішканінам. Можна сказаць: вялізны крок на шляху евангелізацыі праз сродкі масавай інфармацыі <...> Яму было няпроста, і святы Максімільян дакладна пацярпеў бы паразу, а яго задума выдаваць і друкаваць каталіцкі штомесячны часопіс сышла б у нябыт, калі б не моцны падмурак, на якім ён заснаваў свой будучы поспех, што трывае да сённяшняга дня. Гаворка ідзе пра Беззаганную. Святы даверыў усе свае ініцыятывы і высілкі найлепшай Маці — той жанчыне, якая сцерла галаву змею. Між іншым, ён шмат разоў апісваў сучаснага яму «змея»: масонства, зачаткі таталітарызму, і менавіта ў артыкулах, друкаваных у «Рыцары Беззаганнай», што выходзіў у Гродне.

Дзеля чаго варта падкрэсліць выключнасць гродзенскага этапу ў жыцці святога Максімільяна? Я б звярнуў увагу на некалькі аспектаў. Па-першае, гэта грамадска-палітычны кантэкст, па-другое — эканамічныя праблемы. І ўрэшце, асабістыя справы святога Максімільяна, звязаныя з манаскім жыццём, здароўем, найбліжэйшымі сваякамі, духоўнасцю... Я не буду займацца іх класіфікацыяй, але апішу гэта ўсё ў кароткім аповедзе.

**Унутраныя і знешнія клопаты**

З 20 кастрычніка 1922 года, з таго дня, як айцец Максімільян пакінуў Кракаў і накіраваўся ў Гродна, і да 10 лістапада 1927 года, калі быў распачаты дэмантаж друкарскіх машын, каб перавезці іх у маёнтак, ахвяраваны братам князем Друцка-Любецкім у Тэрэсіне (цяперашні Непакалянаў), доўжыўся час, што напрамую папярэднічаў вялікай місіі, якую Непакалянаў імкнецца выконваць да сённяшняга дня.

Каб усвядоміць, што можа здарыцца на працягу пяці гадоў, звернемся спачатку да статыстыкі, паглядзім на лічбы. Штомесячны часопіс «Рыцар Беззаганнай» павялічыў свой аб'ём з 16 да 32 старонак, а наклад — з 5 тыс. экзэмпляраў у 1922 годзе да 50 тыс. экзэмпляраў у 1927 годзе. Варта узгадаць, што колькасць членаў Рыцарства Беззаганнай таксама ўзрасла з некалькіх тысяч да 126 000. І ўсё гэта адбывалася ў часы заняпаду вялікіх канцэрнаў прэсы і друкарняў, краху выдавецтваў. Апроч гэтага, айцец Максімільян сутыкаўся з нeахвотаю і бесперапыннай крытыкай братоў у ордэне. Крытыка датычыла і «Рыцара...», і раздачы цудоўных медалікаў, і дзейнасці Рыцарства Беззаганнай, а таксама асаблівага набажэнства айца Кольбэ да святых жанчын: Джэмы Гальяні і Тэрэзы з Лізьё. Апошняя была кананізаваная менавіта тады, калі айцец Максімільян працаваў у Гродне, 17 траўня 1925 года. Святая Тэрэза ад Дзіцятка Езуса гаварыла пра патрэбу місіі і евангелізацыі ва ўсім свеце, і гэта ж вельмі моцна адчуваў у сваім сэрцы мучанік з Асвенціма.

Перад тым як выехаць з Кракава, дзе былі надрукаваныя першыя нумары «Рыцара...», айцец Максімільян жыў у Мшане Дольнай (у жніўні і верасні 1922 г.). Ён пачаў сур'ёзна хварэць. З гэтай жа прычыны ён мусіў на пэўны час пакінуць Гродна, скіраваўшыся на аздараўленне і лячэнне ў Закапанэ (1926 г.). У яго ўсё больш развіваліся сухоты.

Рашэнне перанесці выдавецтва з Кракава ў Гродна (што было на руку айцу Кольбэ) было прынятае і пад націскам незычлівых братоў у ордэне. Аднак афіцыйна — гэта быў клопат тагачаснага правінцыяла пра здароўе свайго падапечнага. Айцец Максімільян аспрэчыў гэта, кажучы, што памяшканне ў францішканскім кляштары, былая школа, прызначаная для выдавецтва, знаходзіцца далёка ад горада,

а паблізу няма ні пошты, ні зручных транспартных вузлоў, а Кракаў у гэтых адносінах — ідэальны... Урэшце, паслухмяны волі і рашэнню настаяцеля, ён выехаў у Гродна, забраўшы з сабою ўсё кракаўскае выдавецтва ў адной тэчцы. Калі 20 лістапада, праз пяць гадоў, браты выязджалі з Гродна ў Непакалянаў, каб перавезці друкарскія машыны, яны нанялі 8 чыгуначных вагонаў. Можна ўжо зрабіць параўнанне, хоць гэта быў толькі пачатак справы...

**Гродзенская штодзённасць**

У снежні 1922 г. у кляштары быў пастаўлены стары друкарскі прэс, які браты назвалі «бабулькаю». Каб выдрукаваць 5 тыс. экзэмпляраў часопіса, трэба было 30 тысяч разоў пакруціць ручку прэса. Усе браты круцілі яе па чарзе, у тым ліку і святы Максімільян.

Сярод іншага ў гродзенскіх нумарах «Рыцара...» можна знайсці артыкулы пра навяртанне Альфонса Рацісбона, пра нябёсы, пра Рыцарства Беззаганнай: пра яго сутнасць, мэту і дзейнасць, а таксама заахвочванне далучацца да яго шэрагаў.

Расла колькасць падпісчыкаў часопіса і членаў Рыцарства Беззаганнай.

12 снежня 1923 г. айцец Максімільян у лісце свайму брату, айцу Альфонсу, піша, што папера даражэе і абяцаюць далейшае павышэнне коштаў. Гэта дрэнныя навіны для таго, хто распачынае паліграфічную справу.

Акрамя праблемаў, цяжкай працы, непаразуменняў, розных малых і вялікіх крыжоў, з Гроднам звязана і некалькі смешных гісторый, якія можна распавядаць як анекдоты. Пра некаторыя з іх гаворыць прафесар Клод Р. Фостэр — аўтар белетрызаванай біяграфіі св. Максімільяна пад назваю «Рыцар Марыі», апісваючы яго жыццё і дзейнасць. Першая, якую я працытую, датычыць працы ў друкарні.

У гродзенскі кляштар прыйшоў брат Зено, які пазней спадарожнічаў айцу Максімільяну і працаваў з ім на місіях у Японіі аж но да сваёй смерці. Японцы так палюбілі яго, што яшчэ пры жыцці паставілі яму помнік. У Фостэра мы чытаем:



Браты францішкане падчас працы ў друкарні.
Гродна, 1925–1926 гады.

*Хутка пасля свайго прыбыцця брат Зено натхніў айца Максімільяна набыць рухавік унутранага згарання фірмы «Дызель», каб лепш выкарыстоўваць друкарскую машыну. Ён пераконваў: «Ойча, калі замест таго, каб круціць ручку самім, мы будзем рабіць гэта з дапамогаю механічнага прываду, значна ўзрасце наклад часопіса, а ў нас будзе больш сілы на іншыя справы». Выглядала, што законнік ведаў, пра што кажа, бо сам заняўся ўсталяваннем рухавіка. У запакоўцы былі доўгія шрубы, якія трэба было правесці праз адтуліны ў стальной падстаўцы машыны і пасля прыкруціць да драўлянай падлогі. З жэстам рукі, што падкрэсліваў яго ўпэўненасць у сабе, брат Зено сказаў законнікам, якія яму дапамагалі: «Не трэба прабіваць дзіркі ў падлозе, каб прымацаваць рухавік. Дастаткова пакласці на падстаўку вялікія камяні, каб ён не вагаўся.*

*Тады ў друкарню ўвайшоў айцец Максімільян у белай альбе, несучы начынне і асвечаную ваду. Пагледзеўшы на абсталяванне, ён сказаў: «Мне здаецца, трэба прымацаваць яго шрубамі». «Не трэба», — з націскам запярэчыў брат Зено.*

*Максімільян акрапіў рухавік асвечанай вадой і сказаў: «Дзякуй табе, рухавік, цяпер мы выдрукуем шмат нумароў "Рыцара Беззаганнай". Пане Божа, паблагаславі». Пасля гэтых словаў брат Зено пацягнуў за вяроўку, каб завесці «Дызель». Цішыня. Рухавік не скрануўся. Законнік паўтарыў. Ізноў ніякай рэакцыі. Толькі пасля трэцяй спробы рухавік характэрна забуркатаў. І тут з прычыны моцнай вібрацыі машыны каменне, пакладзенае на яе падстаўку, адскочыла ўбок, а рухавік пачаў «танчыць» па пакоі. Айцец Максімільян здолеў крыкнуць: «Уцякайма!» Некаторыя з братоў адным скокам апынуліся на пісьмовым стале, іншыя ў паніцы разбегліся. Толькі брат Зено безвынікова ганяўся за рухавіком, спрабуючы яго спыніць. Нарэшце ён спыніўся сам, дзякуючы таму, што яго заклініла паміж іншымі часткамі друкарскага абсталявання. Максімільян з панурым выразам твару сказаў брату Зено: «Браце, гэты рухавік занадта каштоўны, каб праз тваю пыхлівасць нам пагражала страціць яго. Прашу, прымацуй яго добра шрубамі.*

*Брат Зено, чыя ўпэўненасць у сабе з кожнаю хвілінаю малела з прычыны здарэння, пакорна пачаў выконваць даручэнне, адчуваючы вялікую палёгку ад таго, што рухавік не сапсаваўся і ў сваім шалёным танцы не пашкодзіў іншага абсталявання.*

*Айцец Максімільян, сыходзячы з пакою, усміхнуўся, калі ўзгадаў, як брат Зено ў аўтабіяграфіі адзначыў, што мае тэхнічную адукацыю.*

*З таго часу законнікі называлі брата Зено «майстар — рукі на ўсе штукі».*

Калі з часам у кляштары зрабілася цесна, тагачасны правінцыял вылучыў для патрэбаў выдавецтва яшчэ адно памяшканне, дзе знаходзіўся кляштарны рэфектарый. З гэтым звязаны яшчэ адзін анекдот. Айцец Максімільян прытрымліваўся прынцыпу «куй жалеза, пакуль гарачае». Каб пазбавіцца пярэчанняў непрыхільных да яго братоў, ён разам з іншымі пачаў рыхтаваць памяшканне яшчэ ўначы, не чакаючы, пакуль узыдзе сонца. Браты не ведалі, што слоікі з малаком, якія кухар пакінуў у памяшканні на ноч, былі адчыненыя, і нацерушылі ў іх пылу, перасяляючыся ў рэфектарый. Назаўтра айцец Максімільян хадзіў следам за кухарам, які не хацеў даць «рамонтнай брыгадзе» сняданку, і прасіў у яго прабачэння. Нарэшце кухара ўдалося задобрыць.

Варта дадаць, што ў Гродне браты мелі і час на адпачынак. Узгадваецца выпадак, калі аднойчы айцец Максімільян з братамі шпацыравалі ўздоўж берагоў Нёмана. Прафесар Фостэр піша:

*Аднойчы, ідучы каля ракі, браты заўважылі на беразе за чарговым мостам два чаўны і непадалёк двух габрэяў-дрывасекаў за працаю. Максімільян спытаўся: «Чый гэта човен?» Старэйшы адказаў: «Мой». «А колькі б пан узяў за тое, каб нам праехацца?» — дапытваўся Максімільян. «Неяк дойдзем да згоды. А ці паны самі паедуць?» Максімільян адказаў: «Так, дамо сабе рады. Вось над чым мы працуем, — сказаў ён і выняў з кішэні хабіта вераснёўскі нумар „Рыцара..."». — Ці гэта дастатковая плата?» «Добра», — адказаў старэйшы габрэй і кіўнуў галавою малодшаму, які адразу спусціў човен на ваду.*

*Апісанне гэтага здарэння засталося ў нататніку Максімільяна, дзе ён са шчырасцю дзіцяці занатаваў: «Мы селі ў човен. Я — за стырно, яны — за вёслы. Не меў панятку, як кіраваць ...».*

У лісце з Гродна ад 1 красавіка 1925 г. айцец Кольбэ піша свайму брату Альфонсу пра планы, звязаныя са стварэннем «Маленькага рыцара Беззаганнай». І ў той жа час вядзе перапіску з маці Марыяннаю, якая тады знаходзілася ў кляштары ў Кракаве, бядуючы над лёсам старэйшага з братоў Кольбэ, яе сына Францішка. Той пакінуў ордэн, каб змагацца за свабоду Польшчы. Пазней ён, праўда, стварыў сям'ю, але ў сужэнстве не ўсё было добра. Быў час, калі ён нават не мог сустрэцца з Максімільянам, бо жонка ствbooarала для гэтага перашкоды. Маці вельмі перажывала з гэтай прычыны, і айцец Кольбэ імкнуўся яе суцешыць. Ён нават сустракаўся з ёю, калі вяртаўся з Закапанэ ў Гродна праз Кракаў, а ў лістах запэўніваў, што яны разам з айцом Альфонсам моляцца за старэйшага брата, і Пан Бог, пэўна ж, пакажа яму шлях.

Падчас побыту айца Максімільяна ў Гродне ў свеце стала неспакойна. Калі святы пісаў аб любові і супакоі, Адольф Гітлер выдаў *«Mein Kampf»*, кнігу, якая з цягам часу стала «бібліяй» нацыстаў. Аднак з-за мяжы прыходзілі і добрыя навіны. Напрыклад, у суботу 23 красавіка папа Пій XI асобным брэве ўзняў рымскае Рыцарства Беззаганнай да годнасці Пабожнай Уніі вернікаў, надаючы яму права ствараць супольнасці па-за Рымам, а таксама прывілей удзяляць адпусты...

Ва ўрачыстасць святога Антонія Падуанскага 13 чэрвеня 1927 г. у Гродна прыбыў ксёндз Тадэвуш Цібароўскі з Адамовічаў, каб сустрэцца з Яўгенам Шрэдніцкім, паўнамоцным адміністратарам князя Друцка-Любецкага... Ён прапанаваў братам, што скантактуецца з князем і апіша яму справу, якую робяць браты. Князь меў ва ўладанні шмат моргаў зямлі недалёка ад Варшавы, і гэта стала адказам на ўзрастанне патрэбаў, як бы мы сказалі сёння, медыйнай імперыі айца Максімільяна, якая ўжо тады патрабавала асобнага будынка паблізу ад вялікіх дарогаў, пошты і транспарту...

**Што з гэтага для нас?**

Ці мае сэнс цяпер казаць пра тое, што зрабіў бы святы Максімільян, калі б застаўся жыць? Ці яго паслядоўнікі павінны біць сябе ў грудзі, параўноўваючы тое, што здолеў зрабіць ён, з тым, што было зробленае пасля ягонай смерці? Мне здаецца, сам святы не хацеў бы, каб на гэта была звернутая ўвага. Змяніўся час і сродкі, адкрыліся новыя магчымасці... Ментальнасць людзей таксама трошкі іншая, хоць у некаторых аспектах, не заўсёды станоўчых, яна застаецца нязменнаю. Але заўсёды застаецца той самы Хрыстус і той самы шлях да Яго — Беззаганная. Нашая Найлепшая Маці ва ўсім супрацоўнічае з тымі, хто хоча служыць Богу і здабываць для Яго людзей. У гэтым айцец Кольбэ не пакінуў бы нас у спакоі, прадпісваючы перадусім бязмежную і безумоўную адданнасць Ёй у якасці рэчы, прылады і ўласнасці, ва ўсіх акалічнасцях.

Гродна, якое павінна было стаць своеасаблівым «цвіком у труне» зусім маладога часопіса, сталася істотнаю часткаю справы, якую мы называем Непакалянавым. Змяняліся месцы і ўмовы, але ад самага пачатку браты працавалі ў тым самым духу, з адданасцю і ахвярнасцю дзеля найбольшай славы Пана. Што засталося сёння ў самім Гродне пасля святога Максімільяна? Гэта тэма для асобнага артыкула. Мне здаецца, найважнейшым з'яўляецца тое духоўнае будаўніцтва з вернікаў, якія навярнуліся і пад уплывам чытання «Рыцара...» і прысутнасці братоў францішканаў панеслі ў свет пасланне любові. На шчасце, паслядоўнікаў святога Максімільяна і сёння хапае на гэтай зямлі. Праз дзевяноста гадоў тут таксама працуюць францішкане, працягваючы яго справу і місію.

*Караль Вайтына.*
*Пераклад з польскай мовы Юліі Шэдзько.*


Айцец Максімільян Марыя Кольбэ перад выездам на місію ў Японію. Непакалянаў, 1928 год.

# «Цярпенне — найважнейшая частка працы»

(З катэхезаў айца Максімільяна Марыя Кольбэ)

**Практыка ўмелага маўчання**

Маўчанне патрэбнае і нават неабходнае: калі недастаткова маўчання, недастаткова і Божых ласкаў. Тады мы перастаем быць прыладамі ў руках Беззаганнай і толькі шкодзім Яе справам, нават калі робім самыя ўзвышаныя ўчынкі.

Маўчаць — не значыць нічога не гаварыць, гэта значыць гаварыць столькі, колькі пажадае Беззаганная, — ні больш, ні менш.

Калі мы гаворым менш, чым трэба, — дрэнна робім; калі гаворым больш, чым трэба, — таксама дрэнна робім.

Каб гаварыць столькі, колькі належыць, трэба ўвесь час сачыць за сабою і гаварыць толькі тое, што важна і неабходна для вырашэння справы.

Калі мы не будзем захоўваць патрэбнага маўчання, то і на ласкі Божыя не зможам адказаць, а калі не адкажам на якую-небудзь адну, то страцім і шэраг наступных ласкаў, якія мы маглі б атрымаць, застаючыся ў засяроджанні. А якую вялікую адказнасць мы нясем перад Панам Богам!.. Выкарыстаўшы гэтыя ласкі, мы маглі б стаць святымі і пабудзіць да святасці іншых, даўшы добры прыклад. А так — і іншыя не скарысталіся, і мы страцілі. У той жа час прыклад вельмі прыцягальны. Адзін лекар з Нагасакі распавядаў мне, што, бачачы ўчынкі хрысціянаў, ён і сам навярнуўся[1]. Яму не патрэбныя былі ні дыспуты, ні чыесьці пераконванні. Прыклад аказаў большае ўздзеянне, чым усе дыспуты і пераконванні.

Як жа авалодаць практыкай умелага маўчання?

Перадусім трэба маліцца, бо толькі сама Беззаганная можа чыніць усё гэта ў нас. І было б добра, калі б гэтую практыку маўчання мы на пачатак і заканчэнне асобных справаў дня ахвяравалі Беззаганнай хаця б толькі заклікам «Марыя!». Ніколі нельга засмучацца ў выпадку падзення, бо гэта смуродная пыха; наадварот, трэба з вялікаю любоўю і весялосцю духу адразу ж устаць і ісці наперад! А ў гэтым падзенні суцешыцца актам дасканалай любові...

І няспынна, няспынна прыкладаць намаганні... Штораз падымацца на прыступку вышэй, як гаварыла святая Тэрэза ад Дзіцятка Езуса, пакуль мы ўрэшце не запалянім Пана Бога, які прыйдзе і — узяўшы нас — панясе ўгору[2].

Так мы будзем прамяніцца святлом Беззаганнай і распаўсюджваць вакол сябе Яе водар.

Але ўсё гэта будзем рабіць ужо не мы, а Беззаганная, наша Матуля.

Мы ж будзем падобныя да месяца, які ўвечары свеціць так, што ў яго бляску можна чытаць кнігу. Але свеціць ён святлом сонца, а не сваім, бо ён мёртвы.

Гэтак жа і мы з'яўляемся мёртвымі і не даем святла. Аднак будзем прамяніцца, калі зачэрпнем святла ў Беззаганнай, нашай Маці...

*Mugenzai no Sono, аўторак, 17.IV.1934.*
*Занатаваў брат з японскага Непакалянава, прозвішча якога не высветлена.*

**У аснове святасці — паслухмянасць**

Ёсць адзін паказчык, па якім можна пазнаць, ці жыве душа ў дасканаласці і ці набліжаецца яна да Беззаганнай; а з'яўляецца ім паслухмянасць. Калі, нягледзячы на ўсялякія цяжкасці і ўнутраныя перашкоды, душа жыве так, як падказвае паслухмянасць, то ўсё ў парадку.

Еднасць з Беззаганнаю заключаецца не ў тым, каб нашы думкі ўвесь час былі занятыя Ёю, а ў тым, каб мы стараліся з'яднаць сваю волю з Яе воляю, а гэта значыць прагнуць таго ж, чаго жадае і прагне Беззаганная. Можна свабодна



Першыя місіянеры з а. Максімільянам у Непакалянаве.
Люты, 1930 год.

разважаць у думках пра Сэрца Езуса, пра ўкрыжаванага Хрыста, а воляю быць з'яднаным з Беззаганнаю. Аднак душа заўсёды будзе звяртацца менавіта да Беззаганнай, бо будзе адчуваць у Ёй патрэбу, бачачы сваю слабасць і ўбоства. Важней за ўсё тое, як душа ставіцца да Беззаганнай і сама Беззаганная — да душы.

На самым пачатку гэты шлях звычайна прыемны, усыпаны цукеркамі, але пазней Пан Бог дае сухі і цвёрды хлеб, а яшчэ пазней час ад часу гэты хлеб можа быць цвярдзейшы за камень. Калі, нягледзячы на змрок, расчараванні і перашкоды, душа перамагае сябе і робіць так, як ёй дыктуе воля Беззаганнай, то яна на добрым шляху. Вынік наближэння да Беззаганнай будзе праяўляцца ў справах, якія стануць выконвацца лягчэй, бо душа будзе побач з Ёю.

Адна толькі рэч небяспечная. Напісана: «Яна сатрэ табе галаву, а ты будзеш падсцерагаць Яе пяту» (пар. Быц 3, 15). Значыць, там, дзе з'явіцца Беззаганная, дзе душа набліжаецца да Яе, сатана пачынае наступаць на пяту. Але не трэба палохацца або трывожыцца. Мы павінны быць асцярожныя і чуйныя, самае важнае — маліцца шмат і добра, але баяцца яго няма чаго. Трэба з пагардаю пазіраць на яго і не ўсчыняць бітву з ім, бо ён нявартьт гэтага. Ён здрадзіў Богу і не заслугоўвае таго, каб мы ўступалі ў адносіны з ім.

У такім выпадку ён нічога нам не зробіць. Ён надзвычай пыхлівы і больш за ўсё баіцца пагарды, як і чалавек пыхлівы не церпіць пагарды. Давайце дзейнічаць з сатаною так, як з сабакам. Калі брэша — няхай брэша, а мы будзем ісці далей сваёй дарогаю.

Будзем маліцца, каб выпрасіць для сябе ласку поўнага выканання Божай волі. Калі ж мы захоўваем паслухмянасць, то ўжо выконваем Божую волю, і гэты акт нашмат больш глыбокі — нават самы глыбокі. Выкананне Божай волі — гэта і ёсць любоў, а любоў — аснова святасці. Не ва ўтаймаванні, не ў малітве, не ў працы, не ў адпачынку, а толькі ў паслухмянасці — заслуга і аснова святасці.

*Непакаланаў, аўторак, 23.VI.1936, пасля вяртання з Японіі. Занатаваў бр. Віталіян Мілаш.*

**Малітва, утаймаванне, паслухмянасць**

1. <...> Трэба вельмі шмат маліцца. Не патрэбна шмат словаў, бо на гэта ў нас не заўсёды ёсць час, але мы можам часта ўзносіць кароткія малітоўныя заклікі. Пан Бог хоча, каб людзі пашыралі Яго хвалу, Ён прагне чыніць гэта таксама і з нашаю дапамогаю. Кожную працу трэба акрапляць малітваю. Тут, у Непакалянаве, працуюць толькі манахі, душы выбраныя, якія Маці Божая па-асабліваму любіць, і таму наша слова ў малітве шмат значыць. Яна вырвала нас са свету і прывяла сюды, бо Ёй так спадабалася. Былі і больш годныя за нас, але іх Яна не паклікала, бо ўсё гэта не паводле справядлівасці, а паводле міласэрнасці. Мы таксама мацней палюбілі Яе, бо з любові да Яе пакінулі свет. Дзякуючы гэтаму наша малітва будзе хутчэй выслуханая, бо нас Беззаганная любіць мацней. Гэта не значыць, што трэба няспынна гаварыць пацеры, але дастаткова хацяб часта ўзносіць гарачыя малітоўныя заклікі.

Пан Бог хоча, каб душы, якія жывуць на зямлі, як мага больш прагнулі дабра. Калі б хтосьці прыйшоў да імператара і папрасіў у яго капейку, то гэта было б абразаю для яго, бо ў імператара просяць шмат — тысячаў...

Гэтак жа і ў Пана Бога мы павінны прасіць не капейку, бо гэта будзе абразаю Яго дабрыні і шчодрасці, а многага. І атрымаем шмат, і тады хвала Божая будзе вялікая. Калі ёсць нейкая цяжкасць, то адразу ж трэба бегчы да Беззаганнай, аддаць Ёй гэта і сказаць: я не ведаю, як гэта зрабіць, таму дапамажы мне.

2. Апрача гэтага, <...> ёсць яшчэ цярпенне. Часам разбірае ахвота пабегаць, скаштаваць свабоды, а тут сядзі ды сядзі. Калі камусьці гэта вельмі шкодна для здароўя, то разважлівасць патрабуе сказаць пра гэта настаяцелям, але калі гэта дробязі, то ціха сядзі і цярпі.

3. А калі здараецца цярпенне, якое вынікае з ахвяравання Богу ўласнай волі?.. У паслухмянасці.

Што азначае паслухмянасць?

Трэба распавесці тое, што веда-

еш, і прывесці аргументы, але калі табе загадваюць так, а не інакш, то выканаць волю Беззаганнай. Кожны з нас мае шмат самалюбства і, магчыма, часам заўпарціцца, бо «ён так вырашыў», і, хоць яго сумленне скараецца і прызнае віну — гэтае «я вырашыў» супраціўляецца. Тады ўзнікае канфлікт з Беззаганнаю, і ў выніку чалавек не мае ніякай заслугі.

Трэба дазволіць Беззаганнай так кіраваць намі і весці нас, каб Яна дзейнічала ў нас і праз нас.

Самае важнае ў нашай мэце <...> — каб кожны належаў Ёй, як мага больш належаў Ёй, каб кожны звяртаўся да Яе і прызнаваў, што вынікі належаць Ёй, а не нам. Мы — як пяро для паперы. Не пяро піша, а пісьменнік.

Што значыць прызнаваць вынікі, якіх Яна дасягнула?

Пазнаваць тое, што Яна зрабіла і робіць, мы заўсёды можам і мусім, але мы не павінны прыпісваць сабе таго, што не з'яўляецца нашым. Тое, што атрымалася добра, зрабіла Беззаганная. А ўсе недасканаласці, недакладнасці, хібы — гэта тое, што назапасілі мы самі.

*Затым айцец дырэктар[3] паўтарыў братам пытанне, якое задаў сёння братам аспірантам:* ці патрэбныя мы Маці Божай? *Меркаванні і адказы былі розныя. Вось некаторыя з тых, што выказалі браты.*

Калі Беззаганная паклікала нас, то, безумоўна, мы патрэбныя Ёй, бо Пан Бог дзейнічае рознымі сродкамі. Яшчэ адзін брат дадаў, што мы не зусім патрэбныя Ёй, бо тое, што Яна нас паклікала, — Яе вялікая ласка. Іншы сказаў, што, як мастаку патрэбны пэндзаль, так і мы патрэбныя Беззаганнай, каб Яна магла свабодна маляваць. Іншыя меркавалі, што не мы патрэбныя Маці Божай, а Яна нам патрэбная. Яшчэ некаторыя сказалі, што на самай справе мы Ёй патрэбныя і непатрэбныя, бо Яна магла б выкарыстаць для гэтага



Айцец Максімільян з братамі японцамі. 11 лютага 1935 года.

іншыя сродкі, зрабіць гэта нашмат больш дасканала, магла б нават паклікаць з неба войска анёлаў, а мы толькі псуем Ёй справу. Аднак, нягледзячы на супярэчлівыя меркаванні, у большасці пераважалі выказванні аб тым, што мы патрэбныя Маці Божай.

*Айцец дырэктар развіў гэтую думку наступным чынам.* Калі гаварыць у цэлым, то Пану Богу не патрэбна нічога, але калі Пан Бог хоча пэўным чынам нешта зрабіць, напрыклад, каб «Rycerz» быў надрукаваны, то для гэтага патрэбны машыны — друкарня. Праўда тое, што Беззаганная можа атрымаць усе вынікі непасрэдна, але Пан Бог дзейнічае звычайнымі шляхамі, таму і мы патрэбныя Беззаганнай у пэўных умовах. Святы айцец Францішак гаварыў: «Наказваю ўсім сваім братам, якія ёсць цяпер і будуць пасля, заўсёды праслаўляць Маці Бога і ўшаноўваць Яе на ўсіх шляхах, усімі спосабамі, як могуць, і ставіцца да Яе з найвышэйшаю пашанаю і пакораю»[4]; «Я таксама прагну, каб яны заўсёды былі Яе вернымі слугамі»[5].

*Непакалянаў, пятніца,*
*10.VII.1936,*
*размова з братамі, якія ўваходзяць у склад адміністрацыі выдавецтваў Рыцарства Беззаганнай.*
*Занатаваў бр. Віталіян Мілаш.*

**Замагільнае жыццё**

Звычайна пасля чыёйсьці смерці пануе смутак, а часам нават роспач...

Смерць у кляштары не ўспрымаецца як нейкі страшны вораг.

Некаторыя свецкія людзі ахоплены справаю вечнасці, але лічаць смерць чымсьці дрэнным і пагрозлівым.

Між тым смерць — гэта шлях да неба.

Натуральна, часам смерць выклікае смутак, асабліва смерць дарагіх і блізкіх нам людзей. Нават Пан Езус плакаў над смерцю свайго сябра Лазара. Таму ў гэтым смутку няма нічога дрэннага — гэта нават не правіна. Памятаю, калі адзін з першых членаў Рыцарства Беззаганнай памёр у Рыме, атмасфера была спакойная, нават радасная. Усе цешыліся, што ён ужо трапіў у неба[6].

Гэтак і тут, у Непакалянаве, пануе такая ж самая радасць. Усе мы перакананыя, што памерлы сёння раніцаю бр. Аннунц'ятус[7] пайшоў проста ў неба.

Той, хто прыйшоў у кляштар, напэўна, зрабіў гэта не для таго, каб асудзіць сябе, а каб здабыць вечнае жыццё. Аднак чысцец дадае нам неспакою. Вядома, што амаль усе павінны апынуцца там і цярпець цяжкія мукі.

Я неаднойчы размаўляў на тэму чыстца з братамі, якія пыталіся ў мяне пра гэта, і казаў ім, што з Непакалянава ў чысцец не трапляюць.

Магчыма, гэтае выказванне выглядае дзіўным, але гэта праўда.

Калі я кажу «з Непакалянава», я маю на ўвазе дух!

Калі хтосьці знаходзіцца тут толькі целам, а духам будзе па-за Непакалянавам, то гэтае выказванне яго не датычыцца. Але хто бязмежна аддаўся Беззаганнай — целам і душою, у смерці і ў вечнасці, як гэта напісана ў дыпломіку Рыцарства, той не пойдзе ў чысцец.

Нельга расчароўвацца з-за нязначных падзенняў, бо гэта спакуса сатаны. Давайце старацца, каб дух поўнага даручэння сябе Беззаганнай увесь час узмацняўся ў нас.

Калі хтосьці мае ў сабе такі дух, то не важна, у Непакалянаве ён будзе ці дзесьці на яго задворках, манах гэта будзе або нават чалавек свецкі, які стараецца жыць у гэтым духу, — цяжка нават дапусціць, цвяроза разважыўшы, каб такі чалавек трапіў у чысцец.



Айцец Максімільян падчас місіі ў Японіі. Каля 1935 года.

Калі б хтосьці з нас, напрыклад, быў на месцы Беззаганнай, хіба ён быў бы такі нядобры і паслаў бы на чыстцовыя мукі тых, хто даверыўся яму бязмежна, без ніякіх агаворак, ва ўсім? Сапраўды, гэта не ўкладваецца ў нашым розуме.

А цяпер задумайцеся, хіба не з'яўляецца Беззаганная лепшаю за ўсіх нас? Гэта дае маральную ўпэўненасць у тым, што Яна не можа дапусціць, каб чалавек, які жыве ў духу даручэння сябе Ёй, трапіў у чысцец.

Мы павінны радавацца, што бр. Аннунц'ятус пайшоў проста ў неба, бо ён меў гэты настрой, гэты дух. Гэта было відаць па ім самім.

Таму гэта правільна, што сярод нас пануе супакой, калі хтосьці з нас пераходзіць у вечнасць.

Цярпенне — найважнейшая частка працы. Я часта хаджу сярод хворых і кажу: вы выконваеце асобную частку працы, і частку найважнейшую... Вы знаходзіцеся ў тым шчаслівым становішчы, калі не бачыце плёну сваёй працы, а жывеце з таго, што іншыя заробяць для вас. Вы не бачыце на свае вочы вынікі свайго цярпення. Самалюбству тут няма чаго рабіць, яму няма месца сярод вас. А калі чалавек выконвае якую-небудзь іншую частку працы, ён бачыць вынікі сваіх намаганняў, і яму неаднойчы можа прыйсці думка, што ніхто іншы не змог бы гэтага зрабіць, што ўсё належыць прыпісваць яго кемлівасці, здольнасцям і г. д. Хоць і тут усё можна асвяціць добраю інтэнцыяй. Аднак у шпіталі вы вольныя ад гэтых спакусаў, нягледзячы на тое, што мы ніколі не здолеем цалкам вызваліцца ад іх, тым больш ад спакусаў, якія вынікаюць з самалюбства.

Гвардыян кракаўскага канвента айцец Мар'ян Сабалеўскі, праводзячы рэкалекцыі ў гэтым жа канвенце, сказаў, што, калі б у якім-небудзь кляштары не было хворых, трэба было б маліцца, каб яны былі.

Калі хворыя настолькі патрэбныя, а іх праца такая эфектыўная, то што можна сказаць пра тых, хто ўжо ў небе!

У нас умацавалася такое перакананне, што, калі трэба зрабіць нейкую выключную справу, то хтосьці выбіраецца ў неба і становіцца там «праваднікам» гэтай справы. Так было і з Рыцарствам Беззаганнай: цэлы год — мноства самых розных клопатаў, цяжкасцяў і няўдачаў. І толькі пасля смерці двух першых братоў усё пачало развівацца: ёсць дазвол айца генерала Тавані на заснаванне Рыцарства ў францішканскіх семінарыях, ёсць дазвол на далучэнне свецкіх і г. д.

Калі айцец Венанты[8] сышоў у магілу, распачалося выданне «Rycerza».

У Гродне памёр адзін з першых братоў, які, напэўна, быў больш за ўсё патрэбны, — брат Альберт[9], а затым мы вырушылі шукаць тэрыторыю для Непакалянава на тэрэсінскіх палях.

І так далей можна было б пераконвацца ў гэтым.

Айцец Альфонс[10] памёр менавіта тады, калі фінансавыя цяжкасці былі надзвычай вялікія: нават айцец правінцыял[11] плакаў, што не здолее выбрацца з іх, і непазбежна мусіць быць катастрофа. Тым часам пасля смерці айца Альфонса невядома адкуль, цалкам нечакана, знайшліся вялікія сумы і пазыкі ўрэгуляваліся.

Тыя, хто сыходзіць з гэтага свету, толькі «там» распачынаюць сваю справу.

Непакаланаў — гэта толькі навіцыят. Адны прыходзяць у навіцыят, другія выходзяць з яго. Гэтак жа з усім Непакалянавам: ёсць прыліў і адліў, адны браты прыходзяць, другія пакідаюць нас, вырушаючы ў краіну вечнасці. Праз нейкі час і нас не будзе — пойдзем на «зашлюбіны». Тут часам можа стацца, што хтосьці здрадзіць святым абяцанням, а там, у небе, «зашлюбіны» мы дакладна разарвем, і не пагражае нам у гэтым стане ніякая небяспека... Тут, на зямлі,

чалавек мае вольную волю, можа рабіць усё, нават сабе на шкоду і на згубу. Нават пасля вечных абяцанняў мы яшчэ не маем гарантыі поўнай бяспекі. У Святым Пісанні сказана, што нават кедры Лівану падаюць (пар. Пс 28, 5).

Вельмі важна маліцца і прымаць прыніжэнні, каб у чалавека не было недахопу ў Божай ласцы.

Такім чынам, бачна, што нават манаскія абяцанні не захоўваюць нас ад небяспекі тут, на зямлі. Але той, хто трапіць у неба, адтуль ужо не выйдзе, яго не пакіне. У такім выпадку справядліва будзе сказаць, што усё жыццё на зямлі — гэта навіцыят, а там, у небе — «зашлюбіны». Тут — спробны Непакалянаў, а там — сапраўдны; гвардыянам у ім з'яўляецца Беззаганная.

Мы не можам зразумець гэта належным чынам, бо гэта пераўзыходзіць наш чалавечы розум. Конь таксама захацеў уявіць, як выглядае бяседа ў яго гаспадара, і падумаў, што там будзе авёс найлепшага гатунку, а саломы ўжо, напэўна, зусім не будзе, толькі мяккае сена. Гэтак жа і з нашым уяўленнем пра справы вечнасці. Немагчыма апісаць, як усё будзе ў гэтым нябесным Непакалянаве, але можна сказаць, што Беззаганная будзе ў ім гвардыянам.

Інструментальных аддзелаў, як і аддзела здароўя, там не будзе, бо ўсё гэта там непатрэбнае, а будзе там толькі адзін аддзел — адміністрацыя Рыцарства Беззаганнай, або аддзел працы з душамі. Гэтая адміністрацыя будзе падтрымліваць кантакт з душамі, ствараць т. зв. еднасць святых. Аддзел будзе развівацца. Зразумела, ён будзе думаць пра свет нават больш за нас, будзе клапаціцца пра нашыя справы, перш за ўсё пра збаўленне душаў, таму што ў небе выбраныя душы нашмат больш любяць Пана Бога і Беззаганную.

Калі хтосьці абслугоўвае цяпер якое-небудзь ваяводства, то ён і пасля смерці будзе памятаць пра яго, апекавацца ім, маліцца аб збаўленні душаў з гэтай тэрыторыі і г.д.



Складанне манаскіх абяцанняў.
2 жніўня 1938 года.

Еднасць святых у тым і заключаецца, каб падтрымліваць кантакт з душамі.

Пасля смерці мы, дзякуючы малітве, зможам нашмат больш дапамагаць усім, бо рукі нашыя ўжо будуць свабодныя. Святыя ўжо не клапоцяцца пра сябе. Тыя, хто перайшоў у нябесны Непакалянаў, больш цікавяцца намі і справамі зямнога Непакалянава, чым мы.

Такім чынам, мы можам уладжваць з імі справы непасрэдна, ужо не з дапамогаю папераў ды інстытуцый, а непасрэдна. Калі ў нас будзе нейкая праблема або штосьці яшчэ, мы можам звярнуцца да іх, а яны вырашаць гэта з Беззаганнаю.

Калі хтосьці з нас памірае, можна даручыць яму розныя справы, і, несумненна, яны будуць уладжаныя ў небе.

Можа, хтосьці пачне сумаваць з прычыны адыходу якога-небудзь брата, блізкага яму, але гэты смутак не будзе недасканалым — наадварот, нічога недасканалага ў ім не будзе.

Зразумела, мы павінны даверыць бр. Аннунц'ятуса міласэрнасці Бога і Беззаганнай, як сказана ў нашым Правіле, але будзем перакананыя, што яму ўжо не патрэбныя гэтыя малітвы, а Беззаганная прызначыць іх іншым душам.

*Непакалянаў, серада, 4.XI.1936.*
*Занатаваў бр. Лукаш Кузьба.*

*Пераклад з польскай мовы Ганны Шаўчэнкі.*
*Паводле: Konferencje świętego Maksymiliana Marii Kolbego. — Niepokalanów, 1990.*

[1] Цяжка вызначыць, пра каго ідзе гаворка.
[2] Гл. *Dzieje duszy*. — Poznac, 1926. — S. 268.
[3] Айцец Максімільян Кольбэ.
[4] З «Дадатка» да «Кветачкаў св. Францішка Асізскага»: гл. *Jak święty Franciszek otrzymał kościół Panny Maryi Anielskiej w Asyżu // Kwiatki św. Franciszka z Asyżu* / tłum. i wstęp Leopolda Staffa. — Warszawa [b.r]. — S. 376.
[5] Br. Honorat Kapucyn, *Święty Franciszek Seraficki i jego życie*. — Warszawa, 1905. — T. 3. — S. 361.
[6] Клерык Антоніо Мансі, студэнт-тэолаг II курса, памёр 31 кастрычніка 1918 г.
[7] Бр. Аннунц'ятус Маліноўскі ўступіў у ордэн у Непакалянаве ў 1935 г., памёр 4 лістапада 1936 г., з'яўляючыся навіцыем, ва ўзросце 17 гадоў. Пахаванне адбылося 6 лістапада 1936 года. Ён застаўся ў памяці блізкіх як руплівы манах.
[8] Айцец Венанты Катажынец памёр 31 сакавіка 1921 г., а «Rycerz Niepokalanej» пачаў выходзіць са студзеня 1922 г.
[9] Бр. Альберт Альшакоўскі, кіраўнік друкарні Рыцарства Беззаганнай у Гродне, памёр 10 снежня 1926 г.
[10] Айцец Альфонс Кольбэ памёр 3 снежня 1930 г.
[11] Айцец Карнэль Чупрук.



# Незвычайны і незаменны

## Успаміны пра кардынала Казіміра Свёнтка

Было гэта пасля святой Камуніі. Кардынал Казімір Свёнтэк змясціў кансэкраваныя эўхарыстычныя постаці ў табэрнакулюм, а сам укленчыў і доўгі час маліўся — здавалася, што надта доўга. Ён быў засяроджаны, заглыблены ў малітву — у сустрэчу з Абраннікам, а па твары ў яго цяклі слёзы. Ён не проста плакаў, а ўсхліпваў, не паказваючы пры гэтым, што адбывалася ў яго душы. Потым кардынал замкнуў табэрнакулюм. Мы пачулі характэрны гук замка, прыведзенага ў рух энергічным паваротам ключыка. Тады я ўсвядоміў, што гук ад замыкання табэрнакулюма быў для кардынала чымсьці асаблівым. Гэта было замыканне не проста дзвярэй, а цэлай эпохі, у якую ён жыў. Гук замка табэрнакулюма — гэта таксама чутны з воддалі часу гук замыкання дзвярэй вязніцы, камеры смерці, цягніка, які ідзе ў Сібір. Я думаю, што 30 верасня 2001 года, падчас Эўхарыстыі ў семінарыйнай капліцы, у момант пераўтварэння, ксёндз кардынал дзякаваў Богу за Яго прысутнасць у сваім жыцці, за Яго падтрымку ва ўсе тыя цяжкія моманты, калі ён, кардынал, з'яднаны з Хрыстом, неаднаразова чуў гук замыкання дзвярэй, за якімі заставаўся сам-насам са спрадвечным Богам. Культ Эўхарыстыі ў жыцці кардынала Казіміра Свёнтка быў бачны ўсім. Пасля кожнай святой Камуніі ён засяроджана трываў на малітве, а пасля заканчэння святой Імшы ішоў у прэзбітэрый — каб не страціць дару, які атрымаў. Ён часта нагадваў мне, што трэба вучыць клерыкаў пашане да Хрыста, Вязня табэрнакулюма, і тут жа казаў пра ўласны досвед з часоў вучобы ў семінарыі.

*

Кардынал Казімір Свёнтэк быў надзвычай добра выхаваным чалавекам, які ўмеў адпаведным чынам паводзіць сябе ў розных сітуацыях. Ён з лёгкасцю наладжваў кантакты з новымі людзьмі, ніколі не дэманструючы якой-небудзь перавагі або непрыязнасці. У вочы кідалася яго вялікая павага да кожнага чалавека. Думаю, гэта не было звычайнаю ветлівасцю або проста чалавечаю пазіцыяй, перш за ўсё гэта быў вынік хрысціянскай пазіцыі любові да бліжняга, любові, якая нараджаецца і развіваецца ў асабістай сустрэчы з Богам — Любоўю. Кардынал умеў прасіць і дзякаваць. І гэтым самым вучыў іншых пакоры. Ён звычайна казаў, што падзякі ніколі не бывае зашмат, спасылаючыся пры гэтым на сваю маму, якая выхоўвала ў сваіх дзецях пачуццё ўдзячнасці. І зноў напрошваецца роздум пра сувязь удзячнасці ў адносінах да людзей і ўдзячнасці Богу. Толькі чалавек, які прабывае ў еднасці з Богам, які ўсведамляе, наколькі вялікія дары ён атрымаў ад Пана, і ўмее дзякаваць за ўсё, будзе здольны ў духу любові, якая паходзіць ад Хрыста, дзякаваць людзям. Сапраўдная ўдзячнасць нараджаецца ў глыбокай малітве, асабістай і супольнай, асабліва ў сямейнай. Роля маці кардынала Свёнтка тут вельмі бачная, і не толькі

ў яго ўменні дзякаваць, але і ў дачыненні да іншых цнотаў. Можна зрабіць выснову, што гэта была мужная, пабожная жанчына, якая, страціўшы сужэнца, умела справіцца са сваім жыццёвым пакліканнем.

*

Кожны чалавек добра ведае, што такое канфлікт пакаленняў, як цяжка старэйшаму пакаленню знайсці паразуменне з моладдзю. Калі прыказка «роўны роўнага шукае» праўдзівая, то трэба сказаць, што ксёндз кардынал заўсёды быў малады — зразумела, не ўзростам, а духам. У ім было штосьці, што прыцягвала дзяўчат і хлопцаў, якія па гадах маглі б быць яго праўнукамі. Незвычайнаю была атмасфера яго сустрэчаў з моладдзю. У кардынала было што ім распавесці, а яны жадалі слухаць і слухаць яго... Пра што ён гаварыў? Нічога незвычайнага! Проста дзяліўся сваім досведам веры як роўны з імі. Таму кардынал быў для моладзі аўтарытэтам. Апрача таго, ён проста прамяніўся радасцю, часам сапраўды дзіцячай. Маладыя людзі без словаў разумелі, што сустрэчы з ім яны былі вельмі важныя для яго, бо ён успрымаў іх як роўных. Кардынал не маралізаваў і не павучаў, а даваў уласнае сведчанне дабрыні і любові Бога, захапляючыся Божымі справамі ў сваім жыцці.

Я чуў яго размову з парафіянамі ў Нарачы. Кардынал умацоўваў у іх чалавечую годнасць звычайным і простым зваротам: «Дарагія мае нарачанцы!» Яны адчувалі, што іх цэняць, а гэтыя простыя словы былі выяўленнем яго прыхільнасці і адначасова абавязвалі. У 2010 годзе група моладзі з Нарачы прыехала ў Пінск на святкаванне 71-й гадавіны святарства кардынала. Пасля святой Імшы Казімір Свёнтэк запрасіў іх у сваю бібліятэку, што знаходзілася ў дыяцэзіяльнай курыі. Я бачыў вочы гэтых маладых людзей і вочы кардынала: ніякай розніцы! Яны заглядзеліся на яго ў захапленні, ён, захоплены сустрэчаю, з пакораю распавядаў, як шмат учыніў для яго Пан Бог. Пасля сустрэчы ўсе, у тым ліку катэхетка, гаварылі, што гэтая размова напоўніла іх унутраным супакоем і шчасцем.

*

Духоўная семінарыя — гэта сэрца кожнай дыяцэзіі і аб'ект асаблівага клопату біскупа. Кардынал Казімір Свёнтэк моцна жадаў, каб у яго дыяцэзіі была семінарыя, імкнуўся адкрыць яе і стараўся, каб кандыдаты ў святарства мелі ўсё неабходнае, перш за ўсё — у духоўным плане. Неаднойчы падчас пасяджэнняў адміністрацыйна-выхаваўчай рады ён звяртаў увагу на неабходнасць фармацыі ў духу хрысціянскага персаналізму, прасякнутага любоўю да бліжняга. Для ксяндза кардынала было важна, каб у семінарыі панавала атмасфера адкрытасці і ўзаемнай пашаны, даверу, дапамогі. Ён асабіста далучаўся да арганізацыі харчавання, фізічнай культуры выхаваўцаў, падкрэсліваючы вартасць спорту і кантакту з прыродаю. Вельмі важнаю ён лічыў духоўную фармацыю. За чатыры месяцы да смерці падчас апошняй размовы са мною кардынал дзяліўся ўласным духоўным досведам і раіў, каб клерыкі як мага глыбей развівалі ў сабе здаровую традыцыйную пабожнасць праз жывое перажыванне Эўхарыстыі, даручэнне сябе Марыі, а таксама штодзённыя разважанні, рахунак сумлення, ружанцовую малітву, Вяночак да Божай Міласэрнасці, літаніі. Ён заўсёды вельмі радаваўся поспехам клерыкаў, падкрэсліваючы прыгажосць святарскага паклікання і яго ўзнёсласць. Кардынал заўсёды наведваў семінарыю падчас рэкалекцый, прысвечаных святарскаму пакліканню, сам цэлебраваў Эўхарыстыю, а пасля яе распавядаў гісторыю свайго паклікання, згадваючы біскупа Зыгмунта Лазінскага, вадзіў удзельнікаў рэкалекцый па семінарыі і катэдры і заахвочваў адважна адказваць на Божы заклік.

*

Чалавек, які чэрпае з крыніцы Божай міласэрнасці, атрымлівае здольнасць прабачаць. Ксёндз кардынал меў вялікі жыццёвы досвед і не раз асабіста пераканаўся ў існаванні зла і нянавісці. Ён шмат разоў паўтараў, што ад сэрца прабачыў ворагам Пана Бога, Касцёла і ўсім тым, хто яго пакрыўдзіў, але гэтае прабачэнне не азначала сцірання з памяці ўсяго дрэннага. Ён разумеў, што трэба прабачыць усе віны, але адначасова вучыў, што ўчыненае зло трэба выправіць, а шкоду кампенсаваць. Гэтае вымярэнне духоўнасці міласэрнасці дамагала ксяндзу кардыналу і ў вырашэнні асабістых справаў. Больш за дзесяць гадоў таму ў адной з парафіяў змянілі пробашча, але вернікі ніяк не хацелі згаджацца з гэтым. Яны ездзілі ў Пінск з петыцыямі, пісалі лісты, збіралі подпісы. Змест гэтай карэспандэнцыі не заўсёды быў слушны, што і давяло да канфлікту. Змена пробашча адбылася, а незадаволенасць парафіянаў і непрыемны асадак у ксяндза кардынала засталіся. Праз год пасля гэтага здарэння ў парафіі праходзіла бежмаванне, і ксёндз кардынал, перакана
ны ў непрыязнасці парафіянаў, сказаў, што паедзе з неахвотаю, але не можа адмовіць ва ўдзяленні сакрамэнту. Перасцярог толькі, што касцёл павінен быць упрыгожаны сціпла, што не павінна быць кветак на дарозе, па якой ён будзе ісці ў святыню, а таксама прывітанняў і падзякаў. Ён тады гучна сказаў па тэлефоне: «Калі на зямлі будуць кветкі, я іх абыйду». Усё было зробле-



на так, як ён сказаў. Уваход быў сумны, твар кардынала — спакойны. Ён нясмела узнімаў вочы на сабраных вернікаў. Падышоўшы да алтара, ён доўга кленчыў, прыкрыўшы твар далонямі. Калі кардынал устаў, у яго вачах з'явіліся слёзы — ад радасці прабачэння, якім ён адарыў сваіх вернікаў. А калі ён прамовіў казанне — плакалі ўжо парафіяне. Пасля пурыфікацыі ксёндз кардынал ціха сказаў, што чакае слова ад парафіянаў. У спешцы можна было толькі сарваць кветкі, якія раслі на пляцы перад касцёлам і крамаю. Гэты букет, спантанна падараваны і прыняты, стаў сімвалам хрысціянскай любові, якая ўвесь час удзяляецца і прымаецца.

*

Ксёндз кардынал вельмі паважліва ставіўся да святарства — ён захапляўся сваім святарствам і шанаваў іншых святароў. Асабліва выразна выяўляліся яго перажыванні падчас святарскіх пасвячэнняў. Ён радаваўся, што ёсць яшчэ адзін святар, што ён можа ўдзяліць яму пасвячэнне. Гэтая радасць была сапраўды айцоўская, злучаная з клопатам пра адзінства і ўзаемную любоў сярод святароў. Ужо ў семінарыі клерыкі атрымлівалі падпісаную асабіста кардыналам картку на памяць пра аблучыны, прызначэнне лектарам, акалітам або кандыдатам у святарства. У гонар пасвячэнняў ён уручаў Біблію або Катэхізіс Каталіцкага Касцёла з асабістым подпісам. Ксёндз кардынал падкрэсліваў: тым элементам, што яднае прэзбітэраў, з'яўляецца любоў Хрыста, якая мае моц перамяняць і ўдасканальваць. Пасля аднаўлення структураў Каталіцкага Касцёла ў Беларусі кожны месяц у розных парафіях Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі адбываліся дні духоўных сустрэч святароў і кансэкраваных асобаў. Адлегласці, якія трэба было пераадолець, каб трапіць на іх, былі вялікія. Як у той час, так і пазней, калі дні духоўных сустрэч сталі адбывацца ў Мінску і Баранавічах, ксёндз кардынал браў у іх удзел, прагнучы сустрэцца са сваімі святарамі на супольнай малітве, у Эўхарыстыі, у сакрамэнце пакаяння і паяднання. Ён заўсёды вызначаўся вялікаю павагаю да касцёльнай іерархіі. Дастаткова ўзгадаць яго адносіны да Святога Айца або падрыхтоўку да візіту Дзяржаўнага сакратара Яго Святасці кардынала Тарчызіо Бэртонэ. Для нас гэта быў урок пакоры і паслухмянасці Касцёлу: Казімір Свёнтэк паказаў нам, якую значнасць маюць адданасць і пашана ў адносінах да іерархаў.

*

Ажно дзіву даюся, што яму хацелася спяваць! Святую Імшу ксёндз кардынал цэлебраваў вельмі ўрачыста і прыгожа. Спеў яго таксама быў прыгожы, напоўнены духам праслаўлення Бога. У пінскай катэдры святыя Імшы распачынаюцца часцей за ўсё са спазненнем. Ксёндз кардынал здзіўляў нас сваёй цярплівасцю ў чаканні, пакуль пробашч вернецца з канфесіянала. Казанні былі для яго яшчэ адным «полем» для праслаўлення Бога і выяўлення радасці святарства. Запал, з якім гаварыў ксёндз кардынал, быў школаю для клерыкаў — у нейкім сэнсе ён даваў больш, чым тэарэтычныя заняткі. Кожная гамілія кардынала была ўгрунтаваная на Божым слове і датычылася праблем сучаснасці. Мы не раз бачылі ў яго пажоўклыя старонкі, спісаныя ў пасляваенныя гады, а чулі актуальнае, жывое сведчанне. Асабіста мяне кардынал уразіў пасля адной з гамілій. Ён падышоў да мяне і паказаў некалькі спісаных старонак — казанне, даўным-даўно складзенае ў Ружанах, — і спытаў, ці добрае яно было б. Я і ў гэтым убачыў чарговы ўрок пакоры...

*

Адной з любімых святых ксяндза кардынала была Тэрэза ад Дзіцятка Езуса. Ён цаніў яе за той «малы шлях», якім яна ішла да святасці ў поўным даверы да Пана Бога. Акрамя таго, Тэрэза — гэта святая вельмі радасная і поўная надзеі.

Ксёндз кардынал цаніў у людзях пачуццё гумару і ўменне радавацца. У яго прысутнасці прыемна было знаходзіцца — проста было добра...






Тут кардынал Казімір Свёнтэк жыў, працаваў, адпачываў і маліўся... Пінск, вул. Шаўчэнкі, 12.

Падчас каранацыі абраза Маці Божай Гудагайскай, які славіцца шматлікімі ласкамі, кардынал адзначыў, што ўрачыстасць гэта сапраўды цудоўная, але разам з тым дадаў, што такія ўрачыстасці яшчэ будуць — «напэўна будуць!». Што датычыць надзеі, то ён звычайна казаў клерыкам, каб яны не расчароўваліся з-за цяжкасцяў на шляху фармацыі, а іншлі да святарства, дару самога Бога: «Усё гэта праміне: лета, зіма, лета, зіма... А за гэтым вас ужо чакае Хрыстус і святарства, і людзі чакаюць!» Можа, менавіта святая Тэрэза, босая кармэлітка, спрычынілася да таго, што ў семінарыю былі прынятыя нашы кандыдаты, босыя кармэліты. У семінарыі мы спазналі ад ксяндза кардынала шмат сардэчнасці і дабрыні. Некалькі гадоў таму падчас урачыстасці ў Янаве нашыя браты пачулі цёплае прывітанне-прызнанне: «Дарагія мае кармэліты!» Здаецца, для яго ўсе былі дарагія...

*

Вуліца, на якой жыў ксёндз кардынал, была незаасфальтаваная, з калдобінамі і лужынамі ў дажджлівую пару. Нічога асаблівага! Затое сад каля дома, у якім ён жыў, быў аазісам зеляніны і прыгажосці. Там ксёндз кардынал адпачываў, маліўся, там працаваў. Ён любіў прыроду. Гэта было відаць! Вучыў таксама шанаваць прыроду і жыць у гармоніі з ёю. А якім жа сціплым было яго жыллё! Ён жыў бедна і проста. Быў вялікім чалавекам! Многія бачылі гэта... Неяк распавядаў мне, што не хоча пакінуць гэты маленькі дом, бо абяцаў Богу сціпласць і ўбоства да канца сваіх дзён. «Калі б я цяпер перасяліўся ў курыю, то здрадзіў бы! Так, здрадзіў бы!» Тады мне здавалася, што гэта не было б здрадаю, а цяпер я разумею, што ён хацеў застацца сапраўды верным. Вернасць паказвала яму шлях з таго самага моманту, калі ён маладым хлопцам каля труны біскупа Зыгмунта Лазінскага прасіў у Бога не поспеху, не багацця ці шчасця, а менавіта вернасці. Пан Бог выканаў яго просьбу, даўшы яму сябе самога, а людзі заўважылі вартасць яго вернасці і сталі называць сведкам веры.

*

...У гэтым доміку на вуліцы Шаўчэнкі Бог даў мне ласку сустрэцца з ксяндзом кардыналам за некалькі дзён да яго чарговага пераломy. Тады я пачуў словы чалавека, цалкам адданага Пану Богу: «Цяпер я згодны ўжо на ўсё, што Пан Бог для мяне падрыхтаваў!» Ён расказваў пра тое, як шпіталь змяніў яго, яшчэ раз распавядаў пра сваю любоў да біскупа Лазінскага, абразок якога заўсёды меў пры сабе, і пра тое, што бяссілле, якое ён спазнаў, яшчэ больш наблізіла яго да Бога. Тады здавалася, што ксёндз кардынал хутка выздаравее. Мы ніколі ва ўсёй глыбіні не ведаем прычынаў чалавечага цярпення, бо не ведаем да канца самага таемнага — адносінаў чалавека з Богам. Магчыма, гэтае цярпенне апошніх месяцаў жыцця кардынала было адказам Усявышняга на яго згоду выцерпець усё, на яго ахвярнасць. Магчыма, ён цярпеў за Касцёл, які любіў, за мяне... Невядома, што ён яшчэ казаў Пану Богу ў малітве...

*

«Божа, які Ты вялікі! Божа, які Ты добры!» Мы часта чулі ад яго гэтыя словы. І тады, калі ён успамінаў сваё жыццё, а дакладней, тое, што Бог учыніў у ім, і тады, калі ён удзяляў пасвячэнні, адчыняў і кансэкраваў адноўленыя і новыя касцёлы. І тады, калі ён не ўсё разумеў у сваім жыцці, але казаў: «Пане Божа... Я на ўсё згодны».

*

...Незаменных людзей няма?.. Але ёсць людзі сапраўды незвычайныя і... незаменныя! Божа, які Ты добры і вялікі, што даў мне магчымасць сустрэць на сваім жыццёвым шляху гэтага незвычайнага чалавека, Твайго сведку!

*А. Аркадзь Куляха OCD*

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

## VI. БОГ ЯК САМАІСНАЕ ІСНАВАННЕ – IPSUM ESSE SUBSISTENS

Сузіраючы рэчы вакол нас, мы пераконваемся не толькі ў тым, што яны існуюць, але калі задумваемся над імі глыбей (усё роўна, ці будуць гэта прадметы, якія нас атачаюць, ці наша Зямля, ці ўвесь сусвет, ці мы самі), мы павінны будзем пераканацца і сцвердзіць, што існаванне кожнай з гэтых рэчаў не з'яўляецца неабходным. Ніводная з іх не мусіць існаваць. З аднаго боку, нам цяжка гэта прыняць, а разам з тым — вельмі проста, бо хвіліна глыбейшага роздуму прыводзіць нас да высновы, што ў прыродзе ніводнай рэчы няма таго, каб яна мусіла існаваць. «Мусяць» існаваць матэматычныя быты, але яны існуюць іншым, вельмі адмысловым чынам. Квадрат мусіць быць, бо ён — квадрат. Тут выступае сутнасная неабходнасць, якая кіруе матэматычным светам, а гэта — зусім іншы свет, у адрозненне ад свету рэальна існуючых, пачуццёва ўспрымальных рэчаў. Ніводная з гэтых рэальна існуючых рэчаў не мусіць існаваць, бо, як кажа св. Тамаш, сутнасць кожнай рэчы адрозная ад яе існавання. Тут выяўляецца рэальная розніца; існаванне толькі ўдзяляецца рэчы, ёсць яе ўдзелам, а не належыць яе прыродзе.

Такім чынам, гэтае двайное разважанне, якое канстатуе з аднаго боку існаванне ўсяго таго, што ўтварае рэчаіснасць, а з другога, што існаванне ўсіх гэтых рэчаў ёсць існаваннем неабавязковым, выпадковым (на лаціне: *esse contingens*), прыводзіць проста да высновы, што мусіць існаваць штосьці, з чаго вынікае гэтае частковае існаванне выпадкова існуючых рэчаў. Вось жа мусіць існаваць штосьці, што само па сваёй прыродзе ёсць існаваннем, існаваннем самаісным, неабходным, у якім не ўзнікае розніцы між сутнасцю і існаваннем, бо сутнасцю гэтага чагосьці ёсць існаванне (*essentia – esse*). Хто ведае Святое Пісанне, можа знайсці ў ім выразны водгук усіх гэтых выказванняў, але ў дадзены момант мы не хочам выходзіць за межы чыстай філасофіі. І вось гэты выток усялякага існавання, які мусіць быць існаваннем неабходным, каб удзяляць існаванне, якое не з'яўляецца неабходным; які мусіць быць існаваннем самаісным, каб удзяляць існаванне несамаіснае; які, нарэшце, мусіць быць існаваннем, што атаясамляецца з сутнасцю, св. Тамаш называе Богам. Тамаш кажа: менавіта Бог — крыніца ўсялякага існавання, крыніца ўсіх існуючых выпадкова (няпоўна, часткова, мінімальна) рэчаў. І таму, калі мы разгледзім розныя аспекты рэчаіснасці, якая нас атачае (св. Тамаш называе пяць такіх аспектаў), мы прыходзім да ўсведамлення, што мусіць існаваць існавальная, калі можна так сказаць, крыніца ўсіх рэчаў, якія ўтвараюць гэты свет, і самога свету.

І вось гэта тыя пяць аспектаў, тыя славутыя *quinque viae* — пяць шляхоў св. Тамаша, якія няслушна называюць пяццю доказамі існавання Бога. Гэта памылковая назва, бо памянёныя шляхі вельмі далёкія ад доказаў у тым значэнні, якое мы сёння надаем гэтаму слову. Гэта — не матэматычныя альбо навукова-фізічныя доказы, і нават не доказы ў сэнсе лагічным, хоць і маюць сваю лагічную структуру. Лагічную слушнасць гэтых палажэнняў св. Тамаша падрабязна даследавалі, але істотная не яна. Яго разважанні — гэта, калі ўжыць лексіку Марытэна, хутчэй, «шляхі» падыходу, таму св. Тамаш не называе іх *rationes*, бо ў схаластычнай тэрміналогіі *ratio* — гэта тое, што і доказ, але называе іх *viae* — шляхі. Бо гэта пяць шляхоў, якімі мы набліжаемся да рэчаіснасці, і ў кан-

---

*Працяг. Пачатак у  3 за 2011 г.*

цы кожнага з шляхоў тая самая рэчаіснасць яўляецца нам іначай, у іншым асвятленні і ў іншай афарбоўцы.

Для св. Тамаша ясна, што існаванне Бога не ёсць для нас відавочным: ён палемізуе з тымі, хто лічыў, што выказванне «Бог існуе» перадае відавочную праўду. Паводле яго, гэтая праўда не відавочная, бо відавочным з'яўляецца тое, што мы можам пацвердзіць эмпірычна, што можам выпрабаваць. Існаванне Бога можа быць відавочным толькі для таго, хто перажывае яго асабіста ў містычным досведзе.

Відавочнасць, апрача таго, — камунікатыўная, калі я магу яе некаму іншаму перадаць, а містычны досвед у сваёй сутнасці – некамунікатыўны і не мае нічога агульнага з пачуццёвай ці лагічнай відавочнасцю. Таму існаванне Бога – кажа св. Тамаш – у гэтым сэнсе не відавочнае.

Аднак з іншага боку, чалавечы розум павінен быць неяк вельмі дэфармаваны і абмежаваны, калі – праводзячы сумленнае філасофскае разважанне на аснове тых метафізічных разрозненняў, пра якія мы гаварылі, – лічыць, што ён не можа адкрыць Бога як крыніцу ўсёй рэчаіснасці. Любая наша паглыбленая рэфлексія над светам, разгляданым у аспекце існавання, прыводзіць і павінна заўсёды прыводзіць да адкрыцця Бога. Нам прыгадваецца тут слова *revelabile*, пра якое ўжо была гаворка, а таксама св. Павел, які ясна кажа, што з разважання над рэчамі гэтага свету мы прыходзім да пазнання Бога і Божых справаў (пар. Рым 1, 20).

Схема пяці шляхоў адна, у іх ідзе гаворка пра тое самае: Бог выступае ў кожным з гэтых шляхоў як крыніца існавання, якое не з'яўляецца неабходным, якое мы спасцігаем ва ўсіх разгляданых рэчах, гэта значыць, што сам Ён выступае як існаванне неабходнае. Паглядзім на аспекты гэтай праўды, над якімі пачаргова разважае св. Тамаш.

Першы шлях: з руху (*ex motu*) зыходзіць з назірання руху і змены ў навакольным свеце, гаворка ідзе пра ўсялякую змену ў вельмі шырокім сэнсе. Паколькі кожная змена ўказвае на развіццё, на пераход ад магчымасці да здзяйснення, таму рэфлексія над любою зменаю прыводзіць нас да простай высновы: каб маглі адбывацца самыя розныя пераходы ад магчымасці да здзяйснення, мусіць існаваць Быт, які здзейснены цалкам, які дазваляе гэты пераход ад станаў бытава няпоўных да станаў паўнейшых. Здзяйсненне на лаціне называецца *actus*, таму Бог названы чыстым актам, ці бытам, у якім няма аніякай магчымасці, але адно толькі здзяйсненне. Можа ўзнікнуць думка, што з прычыны гэтага Бог — статычны быт, у якім няма руху. Гэта тыповае, вельмі «чалавечае» разуменне боскіх справаў. Нам у нашым свеце падаецца, што дасканаласць атаясамліваецца з пастаяннаю зменаю, тым часам уся паўната жыцця — у Богу, як пабачым, кажучы пра Божыя якасці, а таксама — уся паўната здзяйснення.

Другі шлях: з існавання вытворчай прычыны (*ex ratione causae efficientis*) падводзіць нас да рэчаіснасці ў аспекце прычыннасці. Увесь свет, усё, што нас атачае, — гэта гульня прычынаў і вынікаў. Паўсюль, ва ўсім і пастаянна, дзейнічаюць вытворчыя прычыны. Вытворчыя прычыны ўдзяляюць існаванне, з'яўляюцца перадавальнікамі існавання. Штосьці, чаго не было, дзякуючы пэўным імпульсам здзяйсняецца. Таму зноў жа, каб усе гэтыя другасныя прычыны, якія мы бачым, маглі дзейнічаць, мусіць быць першая вытворчая прычына, якая ўдзяляе сілы і моцы ўсім іншым, не ліквідуючы іх і не адбіраючы іх вартасці: гэта ёсць, уласна кажучы, *causa omnium causarum* — прычына ўсіх прычынаў.

Трэці шлях: з існавання рэчаў, якія не з'яўляюцца неабходнымі (*ex possibili et necessario*), звяртае ўвагу на аспект рэчаіснасці найбліжэйшы да таго, які мы абмяркоўвалі, калі гаварылі пра метафізіку як філасофію існуючага ў рэчаіснасці быту. Трэці шлях прапануе нам абраць пункт гледжання, які дазваляе сцвердзіць выпадковасць рэчы — прызнаць, што ўсё, што мы бачым, з'яўляецца крохкім з гледзішча існавання, не мусіць быць, ёсць выпадковым, але ёсць. Усё нібы падвешана ў несамастойнасці і залежыць ад існавання неабходнага. Бог выяўляецца тут як неабходнае існаванне, якое ёсць асноваю ўсіх існаванняў выпадковых.

Чацвёрты шлях — гэта шлях ступеняў дасканаласці (*ex gradibus perfectionis*). Калі паглядзім на свет, на рэчы, то напэўна ў сутнасным парадку гэтыя рэчы выявяцца як сутнасці вельмі рознай ступені дасканаласці. Духовыя быты больш дасканалыя за цялесныя, а сярод

цялесных больш складаныя мы ў прынцыпе прызнаем дасканалейшымі за менш складаныя. Шматлікія ступені дасканаласці маюць сваю аснову ў быце, які ўлучае ўсе ступені дасканаласці як паўната існавання. Цудоўны тэкст на гэтую тэму ёсць у *Каментары св. Тамаша да ўступу Евангелля св. Яна*. Бо трэба памятаць, што Тамаш быў таксама праніклівым каментатарам Святога Пісання. Гэта той аспект яго творчасці, які часта не бярэцца пад увагу з меркавання, што ён быў толькі філосафам і спекулятыўным тэолагам. А між тым св. Тамаш быў таксама выдатным біблістам, і каментары да Святога Пісання з'яўляюцца важнаю часткаю яго творчасці. У памянёным каментары ён піша: *Cum ergo omnia quae sunt, participent esse, et sunt per participationem entia, necesse est esse aliquid in cacumine omnium rerum, quod sit ipsum esse per suam essentiam, id est quod sua essentia sit suum esse, et hoc est Deus... a quo omnia quae sunt, participent esse* – паколькі ўсё, што існуе *omnia quae sunt,* – удзельнічае ў існаванні, *participent esse* – не мае ў сабе існавання, бо інакш яно мусіла б існаваць альбо было б гэткім дасканалым, што давала б існаванне само сабе — таму ўсе гэтыя рэчы з'яўляюцца бытамі праз удзел, а не бытамі самаіснымі. Св. Тамаш супрацьпастаўляе тут быт самаісны быту праз удзел, які ёсць таму, што ўдзельнічае ў існаванні. Таму неабходна, каб існавала штосьці на вяршыні ўсіх рэчаў: *in cacumine omnium rerum*, што па сваёй сутнасці *per suam essentiam* было б самім існаваннем; *quod sit ipsum esse per suam essentiam*, гэта значыць, што яго сутнасцю было б яго існаванне.

Тут мы прыходзім да фундаментальнага палажэння. Св. Тамаш паступова адкрывае нам, што ёсць толькі адзін, адзіны быт (і не можа быць двух!), які ў супрацьлегласць да ўсіх іншых, якія ёсць чымсьці і маюць існаванне, маюць нейкую сутнасць і валодаюць існаваннем — ёсць бытам, сутнасцю ці прыродаю якога ёсць існаванне. У ім няма розніцы паміж сутнасцю і існаваннем. Толькі Бог ёсць гэтым бытам, у якім сціраецца розніца паміж сутнасцю і існаваннем, уласцівая ўсім створаным бытам, але не Богу. Тут мы апынаемся ў самай сэрцавіне тэалогіі св. Тамаша. Зразуменне гэтай тэзы і разважанне над ёю дастатковае для зразумення ўсёй філасофіі і тэалогіі Тамаша. Калі хтосьці гэта добра разумее, ён мае ключ да ўсяго вучэння св. Тамаша, які кажа вельмі проста: і гэта ёсць Бог — Той, з якога ўсе існуючыя рэчы атрымліваюць існаванне. Бог – гэта адзіны быт, у якім гэтае злучэнне, гэтая складзенасць з магчымасці і здзяйснення, з сутнасці і існавання знікае. Гэтая складзенасць тут не патрэбная, таму што Бог ёсць само існаванне.

Нарэшце пераходзім да пятага шляху: з ладу і мэтазгоднасці ў свеце (*ex gubernatione rerum*). Ён звяртае ўвагу на пяты аспект — аспект парадку ў свеце, бо быты не толькі розняцца з гледзішча дасканаласці, але існуе іх іерархія. Арыстоцель казаў: «Свет не з'яўляецца кепска напісанай трагедыяй, гэта не бязладныя аскепкі, а суладная цэласць». І гэта цудоўная думка Арыстоцеля. Існуе парадак, які мае сваю прычыну, сваю крыніцу, які з'яўляецца водбліскам Таго, у Кім парадак даходзіць да канчатковага завяршэння, а менавіта Бога, чыстага акту, які ёсць *ipsum esse subsistens*, самім самаісным існаваннем. Такі вынік філасофскага разважання св. Тамаша.

Такім чынам, з гэтак званых «шляхоў» вынікае — па-рознаму, — што мусіць быць быт, сутнасцю якога з'яўляецца існаванне, які ёсць крыніцаю ўсяго, што існуе недасканала. Гэтае філасофскае разважанне суадносіцца са зместам Аб'яўлення.

Св. Тамаш не сумняваўся, што *Tetragrammaton*, ці святое імя Бога, названае ў Старым Запавеце Майсею: Ягвэ, належыць разумець як «Той, які ёсць». Тут было вымаўленае, кажа Тамаш, сапраўднае імя Бога, якое Бог хацеў аб'явіць чалавеку: «Так скажаш сынам Ізраэля: ЯКІ ЁСЦЬ паслаў мяне да вас» (Зых 3, 14). Як бы філалагічна не інтэрпрэтавалі гэтыя словы, несумненна тое, што думка пра існаванне нейкім чынам змяшчаецца ў гэтых выказваннях, і зрэшты, не толькі ў Кнізе Зыходу, але і ў іншых, яшчэ больш захапляючых нас, хрысціянаў, выказваннях Новага Запавету. Калі, напрыклад, Пан Езус прамаўляў у сінагозе і на словы: «Табе няма яшчэ пяцідзесяці гадоў, і ты бачыў Абрагама?», — ён адказаў: «Сапраўды, сапраўды кажу вам: раней, чым з'явіўся Абрагам, Я ёсць» (Ян 8, 57–58). Жыды добра зразумелі, што гэтае выказванне «Я Ёсць» (згодна з інтэрпрэтацыяй св. Тамаша) значыць, што Езус — Той, прырода якога — існаванне. «Ёсць» паказвае сутнасць Божай прыроды.

Дзіўна тое, што, нягледзячы на столькі ка-

ментараў Святога Пісання, зробленых айцамі Касцёла, такая інтэрпрэтацыя была дадзеная толькі св. Тамашам. Калі, напрыклад, св. Аўгустын разважае над гэтым пасажам, аналізуе гэтае месца ў Кнізе Зыходу, ён дае цалкам іншае тлумачэнне: кажа, што «Той, які Ёсць», гэта значыць — «Той, які трывае, які не змяняецца». Ён не ўхоплівае гэтага моманту існавання як асноўнага, канстытутыўнага элемента быту, кажа толькі: «Той, які трывае, які нязменны». У Платона Бог таксама — Той, які не змяняецца. Калі майстар Экгарт, адзін з вялікіх дамініканскіх містыкаў, аналізуе гэтае месца, ён тлумачыць яго прыгожа, але таксама цалкам інакш, чым св. Тамаш. Экгарт кажа: калі ў цемры ты спатыкаеш некага і пытаеш: «Хто ты?», а ён кажа: «Я той, хто ёсць», значыць ён хоча сказаць гэтым, што не хоча назваць табе сваё імя. Ён з'яўляе сябе як вялікая таямніца: «Я той, хто ёсць»; і кропка! І ты не павінен дапытвацца далей.

Толькі св. Тамаш тлумачыць гэтыя словы так, што Аб'яўленне згаджаецца тут з самою сутнасцю метафізічнага разважання. І вось гэта тыповае *revelabile*, гэта значыць праўда, якая была аб'яўленая, але да якой можна прыйсці таксама філасофскім намаганнем, гэтак, як мы стараліся прыйсці з дапамогаю гэтага самага філасофскага разважання да зразумення таго, што гэта значыць, што Бог ёсць самаісным існаваннем. У адным са сваіх першых твораў, а менавіта ў *Каментары да Сентэнцый* (змест якога св. Тамаш пазней не раз мадыфікаваў, а *Summa teologiae* з'яўляецца канчатковым выразам яго думкі) ён піша так: *In Deo autem ipsum esse suum est sua quidditas; et ideo nomen quod sumitur ab esse proprie nominat ipsum, et est proprium nomen eius.* — У Богу само існаванне ёсць Яго прыродаю, і таму назва, якая выводзіцца з існавання, акрэслівае яго адпаведна і ёсць яго сапраўдным імем (I 8, 1), *quidditas* — гэта тое ж, што і сутнасная прырода. Згодна са словамі св. Тамаша, Бог аб'явіў Майсею сваё сапраўднае імя, каб паказаць праз Аб'яўленне, што Бог ёсць само існаванне. І св. Тамаш, звычайна вельмі суворы, калі гэта датычыць пачуццяў, і не выяўляе іх, але ў гэтым адзіным выпадку, як кажа Жыльсон у *Філасофскай суме* (*C. gent.* I, 22), спыняецца ў поўным захапленні перад гэтай згоднасцю філасофіі з Аб'яўленнем. Спасылаючыся на тое, што Бог — *ipsum esse subsistens*, ён называе гэтую незвычайную праяву згоднасці Аб'яўлення і метафізікі *haec sublimis veritas* – праўдай дзівоснай узнёсласці. Яна перадае нам *proprium nomen Dei*, сапраўднае імя Бога, гэтае невымоўнае *tetragrammaton*. Гэтае імя пралівае святло на саму сутнасць Божай прыроды. Так што праўда пра Бога як самаіснае існаванне — гэта філасофская праўда, якую мы адкрываем шляхам філасофскай рэфлексіі, рэфлексіі прыроджанай і адначасна – гэта тая праўда, якую Бог аб'явіў пра сябе ў агністым кусце, пра што мы ведаем з Кнігі Зыходу.

Нават людзі, якія займаюць высокую пазіцыю ў касцёльнай іерархіі, аўтарытэты ў галіне тэалогіі, часта лічаць, што сённяшняму чалавеку гэтак званыя «доказы існавання Бога» св. Тамаша ўжо нічога не даюць, што трэба выключыць іх з душпастырства і катэхезы, што гэта толькі гістарычныя рэлікты, сёння ўжо не патрэбныя. І тут выяўляецца відавочнае непаразуменне. Бо не ідзе гаворка пра тое, каб рацыяналізаваць, каб уводзіць нейкія схаластычныя тонкасці ў мысленне, але проста пра тое, каб ісці на цвёрды грунт, а не на плыткае месца, на тое, што людзям здаецца прывабным і прыемным.

Натуральна, што філасофія не навяртае людзей, яна не з'яўляецца метадам непасрэднага душпастырскага ўздзеяння, але калі тыя, хто займаецца душпастырствам на той ці іншай дзялянцы, не будуць мець магчымасці паглыблення ў найвялікшыя дасягненні філасофска-тэалагічнай думкі, то ўрэшце яны не будуць мець таго матэрыялу, таго зместу, які сваімі словамі і іншым чынам павінны будуць потым перадаваць іншым. Гаворка не пра тое, каб гэтыя пяць шляхоў непасрэдна выкладаць з амбоны ці падчас катэхізацыі, але пра тое, каб кожны ў меру сваіх магчымасцяў абдумаў і вывучыў гэтае пытанне. Праблема Бога, Яго пазнавальнасці, Яго прыроды і ўрэшце Яго найглыбейшай сувязі са створанымі рэчамі належыць да тэмаў, якія павінны быць абдуманымі і перажытымі ўсімі адказнымі і неабыякавымі вернікамі.

*Пераклад з польскай мовы Алеся Жлуткі.*



# МІКАЛАЙ ГЕ. ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА

Пецярбургскі мастацтвазнаўца Сафія Караўкевіч напісала пра «Тайную Вячэру» Мікалая Ге: «Змест раскрываецца як філасофскі роздум мастака над сутнасцю жыцця, у гэтым плане ён працягнуў пошукі, распачатыя Аляксандрам Іванавым. Аточаны вучнямі Хрыстус (у Яго вобразе адлюстраваны партрэтныя рысы А.І.Герцэна) супрацьпастаўлены адкінутаму Юду як увасабленню зла, здрады высокім этычным ідэалам. Адмысловае месца ў кампазіцыі належыць асвятленню, у чым бачна творчае праламленне традыцый вялікіх майстроў мінулага»[1].

Цяжка ўявіць, што гаворка ідзе пра ранні твор зусім маладога жывапісца, якому было крыху за трыццаць. На пачатку свайго творчага шляху Мікалай Ге (1831–1894) намаляваў вялікую па памерах карціну, якая стала адной з самых знакамітых у гісторыі рускага жывапісу. Наперадзе былі дзесяцігоддзі пошукаў і адкрыццяў, але ў прынцыпе ўжо ў гэтым палатне Ге сказаў людзям усё, што хацеў сказаць. Нават марксісцкае мастацтвазнаўства вымушана было лічыцца з гэтым палатном. Яго не адважваліся схаваць у запаснікі, замаўчаць, прымусіць забыцца аб ім. Хітрыя тэарэтызаванні савецкага перыяду («религия тут ни при чём...») не маглі падмануць людзей, якія шукалі ў мастацтве рэлігійную духоўнасць. Аднак, як і многія ягоныя сучаснікі, Ге сутыкнуўся з неразуменнем з боку афіцыйнай царкоўнай іерархіі, якая заявіла, што карціна «надта рэалістычная», і забараніла яе рэпрадуцыраваць. На шчасце, карціну ўпадабаў і купіў для сваёй калекцыі імператар Аляксандр II. Цемрашалы адразу сцішыліся, а кіраўніцтва Пецярбургскай Імператарскай Акадэміі мастацтваў у пазачарговым парадку надало мастаку званне прафесара.

Мікалай Ге нарадзіўся ў Варонежы, у сям'і памешчыка, нашчадка французскіх імігрантаў, якія ўцяклі ў Расію з рэвалюцыйнай Францыі (цікава, што бацька мастака ўдзельнічаў у складзе рускай арміі ў акупацыі Парыжа ў 1814 г.). У 1841 г. сям'я пераехала ў Кіеў, дзе пасля заканчэння гімназіі Ге вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце мясцовага ўніверсітэта. Юнак працягнуў навучанне ў Пецярбургскім універсітэце, але ў 1850 г. пакінуў факультэт і паступіў у Акадэмію мастацтваў, дзе навучаўся пад кіраўніцтвам П. Басіна. За работы на антычныя і біблейскія тэмы Ге атрымаў акадэмічныя ўзнагароды і быў накіраваны на пенсіянерства за мяжу. Пасля творчай працы ў Парыжы ён пераязджае ў Італію і працуе спачатку ў Рыме, а потым у Фларэнцыі. У Рыме ён пазнаёміўся з сваім вялікім папярэднікам у жывапісе Аляксандрам Іванавым, а ў Фларэнцыі пасябраваў з Аляксандрам Герцэнам, партрэт якога намаляваў і нелегальна пераправіў у Расію. Менавіта ў Італіі Ге намаляваў карціну «Тайная Вячэра» і шэраг іншых работ на евангельскую тэму, але ўсе яны мелі халодны прыём у пецярбургскай Акадэміі.

У 1870 г. мастак вярнуўся ў Пецярбург, але ў 1875 г. назаўсёды пераехаў ва Украіну, пасяліўшыся на хутары Іванаўскім на Чарнігаўшчыне. На працягу некалькіх гадоў Мікалай Ге перажываў глыбокі духоўны крызіс, падчас якога не маляваў, шмат думаў і пісаў на рэлігійныя тэмы. З крызісу яго вывеў Леў Талстой, з якім ён пазнаёміўся ў Маскве ў 1882 годзе. Ге пачаў плённа працаваць над евангельскімі тэмамі, але крытыка і публіка не зразумелі ягоных наватарскіх работ. Нават такі шэдэўр, як карціна «Што ёсць ісціна?» (1890), быў зняты з выставы і высмеяны ў прэсе. Жывапісная і вобразная трактоўка хрысталагічнай тэмы была настолькі новаю, што абсалютная большасць сучаснікаў

мастака не прыняла яго адкрыцці. Памёр мастак на сваім хутары на Чарнігаўшчыне (там знаходзіцца яго магіла).

Мікалай Ге апярэдзіў свой час і прадвызначыў тэндэнцыі развіцця еўрапейскага жывапісу XX стагоддзя. І хаця ў яго ранняй карціне «Тайная Вячэра» яшчэ няма экспрэсіўнага гучання колеру, свабоды жывапіснай пластыкі, але ў ёй адбылося канчатковае выйсце мастака па-за рамкі акадэмічнай традыцыі і засваенне абсалютна новай мастацкай лексікі.

Перш за ўсё ў «Тайнай Вячэры» ўражвае кампазіцыя. Мастак разгортвае яе як мізансцэну тэатральнай драмы. Прастору вялікага пакоя, дзе адбываецца апошняя сумесная сустрэча Настаўніка з вучнямі, амаль напалам падзяляе (дакладней, зломвае) кут, выдзелены рэзкай простай лініяй ценю на фоне. Менавіта так, крыху збоку, мы назіраем за тым, што адбываецца ў слаба асветленай прасторы. У адрозненне ад безлічы карцін на гэтую тэму, фігура Хрыста не з'яўляецца ў рабоце Ге галоўным цэнтрам кампазіцыі — такіх цэнтраў некалькі. Хрыстус толькі што вымавіў словы выкрыцця здрады і здрадніка і паглыбіўся ў сумны роздум. Ён ляжыць на ложку і цяжка абапірае галаву на руку. Другая рука апушчана на калена як знак пакорлівага падпарадкавання Божай волі. Пачуўшы словы Хрыста, узняўся юны апостал Ян, які напружана глядзіць услед Юду. На супрацьлеглым краі гэтай кампазіцыйнай лініі ёсць такі ж дынамічны ўсплеск у фігуры святога Пятра. Ён таксама ўскочыў з свайго месца і кідае гнеўны позірк на здрадніка. Фігуры іншых апосталаў значна слабей прачытваюцца на фоне ценю ад фігуры Юды, які хістануўся ўлева ад простай лініі, што падзяляе кампазіцыю.

А на першым плане, справа, на самым ускрайку кампазіцыі, манументам падласці ўзвышаецца постаць-цень Юды. На працягу стагоддзяў творцы выяўленчага мастацтва і тэатралізаваных містэрый надавалі выгляду адступніка самыя адмоўныя рысы, каб глядач адразу ідэнтыфікаваў яго сярод апосталаў. Для Мікалая Ге Юда — істота, пазбаўленая партрэтных рысаў. Юда — амаль абстрактнае ўвасабленне цёмнай сілы, кіруемай д'яблам. Накрываючы галаву плашчом, здраднік хавае свой твар і пакідае Вячэру Пана. Уся энергетыка палатна такая насычаная Боскім святлом, што яна вывяргае прэч гэты чорны згустак зла. У правай частцы кампазіцыі вызначаны самы моцны кантраст усяго ладу карціны. Цёмны сілуэт Юды гучыць яшчэ больш змрочна ў рэзкім супастаўленні з ярка асветленай постаццю святога Пятра. Твар апостала вылеплены найбольш выразна з усіх партрэтных выяваў кампазіцыі, як і ягоная фігура. Ён абапіраецца на стол, накрыты белым абрусам, які спадае амаль да самай падлогі. Гэты фрагмент карціны прымае на сябе, як экран, плынь святла, што разліваецца ад крыніцы збоку ад Юды. Сціплы нацюрморт — сасуды, кош, скамечаны ручнік — ледзь парушаюць геаметрычную чысціню гэтай выявы (і ў гэтым жыве кантраст з ламаным сілуэтам постаці Юды).

Цень ад фігуры здрадніка падае на сцяну за групай апосталаў. Ён, як монстр, як лютая пагроза, навісае над вучнямі Езуса і над Ім. Цяжкая маса ценю часткова накрывае сабою і праём акна над галовамі апосталаў, зліваючыся з цемраю начы. Але ў гэтай цемры пераліваецца жывым блакітам водблеск месяца. Там царуюць ціша і спакой — свет нічога не ведае пра драму, што разыгралася на Вячэры Пана.

Кампазіцыйныя і пластычныя нюансы напаўняюць карціну глыбокім сэнсам. Трактоўка часткі палатна, на якой паказаны Хрыстус, бадай самая статычная ў кампазіцыі, але покрыва на ложку, які служыць асноваю Ягонай постаці, намалявана мастаком надзвычай дынамічна: скамечаныя складкі тканіны ўскаламучаны хвалямі ценяў. У стыхіі беспрадметнага адлюстроўваецца трагічны стан душы Езуса...

Колеры амаль не маюць голасу ў карціне Мікалая Ге, але гэта свядомае самаабмежаванне мастака. Ён дэманструе бліскучае валоданне майстэрствам малюнка, якое заўсёды было на вышыні ў пецярбургскай Акадэміі. Праца з натураю дала выдатны вынік — ад акадэмічных штудый Ге робіць рывок у жывое, рэалістычнае, адухоўленае мастацтва. Чалавек дэмакратычных поглядаў, талстовец, Мікалай Ге вяртае сваіх сучаснікаў і наступныя пакаленні людзей да вечных хрысціянскіх каштоўнасцяў.

*Валеры Буйвал*

[1] История русского искусства. Под ред. В. И. Плотникова. — Москва, 1980. — С. 135–136.

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

**КНІЖКА ЧАЦЬВЁРТАЯ**

**АБ НАЙСЬВЯЦЕЙШЫМ САКРАМЭНЦЕ**

Пабожны заклік да сьвятой Камуніі

### Разьдзел XIII

*Пабожная душа ўсенькім сэрцам павінна імкнуцца, каб злучыцца ў Сакрамэнце з Хрыстом*

**1.** Хто ж дасьць мне, Пане, каб найшоў я Цябе адзінага ды адчыніў перад Табою ўсенькае сэрца сваё і весяліўся Табою, паводле таго, як імкнецца душа мая, каб ніхто ўжо мною не пагарджаў, каб ніякае стварэньне ня здолела мяне пацягнуць за сабою ды надта цікавіць, а каб Ты адзін толькі са мною гутарыў, а я з Табою, як любы да любага гаворыць ці прыяцель да прыяцеля.

Гэтага я прашу, да гэтага імкнуся, каб з Табою цалкам злучыцца, ачысьціць сэрца сваё ад усяго, што створана, а каб праз сьв. Камунію ды частае адпраўленьне Імшы навучыўся я любіць усё нябеснае ды вечнае.

Ах, Пане і Божа, калі на гэтулькі злучуся я з Табою, на гэтулькі буду захоплены, каб забыўся зусім аб сабе?

Ты ўва мне, а я ў Табе, ды ў гэткай лучнасьці, каб назаўсёды трываць.

**2.** Сапраўды Ты мой Улюблёны, з тысячаў выбраны, у якім душа мая хоча жыць праз усенькія дні жыцьця свайго.

Ты сапраўды маё ўспакаеньне, у Табе супакой найвялікшы ды сапраўдны адпачынак, а ўсё апроч Цябе — адныя сьлёзы з сумам, праца ды бяда бязконцая.

Ты сапраўды Бог укрыты, ня маеш ніякіх Ты гутарак з людзьмі бязбожнымі, а толькі зьвяртаешся да пакорных і простых.

О, які салодкі дух Твой, Пане, бо каб паказаць ласкавасьць сваю сынам Тваім, даеш ім магчымасьць пасілкавацца хлебам найсалодшым, які зь неба прыходзіць.

*Сапраўды няма іншага народу так вялікага, каб багі ягоныя блізка былі да яго, як Ты, наш Бог* (Дрг 4, 7), што заўсёды з'яўляешся сваім верным ды даеш сябе за страву нам дзеля заўсёднае супацехі ды дзеля таго, каб падымаць іхныя сэрцы ў неба.

**3.** Бо ці ж ёсьць дзе іншы народ гэткі слаўны, як народ хрысьціянскі?

Або якое ж стварэньне пад небам бачыць гэтулькі любові, як душа пабожная, да якое Бог сам прыходзіць, каб карміць яе сьвятым сваім Целам.

О, нявыказаная ласка! О, дзіўная дабрата! О, любоў бязконцая, аказаная найбольш чалавеку!

Чым, аднак, я аддзякую Пану за ласку гэную, за гэткую бязьмерную любоў?

Ня маю нічога вялікшага, што мог бы даць ды чым аддзякаваць, як толькі ахвяраваць сэрца маё ўсенькае Богу ды найстульней зь Ім злучыцца.

Калі ж ужо злучыцца дасканальна душа мая з Богам, тады ўзьвесяліцца яна ўсенькая.

Тады скажаш Ты мне: калі хочаш быць са Мною — Я хачу быць з табою. А я адкажу: будзь, Пане, са мною, а я радасна буду з Табою.

Гэта адзінае імкненьне маё, каб сэрца маё было злучана з Табою.

### Разьдзел XIV

*Аб гарачым пажаданьні Цела Хрыста ў некаторых пабожных душаў*

**1.** *Якая ж вялікая колькасьць салодкасьці Твае, Пане, што схаваў Ты яе дзеля тых, што баяцца Цябе* (Пс 30, 20).

Калі падумаю пра тых пабожных, што з гэткаю пабожнасьцю ды любоўю прыступаюць да Сакра-

*Працяг. Пачатак у 1–4 за 2007–2012 гг.*

мэнту Твайго, Пане, тады сам у сабе саромлюся ды чырванею, што да алтара Твайго, да стала Камуніі з гэткаю неахайнасьцю ды холадам прыступаю, што гэткі я нейкі сухі ды бяз ніякага ўсэрцы чуцьця, што не гару я ўвесь міласьцяй да Цябе, Бога майго, і што ня гэткая прага ды імкненьні мяне абхапілі, як шмат якіх іншых, пабожных, якія дзеля вялікага пажаданьня сьв. Камуніі і дзеля гарачай міласьці ад сьлёзаў не патрапяць стрымацца.

І клічуць Цябе яны вуснамі сэрца свайго ды аднолькава імкнуцца і целам сваім да Цябе, Божа, крыніцы жывое.

Свае смагі ніяк не патрапяць супакоіць ды голаду накарміць, калі ня прымаюць Цела Твайго, у радасьці вялікай духа ды з сьвятым пажаданьнем.

**2.** Гэткая сапраўды гарачая іхная вера — гэта ўжо ясны доказ Тваёй сьвятой прысутнасьці!

Бо тыя сапраўды пазнаюць Пана свайго, *ломячы хлеб* (Лк 24, 30—32), сэрца якіх так гарыць праз Езуса, каторы ідзе зь імі.

Далёка ад мяне часта гэткая пабожнасьць і чуласьць гэткая вялікая, любоў ды жарлівасьць.

Зжалься нада мною, добры Езу, салодкі і міласэрны, і дай мізэрнаму жабраку свайму, каб хоць крышку калі гарачае любові да Цябе пачуць у сабе, каб вера мая пабольшала ды надзея ў дабрату Тваю, любоў мая да Цябе, раз пачаўшы гарэць і ўзмацаваная маннай нябеснай, ніколі ўжо мяне не пакідала.

**3.** Вялікая міласэрнасьць Твая, і магу я праз яе даступіцца да жаданае сабе ласкі, а калі прыдзе той дзень вялікае ласкавасьці Тваёй, духам жарлівасьці напоўні мяне.

Бо хаця і не гару яшчэ я агнём пажаданьня, як іншыя з выбраных пабожных Тваіх, аднак ласка Твая спараджае ў мяне імкненьне да стану такога, і малюся тады, і прашу, каб зрабіў Ты мяне ўчасьнікам усіх тых, што горача Цябе любяць, ды каб схацеў Ты бачыць мяне ў іх ліку.

## Разьдзел XV

### *Ласка пабожнасьці прыходзіць праз пакору і зрачэньне самога сябе*

**1.** Трэба табе няўхільна імкнуцца да ласкі, горача прасіць, цярпліва і верна чакаць, з падзякаю прымаць, пакорна захаваць, пільна працаваць зь ёю, а пакінуць Богу хвіліну ды абставіны, калі схоча Ён цябе адведаць.

Асабліва трэба табе пакарыцца, калі мала або ніякае пабожнасьці чуць ня будзеш, але ня трэба, аднак, дзеля гэтага кідацца ў роспач ды сумаваць бязьмерна.

Часта Бог дае ў адной кароценькай хвіліне, чаго доўга даць не хацеў; дае часам у канчатку малітвы тое, чаго не хацеў даць у яе пачатку.

**2.** Калі б даваць заўсёды хутка ласку ды на кожную просьбу, чалавеку ўломнаму было б гэта небясьпечным.

Дзеля гэтага з трывалкаю надзеяю ды пакорліваю цярплівасьцю трэба чакаць на ласку пабожнасьці. Калі, аднак, дар гэты хутка табе не даецца або забіраецца таёмна ад цябе, дык усё гэта дзеля грахоў тваіх.

Часта драбязa нейкая спыньвае або аддаляе ласку, калі малым — замест вялікага — назваць можна тое, што праганяе гэткае вялікае дабро. Калі ж гэную малую ці вялікую перашкоду аддаліш ды дасканальна пераможаш, дастанеш, чаго просіш.

**3.** Бо калі толькі аддасі сябе цалкам Богу ды ня будзеш глядзець нічога, каб здаволіць пажаданьні свае, а ўсенькім сэрцам злучышся з Богам — зразу супакоішся, бо ж нічога так хацець ня будзе табе так падабацца, як тое, што мілае волі Божай.

Дык хто думку сваю ў прастаце сэрца падымае да Бога ды пражане ўсю неўпарадкаваную любоў далёка, ды ў кім ня будзе ніякай нездаволенасьці з тае ці іншае створанае рэчы — той будзе надта здатным, каб ласку прыняць, ды будзе даступным дару пабожнасьці.

Бо Пан парожняе і чыстае начыньне напаўняе сваім блаславеньнем.

А чым больш дасканальна хто зрачэцца зямных рэчаў, ды чым больш, пагарджаючы сабою, уміpae дзеля сябе, тым хутчэй з'яўляецца ў таго ласка, і ў вялікшай колькасьці ды вышэй падымае свабоднае сэрца ягонае.

**4.** Тады гляне і дзівіцца будзе з гэнага вялікага свайго багацьця і ўзьвесяліцца сэрца ягонае, бо зь ім рука Пана, а ён зусім ды назаўсёды аддаўся ў рукі Яго.

Вось гэтак будзе блаславёны чалавек, які імкнецца да Бога з усенькага сэрца свайго ды *нялёгкаважыць душы свае* (Пс 23, 4).

Такі, прымаючы сьвятую Эўхарыстыю, вялікаю будзе карыстацца ласкаю лучнасьці з Богам, бо не глядзіць ён уласнае пацехі ды пабожнасьці, а больш за ўсякую пабожнасьць ды пацеху глядзіць на чэсьць ды хвалу Божую.

*Заканчэнне будзе.*

Язэп Янушкевіч



# Руплівец на Божай ніве

*Якубу Дадэрку — першаму біскупу Менскай дыяцэзіі — прысвячаецца*

«На пажары харомаў не распісваюць...» Нібы пярэчачы гэтай народнай прыказцы, біскуп Дадэрка аздобіў касцёл шматлікімі роспісамі, фрэскамі, надпісамі, выявамі розных святых. Нават уласны партрэт не палічыў лішнім змясціць у прэзбітэрыі. Але найлепш зноўку даць слова тагачаснаму сведку — нават двум, паэту Уладзіславу Сыракомлю, які ў сваім слынным нарысе пра Менск цытуе «праемсійнае» выказванне яшчэ аднаго творцы, мастака Адама Шэмеша.

«З мноства старажытных каталіцкіх святынь у Мінску засталося ўсяго толькі тры ў месце і дзве на гарадскіх могілках. Найзнакаміцейшая з іх — езуіцкі касцёл, цяперашні катэдральны. Стаіць ён, мабыць, на тым месцы, дзе Уладзіслаў Ягайла заклаў першую каталіцкую святыню. У палове семнаццатага стагоддзя аселі тут езуіты; але набажэнства сваё адпраўлялі ў драўлянай капліцы — аж да 1700 года, у якім і пачалі ўзводзіць муры гэтага касцёла. Праз дзевяць гадоў яго асвяцілі. Святыня гэтая не была пышная, бо, незалежна ад даволі багатых ахвяраванняў, што адусюль прыбывалі і ўзрасталі, Мінская езуіцкая калегія не належала да самых знакамітых. Даволі сціплы касцёл, хоць і пабудаваны на відным месцы Высокага рынка, страляе ўгору дзвюма гатычнымі чатырохбаковымі, на чатыры ярусы, вежамі, а на плошчу выходзіць як бы ўнутранай галерэяй ці калідорам

Першым Мінскім біскупам быў прызначаны Якуб Дадэрка, віленскі пралат, кавалер ордэна св. Станіслава. Але перад самым заснаваннем Мінскай парафіі катэдральны касцёл стаў ахвяраю пажару ў палове 1797 года. Згарэла значная частка касцёльных рэчаў, што засталіся ад езуітаў.

*Заканчэнне. Пачатак у 2.*

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ** — літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў мястэчку Ракаў у 1959 годзе. У 1981 г. скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. У 1984 г. — аспірантуру ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі.
Аўтар звыш 200 публікацый, у тым ліку кніг «Беларускі Дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча» (1991); «У прадчуванні знаходак: З адной вандроўкі ў архівы Варшавы, Вроцлава, Кракава» (1994); «Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі» (1995); «За архіўным парогам» (2002). На высокім тэксталагічным узроўні падрыхтаваў і выдаў творчую спадчыну шматлікіх дзеячаў беларускай культуры і літаратуры: аднатомнікі твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1984, 2001), Францішка Багушэвіча (1991, 1998, 2001), Вацлава Ластоўскага (1997, 2001).

...Дакладна не памятаю, у якім стане быў катэдральны касцёл у Мінску перад яго цяперашнім аднаўленнем; але пра гэта мне расказаў наш мастак пан Адам Шэмеш, які падчас апошняга нашага гасцявання згадзіўся таварышаваць у нашых вандроўках, а пасля даслаў асобную нататку пра тутэйшыя святыні. Вось яго ўражанне пра адбудову касцёла біскупам Дадэркам: «Дзіўнае ўяўленне меў гэты чалавек аб харастве і дасканаласці Божай святыні. Усё скляпенне ва ўсіх трох навах загадаў ён замаляваць карцінамі і сімваламі з Новага Запавету; сярэдзіну займае купал з калонамі, але яны так невыразна адмаляваны, што ні на кога не робяць аніякага ўражання. Усе гэтыя малюнкі на сценах выканаў мастак Анташэўскі, найлепшы на той час у Мінску. Дадэрка паўсюль пакінуў поўна розных надпісаў, то рэлігійных і містычных, то з мэтаю ўласнага самаўсхвалення. Ягоны партрэт у поўны рост змешчаны ў прэзбітэрыі, другі, меншы — у закрыстыі. Усюды было шмат галерэек, упрыгожанняў, нейкіх аксамітных фіранак, усюды панавала стракатасць, вока не мела на чым адпачыць, скрозь Дадэрка панавешваў бліскучых шкляных жырандоляў. У якім жа стылі было гэтае аднаўленне? Цяжка вызначыць. Хіба, можа, назваць яго ўласна «дадэркаўскім»! Дадамо, што такая стракатасць колераў дзіўна адбіваецца і ад нізкай падлогі, і ад змрочных сцен касцёла. Што ж да жывапісу — першае месца займаюць тут чатыры арыгіналы Чаховіча і адна ўдалая копія з яго. Ахарактарызуем жа іх падрабязна, спасылаючыся на меркаванне спадара Шэмеша, тым болей аўтарытэтнае, што той, хто яго выказвае, сам знакаміты мастак і сумленны чалавек, вольны ад дробязных поглядаў, якімі так часта кіруюцца нашы творчыя людзі»[8].

Суседні з катэдрай дамініканскі кляштар быў перабудаваны кс. Дадэркам на палац біскупа. Новы Менскі біскуп вымушаны быў шукаць сродкі і на суфраганію, і на менскую капітулу. Пераймаючы ў нечым досвед мітрапаліта Станіслава Богуша-Сестранцэвіча, ён надзяліў мацнейшыя парафіі маёмасцю (крыніцамі прыбытку сталі вернутыя вёскі й маёнткі). Пралатуры заснаваў у моцных парафіях: барысаўскай, іказьніцкай, менскай, нясвіжскай, радашкавіцкай і слуцкай, а каноніі — у Докшыцах, Івянцы, Клецку, Ляхавічах, Нядзведзіцах і Цімкавічах. Заснаваў кансісторыю, дзеля якой адмыслова набыў новы будынак. Па стане на 1800 г. Менская дыяцэзія мела 57 кляштараў, 162 касцёлы, да якіх прыналежала 199 597 вернікаў.

Гэта ўсё — лічбы. А што можна сказаць яшчэ канкрэтнага пра найбліжэйшых паплечнікаў першага Менскага біскупа?

Дзякуючы рарытэтнай крыніцы — «Полацкаму палітычнаму (?!) календару на 1802 г.», можна пайменна аднавіць не толькі структуру, але і склад Менскай дыяцэзіі пры першым яе кіраўніку.

МЕНСКАЯ ДЫЭЦЭЗІЯ

Якуб Дадэрка, біскуп Менскі, інфулат Алыцкі, кавалер ордэнаў Белага Арла і св.Станіслава.

БІСКУПЫ–СУФРАГАНЫ

Суфраган менскі — Vacat.

Біскуп Мікалай Быкоўскі, пробашч катэдры.

КАПІТУЛА

Пробашч Мікалай Быкоўскі, біскуп.

Архідыякан Анупрэй Гзоўскі, віленскі канонік.

Дэкан Юзаф Катэнбрынг, берасцейскі канонік.

Схаластык Антось Букаты, кавалер ордэнаў: св. Ганны і св. Станіслава, інфулат ляхаўскі:

Захавальнік-кусташ Жыгімонт Ластоўскі, канонік інфлянцкі.

Кантар Тэадор Ванькові, архідыякан беларускі.

КАНОНІКІ

1. Юзаф Камінскі.
2. Шымон Трацэўскі.
3. Казімер Міцкевіч.
4. Вінцэсь Супіньскі, асэсар у Духоўнай калегіі.
5. Ігнась Дэнісэвіч.
6. Мацей Пазняк.
7. Ігнась Астроўскі.
8. Цыпрыян Чахорскі
9. Канцлер Міхал Цыдзік.
10. Сакратар Мацей Цеслякевіч.

КАНСІСТОРЫЯ

Генеральны афіцыял Жыгімонт Ластоўскі.

Суфраган Тэадор Ваньковіч.

АСЭСАРЫ

1. Мацей Пазняк, канонік менскі.
2. Цыпрыян Чахорскі, канонік менскі.
3. Юры Ёдка, пробашч заслаўскі.
4. Мацей Цеслякевіч, сакратар капітулы.
5. Сакратар Мікадзім Францкевіч[9].

---

[8] Сыракомля Ул. Мінск: Нарыс (перакл. з польскай К. Лялько) // Сыракомля У. Добрыя весці: Паэзія, проза, крытыка / Уклад. і камент.: У. Мархеля, К. Цвіркі; Прадм. К. Цвіркі. — Мінск: Маст. літ., 1993. — С. 330–332.

[9] Kalendarz polityczny Połocki na rok Pański 1802. Połock, 1801(?). – b/p, [140 s.]

Віктар Маліноўскі

# …Толькі касцёл

## Да 100-годдзя кансэкрацыі касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Бабруйску


Бабруйскі касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў 1912 г.

Перадгісторыя пабудовы ў Бабруйску касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі была даволі складаная. 15 снежня 1885 г. адбылося трагічнае для ўсёй каталіцкай супольнасці Бабруйскага дэканата і парафіі здарэнне — пажар у старажытным парафіяльным касцёле св. апосталаў Пятра і Паўла. Дагэтуль рэнесансная святыня, пабудаваная ў 1630-я гады, неаднаразова зазнавала панішчэнне агнём: у 1648 г. і 1655 г. гэта здарылася праз ліхадзейства казакаў, а ў ліпені 1859 г. пажар здарыўся ад удару маланкі ў касцёльную вежу. Кожны раз касцёл аднаўлялі, але шкода, нанесеная агнём снежаньскай ноччу 1885 г., была непапраўнаю. Уратаваныя касцёльныя рэчы перанеслі ў суседнюю двухпавярховую плябанію, адзін з пакояў якой быў ператвораны ў капліцу, дзе змяшчалася не больш за 70 чалавек. Дый суседства з каталіцкаю святыняю было непажаданым для кіраўніцтва вайсковага гарнізона, размешчанага ў Бабруйскай крэпасці, якая з 1810 г. увабрала ў сябе землі з парафіяльным касцёлам і плябаніяй. Для вайсковых мэтаў, артылерыйскага цэйхгаўзу, у 1810 г. быў прыстасаваны былы езуіцкі касцёл пабудовы 1747 г., які перайшоў у распараджэнне свецкай улады яшчэ ў 1773 годзе.

Католікі Бабруйска мусілі прасіць у гарадской управы іншае месца для будаўніцтва новага касцёла. Разгляд прашэння заняў больш за 7 гадоў. Яшчэ некалькі гадоў спатрэбілася на ўзгадненне з Духоўнай кансісторыяй і ўладамі ў Санкт-Пецярбургу праектна-каштарыснай дакументацыі на новабудоўлю. І толькі ў 1895 годзе, на пустцы Слуцкага фарштату (прадмесця), па вул. Разенмаркаўскай, распачалося будаўніцтва драўлянага будынка новага бабруйскага касцёла і плябаніі. 1 мая 1896 г. сямідзесяцігадовы бабруйскі дэкан і пробашч кс. Міхал Аляхновіч паведаміў у Духоўную кансісторыю: «Новапабудаваны ў Бабруйску рымакаталіцкі касцёл пачаў богаслужэнні...». З гэтым драўляным касцёлікам бабруйскія католікі сустрэлі XX стагоддзе.

Параслед Касцёла ў нашым краі царскай уладай у другой палове XIX ст. не змог суняць дзеяння Духа Святога. І гэты Дух натхніў да святарскіх і манаскіх пакліканняў мноства лепшых сыноў і дачок нашай зямлі. Многія з іх сталі тымі падзвіжнікамі, якія ў пачатку XX ст. ахвярна спрычыніліся да духоўнага і рэлігійнага адраджэння і ў сваіх парафіях, і ва ўсім Касцёле на Беларусі. Адным з іх быў ксёндз Ян Красоўскі. Божы Провід падрыхтаваў гэтаму святару магчымасць скласці ўсе свае таленты і дары на алтар служэння Богу і людзям на Бабруйшчыне. У 1901 г. кс. Яна прызначылі выконваючым абавязкі дэкана, а ў 1902 г. ён стаў дэканам Бабруйскага дэканата і парафіяльным пробашчам. Абсяг працы на гэтай пасадзе быў даволі вялікі. Дэканат займаў значны абшар з парафіямі ў Шацілках (цяпер Светлагорск), Глуску, Свіслачы (цяпер Асіповіцкі р-н) і Харомцах (цяпер Акцябрскі р-н). А ў парафію, апроч Бабруйска, уваходзіла дзесяць філій, у тым ліку ў Асіповічах. У 1901 г. здараецца новае выпрабаванне — згарае драўляны парафіяльны касцёл. Нават цяжка ўявіць разгубленасць бабруйскіх вернікаў — незагойнаю ранаю яшчэ чарнеліся асмыленыя руіны старадаўняга касцёла, а да гэтай раны дадалося папялішча новабудоўлі...

Але ксёндз Красоўскі здолеў мабілізаваць усю сваю волю і пастанавіць сабе, што новы касцёл у Бабруйску абавязкова будзе. За вельмі кароткі час кс. Яну ўдалося вырашыць мноства пытанняў: дабіцца дазволу

**Віктар Маліноўскі** — публіцыст, піша таксама вершы. Нарадзіўся ў 1971 годзе ў Бабруйску. Аўтар кнігі «...І будуць расчынены брамы. Гісторыя касцёлаў Бабруйска» (2008). Жыве і працуе ў Бабруйску.

на пабудову касцёла ад мясцовай і пецярбургскай уладаў; распрацаваць праект і зацвердзіць яго каштарыс; знайсці фундатараў, якія б аператыўна ахвяравалі значныя сродкі на будаўніцтва; заахвоціць да ахвярнай дапамогі найбаднейшых парафіянаў. Усё гэта паспрыяла таму, што ўжо 8 мая 1903 г. у Бабруйску адбылася закладка вуглавога каменя неагатычнага касцёла ў гонар Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. Муравaную святыню ўзводзілі непадалёк ад згарэлага драўлянага касцёла. Паводле ўспамінаў старых парафіянаў, запісаных у 1993 годзе, кс. Красоўскі ўсімі сіламі стараўся скончыць будаўніцтва за тры гады, і ён гэтага дамогся. З усіх навакольных вёсак, дзе жылі католікі, людзі дапамагалі — хто працоўнаю сілаю, хто грашыма. Нельга абмінуць удзячным успамінам асноўных ахвярадаўцаў касцёла, якімі былі прадстаўнікі шляхецкіх родаў: Сымон Забэла, Баляслаў Тышкевіч, Вінцэнт і Марыя Козел-Паклеўскія, Юзэфа фон Урдман, сем'і Сыраколяў-Булгакаў, Зарубаў, Кяльчэўскіх і Мурашкаў.



Выгляд Слуцкага фарштату Бабруйска ў пач. XX ст.
Касцёл — у левым верхнім кутку здымка.

У другой палове 1906 г. у Бабруйску з'явіўся новы велічны касцёл. Яго архітэктура да апошняй дробязі была вырашана ў стылі неаготыкі. Трохнававы касцёл меў даўжыню 17 сажняў/36 м; шырыню — 9 с/19 м; вышыню — 8 с/17 м. Званіца з шатровым купалам, вышынёю 20 с/42,5 м, была завершана металічным крыжам. Касцёл асвяціў мінскі дэкан — кс. Казімір Міхалькевіч. Цягам наступных трох гадоў у адзіным стылі быў выкананы інтэр'ер храма — вялікі галоўны алтар, канфесіяналы, амбона і пяць радоў лавак, выробленых з дубу; жалезная балюстрада паміж касцёльнаю наваю і прэзбітэрыем і іншае. Адпаведна тытулу касцёла, пачэснае месца ў сярэдняй нішы галоўнага алтара было адведзена абразу Беззаганнай Мадонны, копіі славутага твора іспанскага мастака XVII ст. Барталомэ Мурыльё. Над алтарамі бочных наваў мясціліся абразы Маці Божай Вастрабрамскай і Сэрца Збавіцеля. Над уваходам, на хорах, былі ўстаноўлены арганы фірмы братоў Рыгераў з Вірыдорфа, набытыя ў 1908 годзе. На званіцы паступовa павесілі тры званы. Тэрыторыю вакол касцёла і плябаніі, плошчаю больш за 1 га, абнеслі цаглянаю агароджаю з кованымі пралётамі. Касцёл архітэктурнаю дамінантаю ўзвышаўся над навакольнаю аднапавярховаю забудоваю.

9 верасня 1912 г. адбылася векапомная падзея, шлях да якой пралягаў праз выпрабаванні і непахіснасць веры. У гэты дзень Яго Эксцэленцыя Магілёўскі арцыбіскуп мітрапаліт Вінцэнт Ключынскі здзейсніў кансэкрацыю галоўнага алтара і касцёла ў Бабруйску.

Да 1917 г. бабруйская парафія, якая мела 6 000 вернікаў, уваходзіла ў Магілёўскую архідыяцэзію. Бабруйскі дэкан і пробашч кс. Ян Красоўскі з'яўляўся яшчэ і канонікам — сябрам дыяцэзіяльнай капітулы. Адзінаццаць гадоў працы ксяндза Яна сталіся для парафіі вельмі плённымі. Гэта быў прыгожы, інтэлігентны чалавек, асоба і навукі якога прывабілі і вярнулі да рэлігійнай практыкі шмат людзей — парафія ўзрасла да 10 000 чалавек. Ім было створана Дабрачыннае таварыства для дапамогі бедным і абяздоленым. Сярод бабруйчанаў ён меў важкі і бездакорны аўтарытэт. На жаль, пасля моцнай прастуды напрыканцы 1912 года ксёндз Ян Красоўскі адышоў да Пана Бога. Пахавалі кс. Яна паблізу касцёла, у месцы, дзе ўжо спачывалі парэшткі двух святароў. Вось такім шчасным і журботным увайшоў 1912 год у гісторыю бабруйскай каталіцкай парафіі.

Паводле даўніх успамінаў вернікаў, самы вялікі фэст у парафіі ладзіўся на свята Божага Цела, калі ў Бабруйск з'язджаліся тысячы католікаў з усяго дэканата. Пілігрымы ледзьве раскватароўваліся ў 30-тысячным горадзе. У дзень урачыстасці па цэнтральных вуліцах праходзіла такая грандыёзная працэсія, што з ёй не магло параўнацца ніводнае іншае святкаванне ў горадзе. Уражаны гэтым дзействам у маленстве, польскі пісьменнік, нараджэнец Бабруйшчыны Фларыян Чарнышэвіч, апісаў яго ў сваім аўтабіяграфічным рамане «Надбярэзінцы».

Як праява асаблівай пабожнасці ў парафіі практыкавалася малітва ў паставе лежачы крыжам. Дзеля гэтага ў левай наве мелася адмысловае месца перад алтаром, пазначанае крыжам і акаймаванае шлякам. Як згадвае найстарэйшая парафіянка Гэлена Казіміраўна Жыбартовіч, якая памятае касцёл з 30-х гадоў, як бы ні было ў касцёле шматлюдна ў вялікія святы, на гэтае месца ніхто не ступаў. Людзі маліліся тут у найпільнейшых патрэбах. Вернікі такі чын малітвы называлі «ахвяравацца крыжам».

У розны час у пачатку XX ст. вікарыямі ў Бабруйску служылі ксяндзы Вітольд Івіцкі, Адам Сухвалка, Альбін Ройша, Ян Ворслаў, Вінцэнт Латарэвіч, Ян Сянкевіч, беларускі паэт і публіцыст Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля). У 1916 г. вікарыем у парафіі працаваў кс. Адам Пучкар-Хмялеўскі, грамадскі і культурны дзеяч, будучы пробашч катэдральнага касцёла ў Мінску (быў двойчы арыштаваны, у 1933 г. асуджаны на 10 гадоў лагераў, расстраляны ў 1938 г.). Падчас Першай сусветнай вайны ў касцёле служыў благаслаўлёны кс. Міхал Сапоцька, спаведнік святой Фаўстыны Кавальскай.

Пэўны час у касцёле працавалі пробашчы суседніх парафій: у 1918–1920 гг. — кс. Караль Бялініс (пр. у в. Харомцы); у першыя гады стагоддзя — старэнькі ксёндз Уладзіслаў Ісаевіч (былы навагрудскі дэкан, адм. у Глуску); кс. Казімір Кедрынскі, вельмі пабожны святар (пр. у Свіслачы). А ў 1920–1930 гг. бабруйскую, глускую і харамецкую парафіі часта абслугоўваў кс. Мечыслаў Сабачынскі (слуцкі дэкан, арыштаваны ў 1933 г., перацярпеў жахлівыя катаванні, асуджаны на 10 гадоў лагераў; быў этапаваны ў Карлаг НКВД, але далейшы лёс невядомы).

Пасля спачыну кс. Яна Красоўскага бабруйскім дэканатам



Ксёндз Ян Красоўскі.

і парафіяй да 1918 г. кіраваў кс. Вацлаў Пацэвіч. Часовым адміністратарам парафіі ў 1913 г. быў кс. Ян Брэчка. Перад 1918 г. кс. Вінцэнт Латарэвіч пасля пасады пробашча ў Ішкалдзі ўзначаліў дэканат і парафію ў Бабруйску, але служыў ён непрацяглы час — 19 сакавіка 1919 г. кс. Вінцэнта расстралялі ў Мірскім замку чырвонаармейцы. Дэканальным і парафіяльным адміністратарам у 1921 г. працаваў кс. Тэадор Рыло (гады жыцця: 1884–1950, ГУЛАГ), адначасна кс. Тэадор выконваў абавязкі адміністратара ў Свіслачы. Яго наступнікам у 1922 г. стаў нараджэнец Бабруйска кс. Ян Жаўрыд (нар. у 1885 г.). У гэты час у касцёле адбылася канфіскацыя каштоўнасцяў, якой святар супраціўляўся, але расправіліся з ім праз некалькі гадоў. 21 сакавіка 1928 г. святара арыштавалі, а 25 сакавіка 1935 г. калегія АДПУ асудзіла яго на 10 гадоў салавецкіх лагераў, дзе 1 лістапада 1937 года кс. Яна расстралялі. Ксёндз Казімір Мустэйкіс змог адпрацаваць парафіяльным кіраўніком з канца 1929-га да пачатку 1930 года. Па паклёпніцкім даносе ксяндза прыгаварылі да трох гадоў турмы. У 1933 г. кс. Мустэйкісу ўдалося выехаць у Літву.

Драматычны этап у жыцці бабруйскай касцёльнай супольнасці з 1931-га па 1944 г. прыпаў на кіраўніцтва парафіяй кс. Францішкам Выліжынскім (нар. у 1885 г.). Напрыканцы 1934 г. ксяндза арыштавалі і асудзілі на 5 гадоў ППЛ. У тым жа 1934 г. касцёл у парафіянаў адабралі. Касцёльныя рэчы часткова панішчылі і ўнутры размясцілі сельскагаспадарчую выставу, а на прылеглай зямлі нагарадзілі загонаў жывёлагадоўчай «выставы». Затым касцёл выкарыстоўвалі як збожжасховішча і склад. Уволю ўлада паздзекавалася і з кс. Францішка. Зняволенне ён адбываў у Карлагу, адкуль яго вызвалілі ў 1940 годзе. Па вяртанні ксёндз працаваў вартаўніком і, па магчымасці, выконваў святарскія паслугі. Неўзабаве яго зноў арыштавалі і адправілі ў Пячорлаг. Была рэпрэсаваная і родная сястра ксяндза Францішка, якая жыла ў Бабруйску. Пасля акупацыі горада фашыстамі, у ліпені 1941 г., касцёл адчынілі для богаслужэнняў. Кс. Францішак вярнуўся на працу ў святыню, але фактычнам кіраўніком у парафіі падчас акупацыі быў нямецкі святар з Германіі, які зрабіў у касцёле значны рамонт. 29 чэрвеня Бабруйск вызвалілі ад фашысцкіх захопнікаў, і адразу ж пачаўся чарговы пераслед каталікаў. Службы ў касцёле забаранілі. Пад забарону трапіла і душпастырская дзейнасць кс. Францішка. Жывучы ў касцёле, ён вартаваў яго ад рабаўнікоў. Восенню 1944 г. святара спасцігла таемная смерць. Спачатку вернікі пахавалі свайго душпастыра перад касцёлам, справа, крыху зводдаль ад уваходу. У 1967 г., па патрабаванні ўлады, парафіянам давялося перапахаваць парэшткі касяндза Францішка на хрысціянскіх могілках па вул. Мінскай. Магіла святара стала цэнтрам малітоўнага яднання і чування бабруйскіх католікаў у 1970–1980-я гады. І цяпер, штогод, у дзень памінання памерлых менавіта каля ма-

гілы кс. Францішка пачынаюцца памінальныя набажэнствы.

З лета 1946-га да восені 1967 г. касцёл выкарыстоўвалі як філіял краязнаўчага музея; некалькі гадоў тут гаспадарыў архіў; пасля працяглы час сакральную пабудову выкарыстоўвалі ў «ідэалагічных мэтах», прыстасаваўшы яе пад кіналекторый. Прашэнні вернікаў аб вяртанні касцёла і двух дамоў плябаніі ўлада ігнаравала.

Самымі непапраўнымі стратамі абярнуліся для касцёла ў Бабруйску падрыхтоўкі да святкавання дзвюх гадавінаў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Да 20-годдзя бясследна зруйнавалі тры магілы святароў, пахаваных каля касцёла, і крыж-помнік, усталяваны імігрантамі каталікамі ў маі 1918 года. Але даваршальную расправу над каталіцкаю святыняю бязбожная ўлада прымеркавала да 50-годдзя бальшавіцкага перавароту. У 1967–1968 гг. фасад касцёла забудавалі, быў знесены шатровы купал касцёльнай вежы, а саму вежу ўмуравалі ў пяціпавярховы будынак-«каробку» упраўлення будаўнічага трэста. На жаль, пры гэтым знішчылі ўсе неагатычныя элементы афармлення фасада. Залу святыні ператварылі ў трэстаўскі клуб са сцэнаю ў прэзбітэрыі. Партыйныя сходы і танцы працягваліся тут да кастрычніка 1989 г., калі бабруйскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб вяртанні каталіцкай супольнасці горада будынка касцёла. Фактычная ж передача адбылася 1 сакавіка 1990 года. Вернікі, у літаральным сэнсе, і ўдзень, і ўначы вярталі касцёлу сакральную адпаведнасць. І ўжо 13 ліпеня 1990 г. біскуп Тадэвуш Кандрусевіч кансэкраваў падрамантаваную святыню. З гэтага моманту ў жыцці бабруйскай рыма-каталіцкай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі пачаўся новы этап станаўлення, адраджэння і развіцця. І цэлыя 22 гады доўжыц-



Забудоўванне фасада касцёла.

ца згубная безадказнасць чыноўных «адказных» асобаў, якія ніяк не наважацца вярнуць каталіцкай святыні ў Бабруйску першасны выгляд, зрабіць так, каб у касцёле быў толькі касцёл, а не ўпраўленні, офісы, крамы, атэльe і іншы ваколжыццёвы тлум.

Пра значныя падзеі, што адбыліся ў жыцці адроджанай бабруйскай рыма-каталіцкай парафіі, неаднаразова распавядаў на сваіх старонках часопіс «Ave Maria», а найбольш падрабязна гэты этап апісаны мной у кнізе «...І будуць расчынены брамы. Гісторыя касцёлаў Бабруйска» («Pro Christo», 2008).

За дваццацігоддзе сучаснага існавання і дзейнасці каталіцкая супольнасць Бабруйска прайшла благаслаўлёны, хоць часам і складаны, шлях. Вялікую ролю ў навяртанні людзей, іх духоўным сталенні і ўсвядомленай перамене жыцця ў Хрысце адыгралі першыя пробашчы парафіі, нараджэнцы Польшчы, ксёндз Анджэй Шчэнсны (проб. з 13 ліпеня 1990 г.) і ксёндз Раман Факсінскі (проб. з 15 сакавіка 1993 г.). Гэтыя святары праводзілі сваю дзейнасць у духу новай Евангелізацыі. Будучы актыўнымі і чулымі пастырамі яны не менш ахвярна займаліся складанаю справаю рамонту касцёла. Варта адзначыць, што і кс. А. Шчэнсны, і кс. Р. Факсінскі паспрыялі вяртанню (а фактычна – увядзенню) у літургічную практыку беларускай мовы і ўкараненню ў парафіі беларускамоўнай малітоўнай традыцыі. Так сталася, што з-за памылковых звестак у 1990 годзе парафію кансэкравалі пад тытулам св. ап. Пятра і Паўла, таму ў 1996 годзе кс. Р. Факсінскі прыняў рашэнне вярнуць касцёлу былую назву. Яго Эмінэнцыя мітрапаліт Казімір Свёнтэк гэтую ідэю падтрымаў. Падчас велічнай урачыстасці рэкансэкрацыю касцёла пад гістарычным тытулам кардынал К. Свёнтэк учыніў 9 снежня 1996 года. Сярод наступных кіраўнікоў парафіі найбольш удзячную памяць пакінуў пра сябе кс. Антоній Клімантовіч, пробашч парафіі са студзеня 2000 г. па люты 2001 года. У пачатку 2000-х гадоў парафію таксама ўзначальвалі кс. Аляксандр Тарасевіч, кс. Генрык Акалатовіч і кс. Уладзімір Русак. Вось ужо сем гадоў, з 18 верасня 2005 г., пробашчам парафіі годна працуе ксёндз Юры Быкаў. Гэта святар інтэлектуал і вялікі руплівца як у душпастырскіх, так і ў гаспадарчых справах. А катэхізацыяй парафіяльнай дзятвы і моладзі апошнія гады ксяндзу Юрыю дапамагаюць займаюцца сёстры з ордэну дамініканак.

Вось такія яны, гэтыя 100 гадоў пад апекаю Беззаганнай. 100 гадоў, вартыя памяці і малітвы за ўсіх, хто сваім жыццёвым чынам і вераю напоўніў гэтае стагоддзе святлом Евангелля і жывіў сабою містычнае Цела паўсюднага святога апостальскага Касцёла.

# Беларускія памятныя крыжы пад Тайшэтам

Сёння цяжка дакладна сказаць, які з еўрапейскіх народаў (ды ці толькі еўрапейскіх) не пакінуў сваіх балючых старонак у страшнай гісторыі савецкага ГУЛАГу. Яго вязнямі былі і «свае», і «чужынцы»: расейцы, палякі, украінцы, летувісы, латышы, эстонцы, татары, габрэі, немцы, французы, японцы... Сярод іх — і мы, беларусы.

## I.

На пачатку лютага 2012 года, у часе падрыхтоўкі да 60-х угодкаў пакутніцкай смерці архімандрыта марыяніна Андрэя Цікоты, у нас узнікла думка паехаць у Іркуцкую вобласць, каб высвеліць акалічнасці яго смерці, а таксама іншага вядомага беларускага святара-патрыёта кс. Адама Станкевіча ды паставіць памятныя крыжы-знакі на месцах іх пахаванняў. Гэтую ідэю дзейсна падтрымаў Закон айцоў марыянаў у Рыме і рэдакцыя часопіса «Наша вера» (у прыватнасці, яго галоўны рэдактар сп. Крыстына Лялько і дырэктар выдавецтва «Pro Christo» Аліна Новікава, якая ўфундавала памятныя таблічкі). Гэтыя таблічкі-знакі перад нашым вылетам у Іркуцк асвяцілі ў Мінску арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, мітрапаліт Рыма-каталіцкага Касцёла на Беларусі, і Апостальскі візітатар, зверхнік Беларускай Грэка-каталіцкай Царквы архімандрыт Сяргей Гаек. Час на правядзенне акцыі, узважыўшы ўсе «за» і «супраць», вызначылі на другую палову траўня.



Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч благаслаўляе памятныя табліцы.

Выбіраючыся ў Сібір, бадай ці не ў апошні момант падумалася, што на магілы нашых святароў-мучанікаў адпаведна з беларускай традыцыяй трэба было б прывезці хоць некалькі жменяў зямлі з іх родных мясцінаў. Зрабіць гэта было праблематычна — да вылету ў Іркуцк заставалася ўсяго толькі паўтара дня. Але, на шчасце, з дапамогаю прыйшоў вядомы беларускі паэт і журналіст, вядучы супрацоўнік радыё «Свабода» ў Мінску Міхась Скобла, які цягам некалькіх гадзінаў вырашыў гэтую праблему.

Мінск праводзіў нас у далёкую дарогу вечаровым травеньскім небам — ласкава-цёплым і сонечным. Потым было начное маскоўскае лётнішча ў Шарамецьева і амаль шэсць гадзін лёту ў Іркуцк, якія і фармальна, і літаральна «праляцелі» як адно імгненне.

У Іркуцку нас гасцінна прымалі ў рыма-каталіцкай дыяцэзіі святога Язэпа, якую ўзначальвае біскуп Кірыл Клімовіч, дарэчы, наш зямляк з Мёршчыны. Тут мы сустрэлі яшчэ адну родную душу — сястру Вераніку з Глыбоччыны.

Колькі ж потым гэткіх нечаканых сустрэчаў з землякамі-беларусамі будзе ў часе нашай экспедыцыі? І ў Тайшэце, і ў Навачунцы, і ў іншых мясцовасцях на лініі чыгункі Тайшэт-Брацк... З жывымі... і з мёртвымі.

Але ў першую чаргу мы (і нас) чакалі тыя дзве, найбольш важныя сустрэчы — з архімандрытам Андрэем Цікотам і ксяндзом Адамам Станкевічам. Каб справядлівасці сталася за досыць.

## II.

Яшчэ, можа, не сёння, але прыйдзе час і ў беларускіх энцыклапедыях будуць дакладна пазначаныя тыя месцы на карце савецкага ГУЛАГу, дзе знайшлі вечны супачынак поруч з прадстаўнікамі іншых народаў і беларусы. Ад сумнавядомых Салавецкіх астравоў да Калымы



Архімандрыт Сяргей Гаек асвячае памятныя табліцы.

і Магадана. Але для нас сёння найбольш важнае месца — гэта Тайшэт і яго ваколіцы.

Менавіта тут знаходзіўся сумнавядомы ў гісторыі савецкага ГУЛАГУ асобы лагер «Озёрный» Міністэрства ўнутраных спраў СССР, дзе былі замучаныя разам з іншымі вязнямі беларускія святары архім. Андрэй Цікота і кс. Адам Станкевіч.

Тайшэт — гэта невялікі горад ва Усходняй Сібіры. Тут сплятаюцца чыгуначныя шляхі галоўных ветак сібірскіх прастораў. Сёння мясцовыя жыхары з гонарам называюць яго месцам пачатку славутага праекту савецкіх уладаў — БАМ.

Але тым, хто хоць аднойчы паспрабаваў перагарнуць толькі некалькі старонак балючай гісторыі сталінскіх рэпрэсій, вядома, што Тайшэт — пачатак пакутаў сотняў тысяч нявінных людзей. Тут, разам з чыгуначнымі рэйкамі, крыжаваліся іх лёсы ў старанна запланаваным пекле, якое было гатова праглынуць кожнага чалавека, не зважаючы ні на яго нацыю, ні на адукацыю, ні на веравызнанне. Менавіта ад Тайшэта пачыналася тая славутая ў савецкай гісторыі магістраль, а абапал яе, з частатою 5–10 кіламетраў — лагеры. Лагпункты, альбо, як іх яшчэ называлі тут, «лагкалоны», ад Тайшэта да Брацка былі аб’яднаныя ў асобныя лагерныя сістэмы-комплексы: «Озерлаг», далей «Ангарлаг» і г.д. Усё гэта цаглінкі вялікага ГУЛАГу. Менавіта па гэтых «калонах» блукалі па этапах ворагі «вялікага народа» і «вялікага правадыра».

За часы існавання савецкага ГУЛАГу ў ім апынулася шмат людзей і з Беларусі, у тым ліку святароў. Некаторым з іх удалося выжыць і вярнуцца на Радзіму. Адзін з іх, айцец Язэп Германовіч MIC, пасля свайго вызвалення напіша кнігу ўспамінаў «Кітай — Сібір — Масква». Яна будзе перакладзена на некалькі моваў і стане балючым падручнікам гісторыі ГУЛАГу, незвычайным, таму што напісала яго сэрца і рука каталіцкага святара. Іншым было наканавана спачыць паміж лясоў далёкай тайгі, за тысячы кіламетраў ад роднай зямлі, родных людзей і святыняў.

Пасля дзевяностых гадоў XX стагоддзя сюды, у Іркуцкую вобласць, у пошуках сваіх родных і землякоў накіраваліся людзі з розных краінаў свету: Японіі, Францыі, Нямеччыны, краінаў Прыбалтыкі і іншых. У зарасніках, на былых лагерных могілках, пачалі ўзнікаць помнікі і крыжы з надпісамі на розных мовах. Беларусы прыбылі крыху пазней, бо нялёгка знайсці паміж вялікага некропаля хаця б адно дакладнае месца пахавання, якое, безумоўна, з’яўляецца знакам цярпення дзясяткаў тысяч нашых суайчыннікаў на далёкай нам іркуцкай зямлі.

На 116-м кіламетры тайшэцкай чыгункі, каля пасёлка Навачунка, знаходзіўся лагпункт 038 асобага лагера МУС «Озёрный» з лагерным шпіталем 2. Тут 11 лютага 1952 г. памёр айцец Андрэй Цікота. Першы беларускі марыянін, заснавальнік друйскага кляштара і Друйскай гімназіі, доктар багаслоўя, генерал ордэну, кіраўнік каталіцкай місіі ўсходняга абраду і дырэктар ліцэя ў Харбіне, чалавек высокага інтэлекту і шчыры беларус, ён атрымае ў гэты дзень сумны пахавальны нумар «Б-151» паводле рэгістрацыі пахавання. Нумар будзе накрэслены на кавалку дошчачкі, што павісне на калку, убітым у ягоную магілу.

Яшчэ адно месца, звязанае з беларускай гісторыяй, — на 50-м кіламетры ад Тайшэта. Гэта — цэнтральная бальніца «Озерлага», каля вёскі Шаўчэнка, побач



Айцец В. Пялінак MIC каля крыжа на месцы пахавання кс. А. Станкевіча.

з чыгуначнай станцыяй Тапарок. Там, на лагерных шпітальных могілках, 10 снежня 1949 г. знойдзе спачын вядомы беларускі святар і грамадскі дзеяч, душпастыр беларускай інтэлігенцыі часоў адраджэння, пісьменнік, перакладчык і педагог кс. Адам Станкевіч.

Нельга было пагадзіцца, што жудасныя лагерныя нумары над магіламі стануць кропкамі ў гісторыі зямнога лёсу кожнага з гэтых святароў.

І архім. Андрэй Цікота, і кс. Адам Станкевіч урэшце дачакаліся справядлівасці — 22 і 23 траўня гэтага года на месцы іх апошняга супачынку ўзнесліся памятныя крыжы і прагучала малітва.

У пасёлак Навачунка, на месца пахавання айца Андрэя Цікоты, прыйшлі старэйшыя вучні мясцовай школы, вызваленыя ад заняткаў, настаўнікі, прадстаўнікі муніцыпальнай улады і жыхары.

Тут адбылася і цікавая сустрэча з мясцовым жыхаром Вік-



Айцец В. Пялінак МІС і Ю. Гарбінскі з мясцовымі жыхарамі каля крыжа на месцы пахавання а. А. Цікоты.

тарам Грынкевічам. Пасля некаторай засцярогі гэты чалавек нечакана прызнаўся, што яго сапраўднае імя — Вікенцій і што ён — сын Адама з жалудкоўскай парафіі на Гродзеншчыне. Наіўна паверыўшы артыкулу з савецкай газеты, уцякаючы ад калектывізацыі, ён калісьці кінуўся разам з сябрамі ў пошуку шчасця і лепшай долі ў Сібір. І вось тут, як казаў сам, «адпакутаваў усё жыццё». Убачыўшы каталіцкага святара, ён доўга плакаў, як дзіця, не верачы, што гэта праўда. Прысутнасць гэтага чалавека каля крыжа была так дарэчы, бо ён — прадстаўнік той безлічы раскіданых па свеце сірочых дзяцей нашай зямлі і нашага Касцёла.

На месцы пахавання кс. Адама Станкевіча каля вёскі Шаўчэнка разам з каталіцкім святаром маліліся праваслаўны святар а. Уладзімір Рапацэвіч (яго дзядуля паходзіў з Крэва) і мясцовыя краязнаўцы доктар Яўген Селязнёў, Аляксей Цэдрык, якія дапамаглі адшукаць гэты паросла лесам пагост.

Крыжы зрабілі мясцовыя жыхары, якія прымалі нас гасцінна, чула, з пачуццём годнага болю і разумення. Тут раптам знайшлося ўсё: і тэхніка, што дойдзе ў закінутыя мясціны былых лагерных калонаў, і матэрыял, і людзі. Сімвалічна, што крыж на месцы пахавання айца Цікоты ўстанавілі сваімі рукамі вучні старэйшых класаў Навачунскай школы.

Усё было проста: «З глыбіні да Цябе гукаю, Пане... Вечнае спачыванне...». Кроплі асвячонай вады...

Але тут, на гэтай шматпакутнай іркуцкай зямлі, усё мела зусім іншы сэнс — кожнае слова, кожны жэст, кожны пагляд. Недалёка ад магілы айца Андрэя Цікоты — пусты пляц, на якім калісьці размяшчаліся баракі, рэшты агароджы і ў некалькіх месцах вялізныя клубкі калючага дроту... Кавалак гэтага дроту прыедзе на нашу Радзіму і абдыме крыж пілігрымаў, з якім мы пакрочым сёлета з Барысава ў Будслаў і ў Росіцу.

Тут жа засталася і лагерная прахадная, якая потым стала хатаю для звычайнай сібірскай сям'і. Сёння ў ёй жыве ўжо чацвёртае пакаленне. Побач — схілены да зямлі вялікі дом, дзе жыў начальнік гэтага жудаснага прадпрыемства, імя якому — «Лагпункт 038».

Каля могілак кс. Адама Станкевіча — парослыя хмызняком грудочкі зямлі, некалькі збуцвелых каталіцкіх крыжоў, пастаўленых у розных месцах. А далей — рэшткі цэнтральнай лагернай бальніцы, «праслаўленай» балючымі ўспамінамі выжыўшых вязняў.

На адным з гэтых асвячоных крыжоў – калючы дрот, падабраны на тэрыторыі былога лагеру. Той самы, на які кожны дзень пазіралі іх вочы. Пад крыжамі — зямля з родных мясцінаў гэтых беларускіх святароў: з магілы бацькоў і з-пад парога хаты.

Мясцовыя жыхары слухалі малітву на беларускай мове моўчкі і са слязьмі. Дзякавалі нам, а мы — ім. А потым загучаў «Магутны Божа...» Праз шэсцьдзесят гадоў тут, у далёкай і чужой Сібіры, зноў маліліся за Беларусь...

Няма сумнення, што пакуты і смерць архімандрыт Андрэй Цікота і кс. Адам Станкевіч прымалі з думкаю пра сваю родную зямлю, з якой іх вырвалі з карэннем.

Два беларускія памятныя крыжы пад Тайшэтам — не проста знак цярпенняў у савецкім ГУЛАГу двух беларускіх святароў, але і ўсіх нашых землякоў, забытых і невядомых. Яны — знак надзеі на ўваскрасенне не толькі нявінна закатаваных, але памяці і годнасці ўсяго нашага народа.

Важна, што гэта адбылося. Важна, што ўпалі кроплі асвячонай вады на гэтыя месцы. І добра, што ў нашы дні менавіта з таёжных лясоў Усходняй Сібіры ўзнесліся словы: «Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай краіну нашу і наш народ...».

*А. Вячаслаў Пялінак МІС,*
*Юрась Гарбінскі*

# Трагедыя святара Адольфа Філіпа

Нараджэнец маёнтка Забалацце Лепельскага павета Віцебскай губерні, будучы ксёндз Адольф Філіп з’явіўся на свет 1 лістапада 1885 года. У няпросты час давялося яму служыць Богу і людзям — у няпросты час і ў краіне, дзе перамяшалася, пераблыталася дабро са злом...

Ён скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю ў Пецярбургу. Сакрамэнт святарства прыняў у 1909 годзе ва ўзросце 24 гадоў. Служыў у расійскім горадзе Луга, потым — капеланам у Дзвінску (Даўгапілсе).

З 1922 года ксёндз Філіп служыць на Дрысеншчыне (цяпер Верхнядзвіншчына). Дрысенская, валынецкая, асвейская парафіі былі даволі шматлюдныя на той час у Віцебскай губерні. Яшчэ ў час царскай Расіі адсюль выпраўляліся шматлюдныя працэсіі ў Полацк, на штогадовыя ўрачыстасці ў гонар святога Андрэя Баболі. Гэтае свята збірала 23 мая вернікаў з розных населеных пунктаў Віцебшчыны. Так было да 1922 года. Дарэчы, на Полаччыне свята ў гонар пакутніка католіка ў 1853 г. было аб’яднана ўладаю са святам у гонар праваслаўнай святой Еўфрасінні Полацкай.

У савецкай Беларусі рэлігійнае жыццё, як вядома, усялякім чынам абмяжоўвалася. А Віцебская губерня, да таго ж, была падзелена паміж Беларуссю і Польшчай. Мясціны, дзе служыў ксёндз Філіп, знаходзіліся ў гэтак званай памежнай зоне, што яшчэ больш ускладняла вернікам рэлігійную практыку, а святарам — службу Богу і людзям. Напрыклад, наведванне святаром населеных пунктаў павінна было адбывацца са згоды старшыні Асвейскага валаснога выканкама. На думку ксяндза Філіпа, гэта было незаконным умяшальніцтвам у справы касцёльнага жыцця. Менавіта таму 15 лютага 1922 года ён падае скаргу ў Віцебскі губернскі камітэт аб парушэнні гарантый Рыжскай дамовы мясцовай уладай адносна ўнутранага распарадку дзейнасці рыма-каталіцкіх парафій. Святар выклаў у гэтай скарзе факты парушэнняў уладамі дэкрэту аб аддзяленні Царквы ад дзяржавы і факты негатыўных паводзінаў чырвонаармейцаў.

Разгледзеўшы ягоную заяву 8 красавіка 1922 года, Віцебскі губернскі выканкам прапанаваў расстраляць (!) аўтара скаргі на месцы. Аднак праверка і расследванне па скарзе ксяндза Філіпа, якую ён накіраваў таксама і ў Цэнтральны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, сялянскіх і казацкіх дэпутатаў Расійскай рэспублікі, выявілі абгрунтаванасць яго прэтэнзій і нават пацвердзілі некаторыя няправільныя дзеянні старшыні Асвейскага валвыканкама.

У красавіку — маі 1922 года ў Расіі і на тэрыторыі савецкіх рэспублік праводзілася шырокамаштабная кампанія «дапамогі галадаючым Паволжжа». Асноўнаю мэтаю гэтай кампаніі была арганізацыя збору каштоўных прадметаў з цэркваў, касцёлаў і сінагогаў. Кіравала ўсёй кампаніяй знарок створаная камісія, якой дапамагалі супрацоўнікі фінансавага аддзела. Сабраныя з усёй Віцебшчыны каштоўнасці складзіраваліся ў фінансавым аддзеле, а потым перадаваліся ў Маскву. Фінансаванне збору і перавозку каштоўнасцяў забяспечваў Камітэт дапамогі галадаючым. Кантроль за правядзеннем усёй аперацыі ажыццяўляўся ГПУ. Нягледзячы на актыўную агітацыю, гэта кампанія сустракала супраціўленне з боку святарства і насельніцтва.

11 мая 1922 года ксёндз Адольф Філіп адмовіўся адчыніць для камісіі па канфіскацыі касцёльных каштоўнасцяў касцёл святога Станіслава ў Дрысе, а таксама адмовіўся выдаць вопісы ў касцёлах Асвеі і Замошша. Ён тлумачыў гэта тым, што срэбра і золата ў касцёлах не было. Такія дзеянні асвейскага святара фактычна прывялі да зрыву кампаніі па зборы касцёльных каштоўнасцяў па ўсёй губерні. Праўда, улады дрысенскага валаснога выканкама тлумачылі зрыў кампаніі паводкай, але ўжо 26 мая яны выклікалі ксяндза Філіпа ў Дрысу, каб разабрацца з ім. На гэтае пасяджэнне ён не з’явіўся. Замест гэтага святар напісаў скаргу на незаконнасць яго выкліку, пасля чаго нібыта паехаў у Петраград на лячэнне, але насамрэч увесь час знаходзіўся ў Люцыне.

Асобым аддзелам Заходняга фронту на ксяндза Філіпа была заведзеная крымінальная справа па абвінавачванні ва ўкрывальніцтве касцёльных каштоўнасцяў. Вобыск на ягонай кватэры не даў вынікаў: утоеных каштоўнасцяў не знайшлі, былі знойдзены толькі кнігі. Але і гэткі вынік не ратаваў ксяндза ад арышту.

3 лістапада 1922 года ксёндз Адольф Філіп быў арыштаваны ў вясковай хаце ў Замошшы. Пасля 10 дзён утрымлівання пад арыштам яго справа была перададзеная ў Асобую сесію нарсуда Дрысенскага павета. Разбірацельства па справе доўжылася да сярэдзіны 1923 года, пасля чаго святар быў асуджаны па падазрэнні ў пераходзе мяжы, укрывальніцтве часткі срэбраных рэчаў касцёла і ў аб’яднанні вакол сябе антысавецкіх элементаў. Пазбегнуць суро-




Турэмны здымак ксяндза Адольфа Філіпа.

вага пакарання (ад пазбаўлення волі на тры гады і да смяротнага прысуду) дапамаглі лаяльнасць народных суддзяў, пратэстны зварот ксяндза Філіпа ў пракуратуру Віцебскай губерні і падтрымка сведкі — святара росіцкага касцёла Пятра Капусты.

«У мэтах ачышчэння памежнай паласы ад непажаданых элементаў» ксёндз Адольф Філіп не быў надалей зарэгістраваны ў Асвеі і як чалавек, які «паходзіць з іншай мясцовасці і нічым не звязаны з памежнаю паласою», быў вымушаны пераехаць на жыхарства да свайго дзядзькі Станіслава Півульскага, у Полацк.

**Служэнне ў Полацку**

У лістападзе 1924 года ксёндз Адольф Філіп распачаў сваю службу ў полацкім касцёле Маці Божай Ружанцовай. У касцёле былі арганізаваныя дзве супольнасці вернікаў: «Беззаганнае Зачацце Марыі» і «Сэрца Езуса». У той час у парафіі шмат распавядалі пра лёс парэшткаў святога Андрэя Баболі, якія працяглы час захоўваліся ў полацкім касцёле. 23 чэрвеня 1922 года парэшткі святога па распараджэнні ўладаў былі раскрытыя і неўзабаве перададзеныя ў Маскву, а адтуль у Рым. У полацкім касцёле беражліва захоўваліся польскія газеты з матэрыяламі пра лёс парэшткаў святога Андрэя Баболі, пра тое, як у гонар гэтага святога ў Рыме праходзіла ўрачыстая святая Імша, а біскуп Цепляк, які суправаджаў парэшткі святога Андрэя Баболі ў Рым, быў на сустрэчы з Папам Рымскім.

За час свайго служэння ксёндз Філіп не раз ладзіў у Полацку святы ў гонар святога Андрэя Баболі, у якіх бралі ўдзел многія вернікі.

Але ўжо на пачатку 1925 года ў Полацкі акружны аддзел ГПУ пачалі паступаць дакладныя пра тое, што ксёндз полацкага касцёла з'яўляецца «ярым польскім патрыётам, праводзіць сярод прыхаджанаў яўную антысавецкую агітацыю і групуе вакол сябе антысавецкія элементы». Так пачалося новае паляванне на святара.

У студзені 1927 года ксёндз Філіп быў арыштаваны «за выкраданне і прысваенне сакрэтнага даклада з акрвыканкама, у якім ахарактарызавана працаздольнасць полацкіх аддзелаў міліцыі і пракуратуры». Друкаваныя аркушы даклада былі знойдзены ў сакрыстыі 22–24 снежня 1926 года. На вокладцы даклада меўся надпіс: «тов. Околович». Даклад складаўся з дзвюх частак. Адна была надрукаваная на машынцы, на ёй рукой ксяндза Філіпа была пастаўлена дата і зроблены подпіс. Другая частка была ў выглядзе брашуры «Полотчина», выдадзенай у друкарні. Тлумачэнне ксяндза было такім, што аркушы даклада выкарыстоўваліся ў касцёле ў якасці абгортачнай паперы і для гаспадарчых патрэбаў.

**«Полотчина»**

Брашура «Полотчина» была выдадзена ўвосень 1925 года Полацкім акрвыканкамам на рускай мове. У ёй змяшчаліся звесткі па гісторыі Полацка, даваліся эканамічны і геаграфічны агляды Полацкай акругі, пералічваліся гістарычныя помнікі горада, узятыя на ўлік і пад ахову дзяржавы. У выхадных дадзеных пазначана, што наклад брашуры складае 2000 экзэмпляраў, але сёння гэтая брашура з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю. Чаму?

Першы наклад брашуры складаў 250 асобнікаў і быў выдадзены ў якасці даклада на III сесію ЦВК БССР — для раздачы на сесіі членам ЦВК. Спецыяльная камісія апрацоўвала і рыхтавала матэрыялы брашуры, аднак у дакладзе меліся звесткі аб Полацкай акрузе, якія, на думку ўладаў, не павінны былі мець шырокай вядомасці. Менавіта гэтыя звесткі склалі другую, сакрэтную частку брашуры. Таму яны і не былі ўключаныя ў друкарскае выданне. У гэтай частцы змяшчаліся звесткі аб негатыўных з'явах у сістэме ўлады і эканамічным развіцці акругі. Напрыклад, у звестках аб рабоце выпраўдома было пазначана, што яго корпус разлічаны на ўтрыманне 90 чалавек зняволеных, а фактычна ў ім утрымлівалася разам з падследнымі 304 чалавекі. Указвалася таксама на недастатковае фінансаванне з боку дзяржавы ўстановаў «сацбезу і пракуратуры, што цягнула негатыўныя наступствы для інвалідаў, адмоўна адбівалася на сістэме правасуддзя акругі».

Абедзве часткі даклада трапілі ў касцёл да ксяндза Філіпа ў снежні 1926 года і выкарыстоўваліся для гаспадарчых патрэ-

баў. І тым не менш 12 студзеня 1927 года яму было прад'яўлена абвінавачванне ў прысваенні сакрэтнага даклада з нявызначанай мэтай. Пры разбірацельстве было высветлена, што паперы прынёс апальшчык з акрвыканкама па просьбе вартаўніка касцёла Юзафа Цывінскага для таго, каб загортваць аплаткі напярэдадні святаў Божага Нараджэння. Скрутак паперы быў перададзены за 30 капеек.

Але нават гэтыя абставіны не адмянілі арышту полацкага ксяндза.

**Арышт**

Яго арыштавалі, калі ён наведваў парафіянаў на хутары Катрынава Сакалішчанскага сельсавета. Пры ім было 70 рублёў, гадзіннік «Мозер» з жалезным ланцужком, 5 свечак, 5 запісак і 1 аркуш белай паперы. Падчас вобыску на кватэры было забрана 157 лістоў з перапіскі ксяндза Філіпа са святарамі з Масквы, Барнаула, службовая перапіска з курыяй Магілёўскай дыяцэзіі. Былі забраныя таксама тры агульныя сшыткі з запісамі, тры нататнікі, брашура пра Пілсудскага і тэчка з паперамі (70 аркушаў) аб дзейнасці парафіі.

Ксёндз Адольф прасіў перадаць ягоную справу ў Нарсуд, аднак яна была перададзена ўпаўнаважанаму Полацкага акружнога ГПУ Іллі Грыгор'еву. Следства вялося «с пристрастием». Контррэвалюцыйнай дзейнасцю былі названыя нават візіты святара ў вольны час да ягонага дзядзькі, якія адбываліся два разы на месяц, каб памыцца ў лазні ды потым павячэраць са сваякамі. Брашура «Полотчина» была далучаная да справы і ўсе гэтыя гады праляжала ў ёй.

Падчас следства ад ксяндза Філіпа і ягонай маці была пададзена скарга пракурору па наглядзе за органамі ГПУ БССР і пракурору Вярхоўнага суда СССР. У ёй ішла гаворка «аб інтрызе, створанай упаўнаважаным Полацкай акругі ГПУ Іллёй Грыгор'евым у адносінах да служыцеля культу».

Ксёндз Адольф Філіп не прызнаў прад'яўленых яму абвінавачванняў, даваць далейшыя паказанні адмовіўся, заявіўшы аб «правакатарскіх дзеяннях, якія сталі асабліва частымі апошнім часам з боку некаторых мясцовых агентаў АГПУ у адносінах да каталіцкага духавенства».

20 чэрвеня 1927 года ксёндз Адольф Філіп быў асуджаны па 66-м і 97-м артыкулах і атрымаў 10 гадоў зняволення. Яго чакалі жудасныя Салаўкі. Вартаўніку касцёла і прыбіральшчыку акрвыканкама «за крадзеж сакрэтных папераў» было прызначана зняволенне на тры гады.

Польскі Чырвоны Крыж у снежні 1927 года хадайнічаў аб пераглядзе справы ксяндза Філіпа, аб вяртанні яго з Салаўкоў і амністыі, аднак у хадайніцтве было адмоўлена.

З суровых месцаў зняволення святар Адольф Філіп вярнуўся напрыканцы 1936 года. Цяпер ён ужо не меў права жыць у памежнай мясцовасці, а Полацк у той час належаў да такіх гарадоў. Таму ксёндз Філіп атрымаў дазвол служыць у Віцебску. Праўда, радасць гэтая была кароткаю.

**У Віцебску**

У Віцебску з 1931 года жыў арганісты Адольф Кохан. Пасля таго, як у касцёл святой Барбары прыехаў служыць ксёндз Адольф Філіп, гэты арганіст таксама заахвоціўся граць на службах. Яны жылі разам у доме 35 па Гарадоцкай шашы, разам з імі тут жыў і яшчэ адзін святар — Станіслаў Райко, які прыехаў у Віцебск з Украіны ў 1935 годзе. Ксёндз Станіслаў на той час таксама перацярпеў шмат ганенняў, і цяпер яны падтрымлівалі адзін аднаго.

Аднак нядоўга ім было наканавана паслужыць і ў Віцебску. Усяго праз некалькі месяцаў «вольнага» жыцця абодва святары былі арыштаваныя. На гэты раз іх абвінавачвалі за крамольныя казанні, якія следчыя назвалі «нацыяналістычнай работай сярод парафіянаў і апрацоўкай іх у паўстанцкім і тэрарыстычным накірунку».

**Новы арышт і новая справа**

Віцебскія святары Станіслаў Райко і Адольф Філіп, арганісты Адольф Кохан і шмат іншых нявінных людзей былі арыштаваныя ў Віцебску на пачатку 1937 года па справе ПАВ (Польская арганізацыя вайсковая). Пры гэтым арышце ў ксяндза Філіпа быў забраны металічны гадзіннік.

20 кастрычніка 1937 года пастановай камісіі НКВД і пракурора СССР ксёндз Адольф Філіп быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання як удзельнік з 1925 года і нібыта кіраўнік польскай тэрарэстычнай арганізацыі ў полацкай акрузе. Ну і, вядома, як «польскі шпіён». Лічылася, што гэтая арганізацыя ставіла на мэце звяржэнне савецкай улады, а таксама тэрарыстычную барацьбу ў тыле Чырвонай Арміі ў выпадку вайны Польшчы з СССР. Разам са святарамі былі асуджаныя яшчэ 112 чалавек, сярод іх і арганісты Адольф Кохан.

...У 1960–1961 гг. па справе ПАВ была праведзена праверка, у выніку якой Ваенны трыбунал Беларускай ваеннай акругі зрабіў выснову аб невінаватасці 79-ці расстраляных па гэтай справе. Было выяўлена, што ў Віцебску ў 1930–1937 гг. не існавала(!) аніякай вайсковай арганізацыі, а супрацоўнікі НКУСа Б.Л.Чэрнамордзік і А.М.Гепштэйн, якія вялі допыты і расследаванне, на гэты раз былі абвінавачаны ў парушэнні сацыялістычнай законнасці.

29 мая 1992 года святары Адольф Філіп і Станіслаў Райко разам з іншымі абвінавачанымі і расстралянымі пакутнікамі з Віцебска па справе ПАВ былі рэабілітаваныя згодна з пастановай ад 6 чэрвеня 1991 года «О порядке реабилитации жертв политических репрессий 1920–1980 гг. в РБ».

*Наталля Сяргеенка,*
*спецыяліст па турызме*
*турагенцтва*
*«Сем дарог», Полацк.*

Алена Вальчук



# Янка Купала і беларускія святары-адраджэнцы

*Да 130-годдзя з дня нараджэння*

На пачатку XX ст. кансалідуючую ролю ў беларускім сацыякультурным жыцці пачаў адыгрываць нацыянальна-адраджэнскі рух, далучаючыся да якога, прадстаўнікі розных грамадскіх сфер, у тым ліку і рэлігійнай, імкнуліся да агульнай мэты – рупнай асветніцкай працай садзейнічаць абуджэнню самасвядомасці народа.

Не выклікае сумненняў той факт, што Янка Купала, прымаючы чынны ўдзел у пашырэнні беларускай адраджэнскай справы, кантактаваў з духоўнымі асобамі. Пуцявіны іх лёсу маглі перакрыжавацца, калі паэт, знаходзячыся ў Вільні, працаваў у рэдакцыі газеты «Наша Ніва». Паводле ўспамінаў А. Станкевіча, у гэты час у Віленскай духоўнай семінарыі склаўся асяродак навучэнцаў, якія, усведамляючы сябе беларусамі, імкнуліся весці культурніцкую дзейнасць, надаўшы ёй афіцыйны статус. Ініцыятыва была падтрыманая кіраўніцтвам вучэльні, у выніку чаго намаганнямі кс. Адама Станкевіча быў арганізаваны беларускі гурток. Яго ўдзельнікі ладзілі вечары, дзе спявалі народныя песні, чыталі вершы, ставілі сцэны з беларускага жыцця. Паказальна, што ў 1908 г. на адным з такіх мерапрыемстваў «быў дэкламаваны верш Ф. Багушэвіча “Мая дудка...”»[1]. Акрамя таго, у семінарыі існавала магчымасць далучыцца да друкаванага слова на роднай мове, бо ў яе бібліятэцы, створанай на ахвяраванні навучэнцаў, можна было знайсці беларускія кнігі, у прыватнасці, «Кароткую гісторыю Беларусі» В. Ластоўскага, часопісы.

Уваходзячы ў свет беларушчыны, будучыя святары, сярод якіх кс. А. Станкевіч узгадвае Ф. Аляшкевіча, А. Аўгустыновіча, М. Бобрыка, М. Шалкевіча, Я. Рэшаца, А. Цікоту і іншых, падтрымлівалі стасункі не толькі з аднадумцамі ў межах вучэльні, але і спрабавалі наладзіць сувязі з тымі, хто змог бы зразумець іх памкненні і падтрымаць пачынанні на культурна-асветніцкай ніве. Так, на думку даследчыцы Алены Глагоўскай з Гданьска, на фармаванне беларуса-цэнтрычных поглядаў кс. Казіміра Сваяка ў значнай ступені паўплывалі як «навучанне ў духоўнай семінарыі», так і «віленскія сустрэчы з беларускімі адраджэнцамі, знаёмства з “Нашай Нівай”»[2]. Будучы супрацоўнікам рэдакцыі газеты, а таксама прымаючы ўдзел у розных мерапрыемствах, Я. Купала мог сустракацца з клерыкамі, якія бачылі сваё пакліканне ў шчырым і адданым служэнні інтарэсам народа.

Не перарваліся гэтыя сувязі і пасля пераезду паэта ў Пецярбург, бо ў паўночную сталіцу Расійскай імперыі скіроўваліся і некаторыя выпускнікі семінарыі, каб працягнуць вучобу ў Пецярбургскай рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі. Тут імі, як і Я. Купалам, апекаваўся выкладчык грэчаскай і лацінскай

**Алена Вальчук** — кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў Брэсце. Закончыла філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Пушкіна (1999), аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (2002). У 2010 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю «Біблейскія матывы ў творчасці Янкі Купалы». Даследуе беларуска-іспанскія літаратурныя ўзаемасувязі.

моваў, самаахвярны працаўнік на адраджэнскай ніве Браніслаў Эпімах-Шыпіла.

Надзелены ад прыроды дарам настаўніка, асветніка, ён распаляў у душах студэнтаў жывы агмень любові да Бацькаўшчыны як з дапамогай «жывога слова і ўласнага прыкладу», так і праз далучэнне іх да кніжнай мудрасці. Паводле ўспамінаў кс. А. Станкевіча, Б. Эпімах-Шыпіла сам настойліва прапаноўваў студэнтам для чытання кнігі, прысвечаныя Беларусі, а таксама адгукаўся на іх просьбы прынесці неабходную літаратуру. Яе ён «даставаў ня толькі зь бібліятэкі унівэрсытэцкай, але з Акадэміі навук, зь бібліятэкі Публічнай і з прыватных збораў сваіх уласных і іншых» [3].

Шчырасцю, дабрынёю, здольнасцю прыйсці на дапамогу Б. Эпімах-Шыпіла заслужыў павагу ў студэнтаў, стаў для іх «агульнапрызнаным лідэрам беларускага руху, духоўным апекуном студэнтаў-беларусаў»[4], якога яны з любоўю называлі бацькам. Дзякуючы яго тактоўнасці той, хто не спяшаўся прызнаваць свае беларускія карані, з цягам часу прыходзіў да іх усведамлення і актыўна падключаўся да культурна-асветніцкай працы, распачатай у гэтай навучальнай установе. Намаганнямі кс. Люцыяна Хвецькі ў 1912 г. тут быў створаны беларускі акадэмічны гурток. У яго склад, акрамя заснавальніка, увайшлі святары А. Цікота, П. Пякарскі, С. Шырокі, Францук, І. Жаўняровіч, В. Гадлеўскі. Аднак, паводле кс. А. Станкевіча, існаваў ён «фактычна», і толькі «ў кастрычніку месяцы 1913 г. быў фармальна заснаваны гурток беларускай студэнцкай моладзі ў Пецярбургскай акадэміі»[5]. Узначаліў яго кс. П. Пякарскі, а сакратаром стаў кс. В. Гадлеўскі. Удзельнікамі аб'яднання быў распрацаваны статут, паводле якога галоўныя задачы іх будучай дзейнасці палягалі ў тым, каб «прыгатаваць народ да скарыстаньня з спадзяваных лепшых варункаў, каб ён сам зажадаў сваей мовы ў касьцёле і ў школе, ня ... сеяць нянавісьці да другіх народаў, а также між беларусамі-каталікамі і праваслаўнымі, ... працаваць зь верай, надзеяй і міласьцяй у сэрцы, ... ісьці з воклічам на вуснах: "З Богам для народу!.."»[6]

Хрысціянска-асветніцкі характар працы, абранай «акадэмікамі», адпавядаў мэтам адраджэнскага руху, таму паўстала неабходнасць аб'яднання намаганняў як духоўных асобаў, так і свецкіх дзеячаў, скіраваных на актывізацыю нацыянальных працэсаў у розных сферах беларускага грамадства. Значную ролю ў пашырэнні кантактаў паміж аднадумцамі адыграў Б. Эпімах-Шыпіла. Будучы не толькі натхніцелем стварэння Беларускага гуртка Пецярбургскай духоўнай акадэміі, суполкі навучэнцаў-беларусаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта, але і іх навуковым кіраўніком, ён садзейнічаў правядзенню сумесных сустрэчаў, падчас якіх адбываліся б «знаёмствы клерыкаў са свецкай беларускай інтэлігенцыяй...»[7] На пасяджэннях акадэмічнага гуртка разам з Бр. Тарашкевічам, Ц. Гартным, Алаізай Пашкевіч (Цётка), Я. Варонкам, Т. Грыбам, К. Дуж-Душэўскім прысутнічаў і Янка Купала[8]. Не выключана, што ён таксама браў удзел і ў агульных мерапрыемствах, якія праходзілі «на катэдры кс. Ф. Будзькі»[9], дзе мог сустракацца не толькі з «гаспадаром», але і з іншымі святарамі-адраджэнцамі — Ф. Абрантовічам, А. Астрамовічам, А. Сакам і інш.

Думаецца, дзякуючы іх уплыву, хрысціянская тэматыка загучала ў творчасці Янкі Купалы, сведчаннем чаго сталі росшукі Я. Янушкевіча, звязаныя з праблемай атрыбуцыі паэмы «Святы Андрэй Баболя. Мучанік беларускі». Даследчык звярнуў увагу на вершаваны твор, змешчаны ў беларускім выданні кнігі, якая пабачыла свет у 1911 г. у Вільні ў друкарні Марціна Кухты, і прысвечаны вядомаму рэлігійнаму дзеячу. Выяўленыя ў выніку супастаўляльна-параўнальнага аналізу блізкіх па часе напісання паэм «Курган» і «Святы Андрэй Баболя. Мучанік беларускі» стылістычна падобныя элементы, а таксама псеўданім Я. Купальскі, якім падпісаўся аўтар, навялі Я. Янушкевіча на думку, што да напісання твора спрычыніўся Купала. Канчаткова гіпотэзу даследчыка пацвердзілі запісы Б. Эпімах-Шыпілы, захаваныя ў Літаратурным музеі паэта ў Мінску. Згодна з імі, у 1910 г. Янкам Купалам была створана паэма, прысвечаная А. Баболю[10].

Разважаючы над тым, пад чыім уплывам узнікла задума ўзяцца за распрацоўку сюжэта, звязанага з хрысціянскай тэматыкай, Я. Янушкевіч, зыходзячы з факта знаёмства паэта са святаром А. Астрамовічам, пацверджанага эпісталярнай спадчынай Я. Купалы, згадаў яго як аднаго з магчымых натхніцеляў на напісанне твора[11]. Аднак найбольш верагодна, што да гэтага спрычыніўся кс. Ф. Будзька, які, усвядоміўшы сваю прыналежнасць да беларускага народа, яшчэ падчас навучання ў Пецярбургу, захапіўшыся ідэяй біскупа С. Дэнісевіча зрабіць духоўную літаратуру даступнай для простага люду, «прабаваў тлумачыць польскія рэлігійныя кніжкі на беларускую мову»[12]. У выніку, дзякуючы яго намаганням, былі выдадзены «Катэхізм», «Святы Андрэй Баболя», «Святая гісторыя», «Касцёльныя абрады». Згодна са

звесткамі, прыведзенымі гісторыкам Юрым Туронкам, брашура, прысвечаная вядомаму на беларускіх землях прапаведніку, была перакладзена кс. Ф. Будзькам з польскай кнігі Яна з-над Буга (Я. Урбан) і пабачыла свет у 1911 г. у віленскай друкарні Марціна Кухты[13]. Паколькі гэтыя дадзеныя адпавядаюць тым, якія прыводзіць Я. Янушкевіч (згадка аўтара першакрыніцы, год і месца друку), становіцца відавочным, што ў абодвух выпадках маецца на ўвазе адно і тое ж выданне. Натуральна, будучы аўтарам і выдаўцом кнігі, кс. Ф. Будзька клапаціўся пра тое, каб яна суправаджалася па-майстэрску напісанай паэмай, у якой таленавіта і ў даступнай для чытача форме быў бы паказаны жыццёвы лёс пакутніка, а таму звярнуўся да Я. Купалы. Узяўшыся за напісанне твора, паэт не толькі падтрымаў рэлігійна-асветніцкую дзейнасць святара, з якім ён мог пазнаёміцца ў Вільні або Пецярбургу падчас сумесных сустрэчаў адраджэнцаў, але і сам далучыўся да яе.

З цягам часу прыток беларусаў хрысціянаў у нацыянальны рух усё больш павялічваўся, на што звярнуў увагу Антон Луцкевіч, які, у прыватнасці, пісаў: «Адно толькі бачым: між маладымі ксяндзамі (асабліва яшчэ вучашчыміся), каторыя выйшлі зь вёскі і не адарваліся ад яе сусім, трапляецца ўсё болей і болей сьвядомых беларускіх патрыётаў. Дзе-нідзе — часта пад страхам свайго бліжэйшага начальства — яны ўжо пачалі ў касьцёле гаварыць казаньні пабеларуску, выдаюць катэхізм і рэлігійныя кніжкі ў беларускай мове і т.д. Усё гэта – ксяндзынароднікі, людзі, каторыя скрозь свае рэлігійныя справы і ідэі ўмеюць бачыць жывы народ; гэта – ксяндзы-грамадзяне свайго краю...»[14]

Шчырая праца на культурнаадраджэнскай ніве зблізіла іх з Янкам Купалам, пашыраючы кола яго знаёмстваў. Жыццёвыя шляхі звялі паэта з Янам Вольскім, які сваю першую Імшу цэлебраваў па-беларуску ў родных для Купалы мясцінах – Радашковічах. На думку У. Содаля, ім выпала сустрэцца падчас знаходжання ў Пецярбургу, дзе Ян Вольскі атрымоўваў веды ў духоўнай вучэльні, якую скончыў у 1910 г., а паэт – на агульнаадукацыйных курсах Чарняева[15].

Як ужо адзначалася, Я. Купала падтрымліваў адносіны і з кс. А. Астрамовічам (паэтычны псеўданім – А. Зязюля), пра што сведчыць карэспандэнцыя Янкі Купалы за 1912 г., дзе імя ксяндза ўзгадваецца двойчы. Да кс. А. Астрамовіча паэт заязджаў улетку, калі адпачываў у Акопах, а таксама ён гасцяваў у яго пасля першай сустрэчы з Я. Коласам[16]. Думаецца, у асобе кс. Астрамовіча Купала знайшоў духоўна блізкага чалавека, аднадумца, які звязаў сваё жыццё з адраджэнскай справай. Абуджаць нацыянальную свядомасць беларусаў ён пачаў яшчэ будучы навучэнцам Віленскай семінарыі. Згодна з успамінамі аднаго з парафіянаў, «ксёндз Астрамовіч ... заўсёды прыязджаў у Трабы на вакацыі да кс. Ф. Чагліса. Вучыў ён нас пяяць беларускія песьні і заўсёды прывозіў зь Вільні беларускія кніжкі... Найбольшай жа памяткай па ім для Трабскай парафіі была яго першая імша сьвятая. Памяткавыя абразкі яго шмат у каго хаваюцца і цяпер...»[17]

З цягам часу поле яго дзейнасці пашыралася. Разумеючы неабходнасць збору і выдання культурнай спадчыны народа, кс. А. Астрамовіч разам з А. Грыневічам прыняў удзел у падрыхтоўцы зборніка «Беларускія песні з нотамі», які пабачыў свет у Пецярбургу ў 1912 годзе.[18] Гэтая праца выклікала цікавасць у Я. Купалы, пра што сведчыць ліст, у якім ён, звяртаючыся да Б. Эпімаха-Шыпілы, пісаў: «Папрасіце, паночку, п. Грыневіча, каб ён прыслаў свае песні, 1-ы і 2-і зборнікі»[19].

Двух творчых людзей аб'ядноўвала не толькі адраджэнская дзейнасць, але і тое, што яны былі паэтычнымі натурамі. Вершы, напісаныя А. Астрамовічам пад псеўданімам А. Зязюля, друкаваліся на старонках перыядычных выданняў, сярод якіх найперш варта адзначыць газеты «Наша Ніва» і «Bielarus». Яму належыць аўтарства шырокавядомага рэлігійнага гімна «Божа, што калісь народы на асобкі падзяліў...». Творы А. Зязюлі (у зборніках «З роднага загону», «Слова праўды», «Аленчына вяселле»), напоўненыя глыбокім хрысціянскім зместам, сталі яскравым адлюстраваннем духоўных пошукаў чалавека, яго памкненняў да гарманічнага суладдзя ў свеце.

Відавочна, абмен думкамі і ідэямі падчас сустрэчаў Янкі Купалы са святаром-адраджэнцам уземаўзбагачаў абодвух творцаў, натхняў іх на новыя паэтычныя пошукі. Існуе меркаванне, што пад уплывам размовы з кс. Астрамовічам Купалам быў напісаны верш «Мая малітва»[20]. І надалей, спрабуючы асэнсаваць складаныя анталагічныя праблемы ў такіх творах, як «Прарок», «Цару неба й зямлі» і інш., Янка Купала неаднаразова звяртаўся да хрысціянскай паэтыкі, якая дазволіла яму спасцігнуць сутнасць духоўнага жыцця беларускага грамадства, таму невыпадкова, што верш «Прарок», прачытаны Купалам на адным з пасяджэнняў літаратурна-навуковага гуртка студэнтаў Пецярбургскага ўніверсітэта і перадрукаваны ў агульнай справаздачы гэтай на-

вучальнай установы за 1912 г., фактычна стаў дэкларацыяй асноўнага кірунку дзейнасці для яго ўдзельнікаў.

У кола духоўных асобаў, з якімі падтрымліваў стасункі Янка Купала, уваходзіў і кс. Фабіян Абрантовіч. З ім паэт, хутчэй за ўсё, пазнаёміўся ў ранні перыяд свайго жыцця, але больш блізкія адносіны ў іх склаліся ў паслярэвалюцыйныя гады. Будучы актыўным прыхільнікам ідэі беларусізацыі Касцёла, кс. Ф. Абрантовіч прыняў удзел у першай службе на роднай мове. Адзначаючы грамадскую значнасць гэтай падзеі, аўтар паведамлення, змешчанага на старонках часопіса «Беларуская думка», пісаў: «6 сьнежня 1918 г. а гадзіне восьмай зранку адбылася першая беларуская імша ў Менску. Служыў сам біскуп Лазінскі, у часе імшы пяяў хор па-беларуску рэлігійныя старабеларускія песьні пад загадам рэктара семінарыі ксяндза Абрантовіча... У канцы імшы сам біскуп Лазінскі прачытаў па-беларуску Эванэлію і на тэму з Эванэліі сказаў казаньне — горача, ад сэрца і добра па-беларуску... Цэлая імша і казаньне ўхапілі за душу ня толькі беларусаў-каталікоў, але і беларусаўправаслаўных. Усе мелі сьлёзы на вачах...»[21]

Пачынанне касцёльных уладаў было падтрымана святарамі-адраджэнцамі, і, калі Купала ў 1919 г. вярнуўся са Смаленска ў Мінск, такія службы ўжо набылі рэгулярны характар. Паводле ўспамінаў П. Татарыновіча, прыведзеных Л. Юрэвічам, у гэтым годзе паэт «прысутнічаў кожны маёвы вечар на філязафічна-рэлігійных канфэрэнцыях вучонага духоўніка беларускага Ф. Абрантовіча...»[22] Настаўляючы паству на шлях любові і міласэрнасці, святар уласным прыкладам пацвярджаў жыццёвасць хрысціянскіх ідэалаў. Яго дзейсная міласэрнасць і спагадлівасць дапамаглі Я. Купалу перажыць цяжкае выпрабаванне лёсу, пра што ён узгадваў у лісце да Б. Эпімаха-Шыпілы: «На дабітак усяго ў 1920 г., у студзені, я захварэў страшнай хваробай... Пралежаў у бальніцы, змагаўся з смерцю, тры месяцы і выйшаў з пакрыўленай губай і з надламаным зусім здароўем. Папраўдзе пабываў на тым свеце. Толькі дзякуючы добрай апецы, асабліва кс. рэктару б. Мінскай духоўнай семінарыі Абрантовічу, я не пайшоў да Абрагама на піва»[23]. Разам са святаром паэта падтрымлівала і сябра Беларускай школьнай рады Апалонія Гірконт, якой сям'я Луцэвічаў выказала шчырую падзяку праз газету «Беларусь»[24].

Не выключана, што сустрэча з Ф. Абрантовічам — багасловам, бліскучым філосафам, які вучыўся і абараніўся ў Лювэнскім універсітэце[25], натхніла Янку Купалу на напісанне верша «На біблейскія матывы», дапамагла яму раскрыць усю глыбіню пакутаў беларускага народа, пазбаўленага сваёй Айчыны.

Сведчаннем прыязных адносінаў у сям'і Я. Купалы да духоўных асобаў можна лічыць успаміны П. Татарыновіча, якому разам з кс. Рамейкам давялося пабываць на сядзібе паэта. Апісваючы гэтую сустрэчу, ён адзначаў: «Вельмі сымпатычна прыймалі нас з жонкаю скромнай пачосткай і шчырай бяседай. Незацёртае ўражанне з гэтай візыты мне й да сёння гаворыць аб Купале і Купалісе як аб людзях веруючых...»[26] Такім чынам, хрысціянства, будучы праасновай Купалавага светапогляду, стала адным з тых фактараў, якія адыгралі значную ролю ў зблізжэнні паэта са святарамі. Дзякуючы духоўнай лучнасці яны агульнымі намаганнямі рабілі ўсё магчымае для таго, каб беларусы ў будучыні годна пачувалі сябе сярод іншых народаў.

---

[1] Станкевіч, А. Беларускі хрысціянскі рух / А. Станкевіч // З Богам да Беларусі. – Вільня, 2008. — С. 481.
[2] Глагоўская, А. «Баліць мне сэрца за народ...» (ліставаньне Кастуся і Альбіна Стэповічаў) / А. Глагоўская // Хрысьціянская думка. 1994. 1. — С. — 59.
[3] Станкевіч, А. Прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла: зь яго жыцьця і працы / А. Станкевіч // З Богам да Беларусі. — Вільня, 2008. — С. 267.
[4] Конан, Ул. Браніслаў Эпімах-Шыпіла і пачатак беларускага каталіцкага адраджэння / Ул. Конан // На шляхах да ўзаемаразумення. — Мінск, 2000. С. — 280.
[5] Станкевіч, А. Беларускі хрысціянскі рух / А. Станкевіч // З Богам да Беларусі. — Вільня, 2008. С. 481.
[6] Тамсама. С. 482–483.
[7] Трацяк, Я. Роля Браніслава Эпімах-Шыпілы ў фарміраванні беларускага каталіцкага духавенства / Я. Трацяк // На шляхах да ўзаемаразумення. – Мінск, 2000. — С. 287.
[8] Конан, Ул. Браніслаў Эпімах-Шыпіла і пачатак беларускага каталіцкага адраджэння / Ул. Конан // На шляхах да ўзаемаразумення. – Мінск, 2000. — С. 280.
[9] Станкевіч, А. Беларускі хрысціянскі рух / А. Станкевіч // З Богам да Беларусі. – Вільня, 2008. — С. 481.
[10] Янушкевіч, Я. Калі не Купала, дык хто? / Я. Янушкевіч // За архіўным парогам: беларуская літаратура XIX–XX ст. у святле архіўных пошукаў. – Мінск, 2002. — С. 141.
[11] Тамсама. С. 134.
[12] Станкевіч, А. Родная мова ў святынях / А. Станкевіч // З Богам да Беларусі. – Вільня, 2008. — С. 416.
[13] Туронак, Ю. З пачыну пралата Сьцяфана Данісевіча / Ю. Туронак // Мадэрная гісторыя Беларусі. – Вільня, 2006. — С. 452.
[14] Станкевіч, А. Беларускі хрысціянскі рух / А. Станкевіч // З Богам да Беларусі. – Вільня, 2008. — С. 472.
[15] Содаль, У. І. Купалава рэха / У.І. Содаль // ЛіМ. 2002. — С. 13.
[16] Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. – Мінск : Маст. літ, 2003. Т. 9. Кн. 1. — С. 231.
[17] Станкевіч, А. Родная мова ў святынях / А. Станкевіч // З Богам да Беларусі. – Вільня, 2008. — С. 418.
[18] Ліс, А. Песня – мэта і запавет : Слова пра Антона Грыневіча / А. Ліс // Роднае слова. 1997. 5. — С. 158.
[19] Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я.Купала. – Мінск : Маст. літ., 2003. Т. 9. Кн. 1. С. 231.
[20] Золава, Э. Поўны збор твораў Янкі Купалы ў 9-ці тамах (да праблемы датавання) / Э. Золава // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні : матэрыялы навук. канф., Гродна, 3–6 кастр. 1995 г. — Гродна, 1996. — С. 82.
[21] Станкевіч, А. Родная мова ў святынях / А. Станкевіч // З Богам да Беларусі. — Вільня, 2008. С. 427, 428.
[22] Юрэвіч, Л. Vita memoriae / Л. Юрэвіч // Беларуская мемуарыстыка на эміграцыі = Belarusian memoirs in diaspora. — Нью-Ёрк : Беларус. ін-т навукі і мастацтва, 1999. — С. 92.
[23] Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я.Купала. – Мінск : Маст. літ., 2003. Т. 9. Кн. 1. — С. 453.
[24] Тамсама. С. 255.
[25] Бабкін, Г. В. Абрантовіч Фабіян / Г.В. Бабкін // Рэлігія і Царква на Беларусі : энцыкл. давед. – Мінск : Беларус. энцыкл., 2001. — С. 8.
[26] Tatarynovič, P. Na marhinesie uspaminau ab J. Kupale / P. Tatarynovič // Znič. 1952. 19. — С. 5.

# *Да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы*

## Да Бога ў касцёл святога Мацвея

Адзін час, у 1904–1909 гады, Луцэвічы жылі ў Бараўцах. Пра гэта напісаная мая кніжачка «Тут бачу свой край». Калі я збіраў звесткі пра гэты кут, аднаго разу падумаў: «А куды ж бараўскія католікі, а разам з імі і Луцэвічы, хадзілі на Імшу, у які касцёл?» Пацікавіўся пра гэта ў бараўскога люду. І пачуў: «А ў Халяўшчыну!.. Ездзілі ў Халяўшчыну... Там быў касцёл. Гэта за Астрашыцкім Гарадком».

Сёння гэты кут нам больш вядомы як Раўбічы. Даўней жа, у пару Купалавага юнацтва, увесь гэты абшар католікі называлі не інакш як Халяўшчына. Назоў гэты маляўнічы кут атрымаў у гонар тутэйшага шляхціца Лукаша Халявы, які калісьці падчас страшэннай навальніцы выратаваў абраз Маці Божай Карміліцы. З гэтай нагоды ў непаўторна маляўнічым куточку на высокім пагорку над ракою Вушачаю на пачатку XVII ст. быў збудаваны касцёл святога Мацвея. У гэтую святыню і хадзілі Луцэвічы з Бараўцоў. Гэты факт амаль невядомы вернікам раўбічскага касцёла. Але хай цяпер і яны ведаюць, што ў гэтым касцёле адзін час маліліся Богу бацькі і сёстры вялікага песняра, а разам з бацькамі, напэўна, і сам Ясь Луцэвіч — Янка Купала.

Цяпер у гэтым касцёле працуе этнаграфічны музей, але вернікі з навакольных вёсак дамагаюцца, каб святыня зноў стала святыняю. Хай жа ў гэтым ім паспрыяе і песнярова імя.



Раўбічы, будынак былога касцёла святога Мацвея.

## Як звалі Янку Купалу?..

Неяк разгаварыліся мы з адным дасведчаным у рэлігійных канфесіях чалавекам. Дык ён і кажа мне:

— А Янка Купала быў каталік?..

— Так, — кажу я, — каталік.

— То чаго гэта вы яго завеце Іванам? Няма ў каталікаў такога імя. І не было...

Вось неспадзяванка! Не ведаю, што і сказаць чалавеку. І праўда: чаго гэта нашага «Баяна» некаторыя Іванам завуць, калі ён — Ян, Янка, Янусь, Ясь.

Пацікавіўся ў Купалавай пляменніцы Ядвігі Раманоўскай, ці называлі нашага слыннага Янку Купалу Іванам у сям'і?

— Не, толькі Янкам, Яначкам... «Наш Янка», — казала матуля. Гэтак і толькі гэтак называлі яго Уладзіслава Францаўна, Паўліна Мядзёлка, Канстанцыя Буйло, Алаіза Пашкевіч (Цётка) дый шмат хто іншы.

То адкуль жа ўзяўся «Іван»? Маленькага Ясіка хрысцілі ў касцёле і павінны былі запісаць ці то Ясем, ці то Янам. Але, як ні дзіўна, у касцёльнай кнізе Дамінікаў сын запісаны Іванам. Іванам Дамінікавічам называлі яго афіцыйныя асобы. Для ўсіх жа блізкіх ён быў Янкам, Яначкам. І праўда, калі Янку Купалу называюць Іванам, то за гэтым імем — аніякай энергетыкі, нейкая пустка. Іншая справа, калі гавораць «Янка Купала». За гукамі гэтага імя паўстаюць купальскія вогнішчы, купальскія карагоды, купальскія песні... Рамантыка!

То адкуль «Іван»? Разважаю з святарамі. Тлумачаць: беларуская і польская мовы на Беларусі былі ў загане, у забароне пасля скасавання ў 1839 годзе ўніяцтва. Таму і ў Царкве, і ў Касцёле трымаліся афіцыйных пастулатаў расейшчыны. Расейшчына гэтая пашыралася і на імёны дзяцей падчас хросту. Па гэтай прычыне і Дамінікавага сына запісалі ў касцёльнай кнізе Іванам, хоць хросныя бацькі прапаноўвалі называць дзіця Ясем. Ды і ў каталіцкім календары імёнаў на дзень народзінаў Дамінікавага хлопчыка значылася імя Ян.

*Уладзімір Содаль*



Зоська Верас чакае гасцей. Фота Сяргея Панізьніка. 1982 г.

# ШАРАЯ ПТАШКА ПАНАРСКАГА ЛЕСУ

Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны. Зоська Верас не дажыла да свайго стагоддзя ўсяго адзін год і некалькі месяцаў. 30 верасня 1892 года прыйшла ў гэты свет — 10 кастрычніка 1991-га яго пакінула. А так хацелася, каб дажыла, каб заставалася жывым злучнікам паміж пакаленнямі, эпохамі і стагоддзямі. Не збылося — сувязь часоў распалася.

Яе, маладую ўдаву нацдэма Фабіяна Шантыра, расстралянага бальшавікамі ў 1920 годзе, прытуліў Панарскі лес пад Вільняй. А лес у беларусаў з лёсам сугучны, і лёсу скрыжалі недвухсэнсоўна вызначаюць, дзе і што нам рабіць: у сасновым лесе маліцца, у бярозавым — любіцца, у дубовым — волю каваць, у яловым — душу д'яблу прадаваць. А вось у якім лесе беларусу паміраць — скрыжалі тыя не паведамляюць. Таму Зоська Верас, калі прыйшла пара пакінуць гэты свет, пераехала ў Вільню, да дачкі. У гарадской кватэры ў звычайным блочным доме і дажыла свае апошнія дні.

Я не быў на яе магіле, і мне здаецца, што нікуды яна не параязджала. Проста выйшла аднойчы за парог і — сама стала лесам, сунічнікам, верасам. Або шарай пташкай — яшчэ адзін з яе псеўданімаў.

Амаль сем дзясяткаў гадоў — цэлае чалавечае жыццё — Зоська Верас пражыла ў сваёй Лясной хатцы. У глінабітнай, без усякіх выгодаў, у двары нават калодзежа не было. Улетку збіралі ў бочкі дажджавую ваду, узімку — тапілі снег.

Зоська Верас жыла ў лесе не пустэльніцай, хутчэй — партызанкай. І ваявала яна — актыўна і бескампрамісна — з усімі, хто пасягаў на гістарычную праўду. «Фальш шкодзіць гісторыі», — не стамлялася паўтараць старая дзяячка ў лістах да сваіх шматлікіх маладзейшых адрасатаў. Толькі за паваенны час лістоў гэтых яна напісала больш за шэсць тысяч, і ў кожным — штосьці ўдакладняла, кагосьці папраўляла, камусьці выносіла свой няўмольны прысуд.

Паказальны ў гэтым сэнсе выпадак з кнігай Алега Лойкі «Як агонь, як вада», што выйшла ў 1984 годзе. Хітрамудры жанр «раманаэсэ» не дапамог аўтару пазбегнуць бескампраміснай крытыкі ад Зоські Верас. За прыніжэнне Янкі Купалы і «Нашай нівы», за няпраўдзівыя вобразы Івана і Антона Луцкевічаў (названых у рамане Лапкевічамі), за дыскрэдытацыю асобы Вацлава Ластоўскага (у рамане — Ласоўскі) кніга Лойкі ў Лясной хатцы атрымала найвышэйшую меру пакарання — аўтадафэ — і была неадкладна спаленая на вогнішчы.

Аднойчы я даволі бестактоўна спытаўся ў свайго ўніверсітэцкага выкладчыка, ці ведаў ён пра тое лясное аўтадафэ? Алег Антонавіч са скрухай прызнаўся, што ведаў. Мала таго, тое вогнішча ў Панарскім лесе не давала яму спакою да канца дзён, яно і прымусіла ўрэшце перапісаць раман. Пасля дапрацоўкі ён павялічыўся на сто старонак, трактоўка многіх падзеяў змянілася, а дзейным героям былі вернутыя іх сапраўдныя прозвішчы.

Аўтарытэтаў на гэтай сваёй партызанскай вайне за праўду Зоська Верас не прызнавала. Дасталося ад яе і Змітраку Бядулю — за няпраўдзівыя ўспаміны пра Максіма Багдановіча, і супрацоўніку Гістпарта пры ЦК КПБ Мікалаю Сташкевічу. Гаспадыня Лясной хаткі прачытала ягоную манаграфію «Прысуд рэвалюцыі: крах антысавецкага руху ў Беларусі (1917–1925)» і на правах відавочцы апісаных там падзеяў вынесла свой прысуд: «Блытаніна!».

З фальсіфікатарамі беларускай гісторыі Зоська Верас змагалася не галаслоўна, а з дапамогай дакументаў. Прыкладам, яна захавала пратаколы беларускіх з'ездаў, якія адбываліся ў Менску ў 1917 годзе, і настойліва прапаноўвала гісторыкам-патрыётам прыехаць і азнаёміцца з імі. Перасылаць па пошце, улічваючы каштоўнасць дакументаў, не адважвалася. І гісторыкі, прагныя праўды, ехалі да першакрыніцаў.

Зняпраўджвала Зоська Верас і распаўсюджаную ў савецкіх даследаваннях інфармацыю пра падтрымку немцамі беларускага руху ў 1917–1918 гадах. Расказвала, як немцы брутальна выганялі беларускія арганізацыі з Губернатарскага дома ў Менску, як нейкі кайзеравец літаральна схапіў яе за руку, калі яна спрабавала забраць з шуфляды пячатку...

Дарэмна шукаць артыкулаў Зоські Верас пра ўсё гэта ў афіцыйным друку (а тады ўвесь друк быў афіцыйны). Па-першае, не надрукавалі б. Па-другое, не надта яна таму друку давярала. І таму ў ход звыкла ішлі лісты-лістоўкі — праверания партызанская практыка.

«Я помню ўсё», — гэтай дэкларацыі Зоські Верас, выказанай у лісце да аднаго з маладзейшых сяброў, няпроста паверыць. Гэта ж колькі падзеяў (гістарычных і шэраговых) яна перажыла, колькі людзей прайшліся поруч з ёй па жыццёвай дарозе! І ўсё і ўсіх яна падрабязнааднатавала ў сваёй феноменальнай памяці, па якой можна было энцыклапедыі звяраць. І звяралі. Нездарма айчынныя энцыклапедысты Віталь Скалабан і Янка Саламевіч пакручастую дарогу да Лясной хаткі ведалі як свае пяць пальцаў. А з тае дарогі, бывала, збіваліся і спрактыкаваныя вандроўнікі. Скажам, Уладзімір Караткевіч, які, дарэчы, называў Зоську Верас «батанічным богам», аднойчы праблукаў паўдня ў Панарскім лесе і быў змушаны вярнуцца на віленскі брук, дзе, відавочна, пачуваўся больш упэўнена.

І ўсё ж дарогу да Зоські Верас знаходзілі — найчасцей з дапамогай яе зяця і найлепшага знаўцы гісторыі Вільні Лявона Луцкевіча, які, звычайна, сустракаў гасцей у дамоўленым месцы ў Вільні і, нібы спрактыкаваны сувязны, вёў іх далей прыгараднымі і ляснымі сцежкамі. Усе менскія дапытлівыя нефармалы 80-х перабывалі ў Лясной хатцы. І такой бяды, што фотаздымкі з тых візітаў потым траплялі на старонкі адыёзнага «Политического собеседника». Усім хацелася дакрануцца да жывой гісторыі.

Памятаю, як улетку 1988 года мы з Анатолем Сідарэвічам на свой страх і рызыку без праваднікá-сувязнога ішлі па чыгуначным палатне ў кірунку Панараў. Між бліскучых рэек палахліва прыгіналі галовы прыземістыя рамонкі, чыгунка на даляглядзе пакалыхвалася ў спякотным марыве. Адна паваротка, другая... Першым згубіў арыентацыю я. А тут яшчэ абапал сцежкі, проста пад нагамі — чырвоныя россыпы суніцаў, як хто крапідлам пакрапіў. Гэтак, штохвіліны прыпыняючыся і ласуючыся, мы і дайшлі да «партызанскага» жытла — Лясной хаткі. Прыземістая, глінабітная, уся ў размытых дажджамі трэшчынах, з якіх было відаць, што трымалася ўся спаруда на звязаных між сабой калочках. На падворку нас сустрэў Лявон Луцкевіч, выказаўшы здзіўленне — як жа мы не заблудзілі ў іхнім Панарскім лесе. Ягоная жонка Галіна Войцік частавала нас чарніцамі з малаком. Пачастунак, памятаю, зацягнуўся — Людвіка Антонаўна заседжвалася дапазна, таму з раніцы яе стараліся не будзіць. Мы бавілі час на падворку, дзе Лявон Луцкевіч паказваў нам жыццёваважную ў сухаземным лесе сістэму вадасцёкаў.

Калі Зоська Верас прачнулася, пані Галіна паклікала нас у хату. І вось — зацішная бакоўка, нейкія старыя камоды з шуфлядамі і ў зручным фатэлі — яна. Маленькая, прыветлівая, з маладымі вачыма. На сцяне кідаецца ў вочы двайны партрэт, на якім маладая Зоська Верас з Максімам Багдановічам на менскай вуліцы.

Анатоль Сідарэвіч пісаў вялікімі літарамі свае пытанні (на дзясятым дзясятку Зоська Верас амаль страціла слых), а мне было няёмка і турбаваць яе прыпамінаннямі. Колькі падобных паломнікаў і цэлых дэлегацый прыняла яна за сваё жыццё і перад кожным дапытлівым суразмоўцам «браму скарбаў сваіх» адчыняла!

Гэта яна надрукавала свой першы твор яшчэ ў 1907 годзе — усяго на два гады пазней за Янку Купалу, а аўтарам легендарнай «Нашай Нівы» стала ў 1911-м.

Гэта яна ў 1916 годзе прывячала ў Менску Максіма Багдановіча, які абяцаўся пісаць ёй з Ялты, з «белага дома над сіняй бухтай».

Гэта яна на ўсё жыццё запомніла, як бальшавікі ў снежні 1917-га разганялі ў Менску І Усебеларускі кангрэс.

Гэта яна за свае сціплыя заробкі ў 1928 годзе выдала паэтычны зборнік Міхася Машары «Малюнкі» і толькі за гэта заслугоўвае не меншай пашаны, чым Магдалена Радзівіл — фундатарка неўміручага «Вянка».

Гэта яна рабіла і выпускала ў свет часопісы для дзяцей «Заранка» і «Пралескі», а для дарослых — месячнік «Беларуская борць», якім карысталіся пчаляры па ўсёй Заходняй Беларусі.

Гэта яна склала і выдала ў 1924 годзе знакаміты «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік», у які і сёння не зашкодзіць зазірнуць самым дасведчаным лексікографам, каб даведацца, як праўдзіва на роднай мове называецца тая ці іншая расліна.

Гэта яна, разумеючы, што ў Беларускай савецкай энцыклапедыі цэнзура не прапусціць шматлікія персаналіі, складала сваю — рукапісную — энцыклапедыю, дзе меліся падрабязныя біяграфіі Міхася Забэйды-Суміцкага, Аркадзя Смоліча, Францішка Грышкевіча, Янкі Багдановіча, Мар'яна Пецюкевіча...

Гэта да яе паэт і бібліёграф Гальяш Леўчык пісаў са Слоніма прачулыя лісты, якія пачыналіся ласкавымі зваротками «залаценечка і дарагенечка дзядзіначка», альбо «паважаная цётухна і залатая сястронка»...

Лісты ў Лясную хатку прыходзілі часта. І на кожны нястомная гаспадыня давала адказ — успамінала, тлумачыла, удакладняла. Уся карэспандэнцыя захоўвалася ў ідэальным парадку — меў магчымасць пераканацца ў гэтым на свае вочы. Усе шуфляды ў бакоўцы былі літаральна забітыя фотаальбомамі і акуратна перавязанымі стосікамі лістоў. Памятаю, Зоська Верас прасіла адчыніць пэўную шуфляду, дастаць патрэбны альбом ці пакунак, а пасля асцярожна трымала іх на каленях — лісты ад Ларысы Геніюш, Міхася Забэйды-Суміцкага, Генадзя Каханоўскага, Віталя Скалабана, Янкі Саламевіча, Арсеня Ліса, Аляксея Пяткевіча, Дануты Бічэль...

Ці не самае працяглае і інтэнсіўнае ліставанне Зоська Верас мела з Ларысай Геніюш, яно доўжылася каля чатырнаццаці гадоў — з 1967-га па 1983-ці. Абедзве Антонаўны пісалі свае эпісталярныя летапісы проста самазабыўна. Ларыса Антонаўна ў снежні 1967-га наведала Лясную хатку, нават заначавала ў сваёй прыяцелькі, і яны да самай раніцы не маглі нагаварыцца. Гэтыя дзве пасіянарныя беларускі ўмелі і пчолы гадаваць, і кветкі разводзіць, і вершы пісаць, і нацыянальным духам палымнець, ды так, каб і другія займаліся.

Як жа шкада, што Лясная хатка, у якой Зоська Верас пражыла — так прыкметна для Беларусі! — сем дзясяткаў гадоў, згарэла ў 1990-м, калі гаспадыні там ужо не было. Памятаю, пачуўшы пра пажар у Панарскім лесе, я з жалем падумаў, што згарэла і ўся бачаная ў Лясной хатцы перапіска. Але, дзякаваць Богу, вялікая частка эпісталярыя ацалела, своечасова перададзеная на захаванне ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Заснаваны там асабісты фонд Зоські Верас — надзейная схоўніца тых уратаваных з Панарскага лесу скарбаў.

Тады, у 1988-м, я адыходзіў з Лясной хаткі з дзіўным пачуццём — быццам здзейсніў падарожжа ў мінулае на машыне часу. І доўга не мог апрытомнець, нават ужо сеўшы ў менскі цягнік. Жалезныя колы разгоніста татахкалі на рэйкавых стыках, я чытаў зборнік «Каласкі», падараваны Анатолю Сідарэвічу з аўтографам аўтаркі, і думаў, што дарэмна Зоську Верас менскія парнасцы паблажліва называюць толькі дзіцячай пісьменніцай. Ёсць у яе верш «Ліст», які не трапіў у «Каласкі» акурат з-за свае недзіцячасці. Гэты лірычны шэдэўр нашаніўскай эпохі, якім калісьці пачнецца збор твораў паэткі і мемуарысткі, лексікографа і публіцысткі, перакладчыцы і асветніцы Зоські Верас:

*Хацела да цябе напісаці*
*На пялёстку ружы пахучай,*
*Але пялёстак мог згінуць*
*У пору буры грымучай.*

*Хацела да цябе напісаці*
*На скрыллі ў матылёчка,*
*Але матыль умірае,*
*Як прыйдзе цёмная ночка.*

*Хацела я ліст паслаці*
*Праз ластаўку з нашага дому,*
*Але ж яна магла даці*
*Яго каму-небудзь другому.*

*І так дзянёчкі праходзяць.*
*Не маю яго як паслаці,*
*А ліст такі ўжо сардэчны*
*Хацелася напісаці.*

Адзін літаратуразнаўца, пачуўшы гэтыя радкі, усклікнуў: «Дык гэта ж наследаванне Максіму Танку — ягонаму вершу „Перапіска з зямлёй“!». Давялося патлумачыць калегу, што ў час, калі пісаўся «Ліст», падлетак Жэнік Скурко (будучы народны паэт Максім Танк) бегаў са свайго пількаўскага хутара ў Сваткаўскую школку і лісты пісаў хіба пад дыктоўку бабкі Улляны — жыццёва-празаічныя.

Народжаная на ўкраінскай Жытоміршчыне ў сям'і вайскоўца, большую частку свайго веку пражыўшы пад Вільняй, Зоська Верас усё жыццё заставалася патрыёткай Гародні і Гарадзеншчыны, адкуль паходзілі ўсе яе дзяды — па мячы і па кудзелі. «Мае думкі часта лятуць у Гродна — да ценяў дзядоў маіх, да ўспамінаў аб шчырай заўзятай працы ў Гродзенскім гуртку беларускай моладзі, дзе я стала на беларускую дарогу, па каторай іду ўжо 71 год», — пісала яна ў лісце да паэткі Дануты Бічэль. А ў адным з апошніх сваіх лістоў да прафесара Аляксея Пяткевіча ўжо амаль невідушчая Зоська Верас пыталася: «Як там жыве маё Гродна?» Выведзеныя фламастарам буйныя непаслухмяныя літары распаўзаюцца па адмыслова разлінееным аркушы, іх ледзь можна разабраць... Вернасць гораду свайго маленства і юнацтва жыхарка Панарскага лесу захавала праз усё сваё доўгае жыццё, у лістах да гарадзенцаў называючы сябе «старой гродзенскай патрыёткай» або «гродзенскай душой на выгнанні».

На экслібрысе Зоські Верас (мастак — Вячка Целеш) над усім дамінуе віленская вежа Гедыміна. І гэта заканамерна — Зоська Верас была *genius loci* Вільні, *genius loci* беларускай Вільні. Без яе Вільня лягчэй ператвараецца ў Вільнюс. Шкада, што грамадзянка Людвіка Антонаўна Сівіцкая — назавем нарэшце яе сапраўднае імя — пахаваная не на Росах, дзе ёсць нейкае падабенства нашага нацыянальнага некропаля. Сваім жыццёвым подзвігам яна бясспрэчна заслужыла быць пахаванай у самым ганаровым месцы. Заслужыла сваім узвышэннем праўды і Беларусі. А ўзгорыстыя могілкі Росы — адзінае месца ў свеце, дзе беларусы — вышэй за ўсіх.

*Міхась СКОБЛА*

---

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.

ЗОСЬКА ВЕРАС

# «ДАСПЕЛА ДУША МАЯ Ў ЦЯРПЕННІ...»

Вершы і імпрэсіі

## Ветру

Вецер ты мой, вецер,
Вазьмі маю душу!
Бо за што ж на свеце
Мучыцца так мушу?
Каля мяне цёмна,
Каля мяне глуха –
Галасок ніводны
Не дайдзе да вуха.
Ніякае зоркі
Над сабой не бачу.
Сэрца жаль мне сціснуў,
Плачу, горка плачу.
Вазьмі, вецер, душу –
Нясі на край свету!
Нясі на край свету,
Развей яе ў пух...
Ах, чаму, скажы мне,
Толькі чалавек я?
Чаму я не дух?!

*1914*

## На ад'ездзінах

На ад'ездзінах з роднае хаты,
Пажагнаўшы загон шэры свой,
Я ў дарогу ўзяў велькі-багаты
Скарб, пасвенчаны
Маткай-зямлёй.

Тая памятка з роднай зямелькі
Яе слёзнай расою абліта —
Гэта беленькі цвет канапелькі,
Каласочак даспелага жыта.

*1914*

* * *

Бываюць вогнішчы,
бурай-дажджамі залітыя,
Вуголлем чорным,
попелам шэрым пакрытыя...
Бываюць душы,
як той агонь, спапялеўшыя,
Напалову мёртвыя,
напалову абамлеўшыя...
Калі ж рукою бязбояснай
іх закранём —
Заззяюць полымем ясным,
жывым агнём...

*1915*

## Я не баюся...

Я не баюся жыццёвай буры,
Хоць добра знаю яе шум пануры,
І змрочнага не баюся ценю
Без ласкі цёплай сонца праменю,
І не баюся працаў мазольных
Для рук бяздольных...
Але ж баюся я ўтраты веры,
Траты энергіі баюся без меры,
Баюся жыцці без ідэалу,
Бо ў чорнай пустцы сэрца б
сканала...
Больш чым цялеснай баюся
смерці –
Душой умерці...

*1915*

* * *

Грамадою-чарадою
Плылі думкі за табою
Ясны, светлы май.
Паўставалі летуценні...
Заціхалі боль, цярпенні...
Прад вачамі — рай...

Зашумелі нудна лозы,
Паліліся дажджу слёзы,
Восень надышла.
Душа сціхла, страпянулася,
Скінуўшы чары, аглянулася:
Раю не знайшла...

*1917*

## Сум

Над маёю душой, поўнай дум,
Шэрыя скрыллі прасцёр
ціхі Сум.

Мае вочы ўпіліся у яго твар.
Ён з іх высмактаў увесь
жыццёвы жар.

І вясёлы на вуснах выгасіў смех.
І збяліў пацалункам іх,
быццам снег.

І абняў маю душу, поўную дум,
Шэрыя скрыллі прасцёршы,
ціхі Сум.

*1920*

## Псальм

Даспела душа мая ў цярпенні, о Божа мой... Напоўнілі яе і жаль, і боль, але ж не апанавалі яе ні злосць, ні нянавісць. Апусцела яна і ўвайшла ў глыб сваю, каб схаваць ад цікавага вока свой сум і жуду. Пакрыліся раны яе тканінай містэрнаю, а пад ёй плыве і плыве кроў жывая...

Не затрымлівай, о Божа мой, крыві плывучай, не адбірай яе агню жывога, бо акамянее душа мая, Пане, і цвёрдай масаю зробіцца. Няхай плыве кроў гарачая, няхай жыве боль магутны, каб не сталася яна падобнаю да скалы горнай, нячулай на енкі і стогны ветру бяздольнага.

## Нёмну

З далёкай краіны, праз акопы і рады штыкоў нясецца думка мая лётам быстрага сокала да цябе, мой Нёман таёмны... Да тваіх берагоў, цёмнымі пушчамі пакрытых... Да тваіх вод люстраных...

Я помню, як беглі светлыя хвалі твае і ціхім шопатам сваім будзілі ў душы гэтулькі дум-казак, гэтулькі мар-сноў... І адкрываліся вочы, аслепленыя пылам будзёншчыны, і бачылі перад сабою гэтулькі цудаў нявіданых. І адчыняліся вушы, аглушаныя шумам жыццёвым, і чулі песні нечуваныя...

Воды твае, о Нёман мой, былі магічнай істужкай, нясучай усе абразы, сабраныя з берагоў тваіх, і ўсе галасы, якія ты чуў у падарожжах тваіх. Колькі песняў ты чуў, колькі слёз, гора прыняў ты, колькі захаваў ты таямніц людскіх, сцерагучы іх зайздросна ў сваёй халоднай глыбіні...

А цяпер, о бедны Нёман мой, цяпер цябе напаілі гарачай кры-

вёй... Цяпер накармілі цябе целам людскім... Цяпер апаганілі святыя воды твае збуглёнымі астаткамі хат і адрын... І берагі твае апусцелі, і яны страцілі ўсю сваю красу...

Ці ты і гэты грэх людскі захаваеш у хвалях сваіх і пасля — некалісь — які з унукаў нашых вычытае яго сваёй чуткай душой? І, спалоханы грозай крывавых абразоў, уцякаць будзе ад цябе? О не, не, Нёман! Ты гэтага не захаваеш, не будзеш помніць таго страшнага сну. Воды твае аднясуць кроў і трупы далёка... Спалошчуць, абмыюць акрываўленыя берагі. Літосным шопатам заглушаць енкі і стогны. І, поўныя цішыні і спакою, укалышуць набалелыя душы дзяцей гора і слёз...

*1917*



Зоська Верас з дачкой Галінай Войцік і зяцем Лявонам Луцкевічам.

## Шкада

Шкада мне тых, што не спачынуць сёння... Тых, чые думкі спавіла чорная ноч болю... Тых, чые вочы збялелі ў муках сэрцаў... Тых, чыя душа забіта здзекам ворагаў... Тых, каторых праўды свет паняць не можа. Шкада мне тых, што па цярністых пуцінах жыцця ў адзіноцтве ідуць. Нясуць поўнымі жменямі цудоўныя дары Праўды, Дабра і духовай Пекнаты, але ж ніхто да іх не працягне рукі, ніхто іх не бярэ... І далей ідуць, адзінокія, з душамі, атручанымі жалем і крыўдай...

Але ж і тых шкада, чые вочы не бачаць справядлівасці... Чые сэрцы акамянелі ў злосці...

Чые душы спавітыя цемраю крыўды людской, нячулыя на святло праўды... Шкада тых, што раняць людскія пачуцці, топчуць іх і панявяраюць... І тых шкада, чые нізкія шэрыя інстынкты не маюць адвагі бараніць таго, што яснае, і разводзяць цемру зла.

Шкада цябе, род людскі... Род ахвяр і забойцаў...

*1925*

## Канвалія

У маленькай крывенькай хатцы пад самым лесам жыла са сваёй маткай бедная маленькая дзяўчынка. Яна гуляла па зялёнай сенажаці з другімі дзяцьмі, пасвіла жывёлу, збірала краскі, слухала птушыныя песні і, хоць бедная, была вясёлая і шчаслівая.

Ды нядоўга пажыла яна на белым свеце. Раз нейк захварэла і хутка памёрла, а дзеля таго, што была вельмі добрая, зараз жа пасля смерці апынулася ў небе сярод белых скрыдлатых анёлкаў, сярод птушак райскіх.

І пытаюцца ў яе анёлкі: — Ці не шкада табе, дзіцятка, тваёй хаткі ўбогай? — А яна ім адказвае: — Як жа я магу шкадаваць сваю хатку, крывую ды маленькую, калі я цяпер жыву ў цудоўным небе?

Анёлкі ізноў пытаюцца: — А ці не сумуеш ты па дзецях, з каторымі гуляла, па кветках, што растуць на вашым лузе? — Чаго ж маю сумаваць па дзецях, калі тут з анёлкамі гуляю, ці па кветках, калі тут шмат пякнейшыя растуць навакола?

Нарэшце анёлкі пытаюцца: — А ці не шкадуеш ты сваёй маткі, што там на зямлі так горка па табе плача-забіваецца?

Успомніўшы сваю маму, дзяўчынка засмуцілася, сціснулася яе сэрца, а з вачэй пасыпаліся дробныя слёзкі. Ды не слёзкамі яны на зямлю ўпалі, а з’явіліся ў густым лесе, побач матчынай хаткі, белымі, пахучымі чарачкамі лясной канваліі.

*1927*



Вольга Іпатава, Сяргей Панізьнік, Віталь Скалабан і Уладзімір Содаль віншуюць Зоську Верас з днём нараджэння. 1985 г.





# Янка Брыль — носьбіт спакою

## Да 95-годдзя Майстра

Кнігу «Парастак»Янка Брыль пісаў, ведаючы, што гэта яго развітальная кніга з намі, яго роднымі і духоўнымі літаратурнымі дочкамі, сынамі і ўнукамі. Я атрымала «Парастак» 21 ліпеня, з надпісам: «*Прымі, дарагая Дануся, яшчэ адну маю новую кніжыцу, 9.VII.06, Янка Брыль*... Захацелася мне ў адказ яму кніжку паслаць, ды не мела новай, то знайшла батлейку «Нараджэнне Езуса Хрыста, нашага Збаўцы», якую выдалі ў тым жа выдавецтве «Про Хрысто», дзе і «Парастак», але на год раней. На памінках дочкі Брыля Наташа і Галя сказалі мне, што ён атрымаў кніжку і прачытаў за дзень да смерці.

Янка Брыль памёр 25 ліпеня, у той жа дзень, што і Валодзя Караткевіч... Для мяне важна ўсё, што звязана з асобай Янкі Брыля. Чаму мы выбіраем сабе літаратурных куміраў, літаратурныя арыенціры, *празораў*, якія асвятляюць нам дарогу праз жыццё і пасля таго, як ім даводзіцца развітацца з гэтым светам і пайсці ў невядомы? Мы ўсё роўна адчуваем іх прысутнасць у нашых дробных справах жыцця, адчуваем, што адлегласць паміж намі неадольная, але дыханне духу даходзіць адтуль праз невідочную прастору. Іх жыццёвая праўда ўплывае на нашы ўчынкі і на-

строі. Выходзіць — няпраўда, што іх час тут спыняецца...

Янка Брыль не рваўся наперад, на трыбуну — на з'ездах займаў месца ў зале, даваў магчымасць зарадзіцца ад яго святла і спакою. Яму былі ўласцівыя надзейнасць, дабрыня, маўклівае прабачэнне дрэнных учынкаў, стварэнне спакойнай атмасферы і раздаванне літаратурных авансаў. Не евангельскае ўсёдараванне – Брыль разумеў, што такое дазволена толькі Богу, — але бацькоўскае дараванне маўчаннем да пэўнай меры. Казаў вачыма: «Ты — дрэнь, ды людзі даюць табе адтэрміноўку, каб стаць такім, як браты твае па мове Уладзімір Караткевіч і Уладзімір Калеснік». Як да калегаў па прафесіі, так адносіўся і да начальнікаў. Ніколі не чула, каб Янка Брыль з кім-небудзь спрачаўся, сварыўся, каб насміхаўся, павышаў голас, злаваў, гаварыў моцныя словы. Ён прымаў усіх людзей паважна, сур'ёзна, без кпінаў. Чужых па духу не пускаў у сэрца — меў свой нябачны плот ці купал над сваёй галавой. Умеў далікатна жартаваць як у жыцці, так і ў творчасці.

Ён прайшоў праз пекла і па другім крузе ісці не хацеў. Прыняў жорсткую рэальнасць: нават пісаў нарысы пра саветаў, але выбіраў сярод іх годных людзей.

Янка Брыль быў найбольш прыдатны Богу, каб змагацца з нячыстымі духамі.

Адзін з маладых выдаўцаў кніг, якому гэтая пасада звалілася як бы з неба, сказаў мне нядаўна: «Янку Брыля надта хутка забылі...» У адказ я працытавала Марыну Цвятаеву:

*«Моим стихам, как драгоценным винам, настанет свой черёд...»*

Але прагназаў не раблю — не заўсёды збываюцца нават прагнозы надвор'я.У Янкі Брыля ў Беларусі чытачоў было меней, чым у Івана Шамякіна. Чамусьці ў краіне, дзе грамадства выхоўваюць на страшнай вайне, хутка забылі кнігу Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка «Я з вогненнай вёскі». Не так змагаліся тыя героі — ахвяра была споўненая на ўзор Езуса Хрыста...

Калі Беларусь стане іншамоўнай, то мала хто будзе чытаць такія залацінкі, як апавяданне «Галя», аповесць «Ніжнія Байдуны», раман «Птушкі і гнёзды», версэты «Жменя сонечных промняў»... Па якіх жа тэкстах можна правяраць чысціню беларускай мовы, калі забудзем Яна Скрыгана і Янку Брыля?

Брыль нарадзіўся паэтам, але ў нас не разумеюць іншасказання. Таму пісаў прозу...

Прачытала ў «Парастку»:

*«На шарай гадзіне, не ўключаючы святла, у адзіноце спяваў сабе, у нейкі момант нават і ў слёзнай асалодзе ад музыкі і словаў — родных, рускіх, украінскіх і польскіх. І тут нечаканы і доўгачаканы званок ад Галі, што вось — і яна ўжо бабуля, а я — такім чынам, прадзед! У Мішы і Машы дачушка, імя якой падрыхтавана бацькамі загадзя — Даша, Дар'я, а ў нас па-загорску — Адарка, Адара...»*

Прачытаўшы гэта, сама я заспявала, як акунулася ў крынічнай вадзіцы, – песня ачышчае, песня вяртае да вытокаў, да мамы. Песня ўдзельнічае ў малітвах у шмат якіх рэлігіях...

Прысніла аднойчы Янку Брыля ў сваёй хаце. Хацела яго накарміць, а не было ніякай ежы. У той ранак я не мела магчымасці схадзіць у касцёл памаліцца за душу, якая патрабуе ежы. Прысніла назаўтра зноў — ён стаяў каля ложка ў маёй хаце і казаў разгублена: «То што ж, я ўжо пайду спаць...» І пабегла я ў касцёл — спавядацца, прымаць Камунію за яго... І зразумела я, што маё прызначэнне — маліцца за душы настаўнікаў па прафесіі, якія адышлі ў вечнасць.

Калі мне самотна і хмурна, і слёзна, і дрэнна, супакойваюць і ўзмацняюць духам не жывыя, а тыя, хто некалі не шкадаваў для мяне сваёй дабрыні, любові і часу.

Янка Брыль — гэта магутны гмах айчыннай літаратуры, фасады і кшталты якога пакуль што аглядалі толькі павярхоўна, звонку. Каб зазірнуць у яго сярэдзіну, трэба адчыніць насцеж дзверы і зайсці ў «кухню», гэта значыць прачытаць яго дзённікі, яго нататкі. Уся проза Янкі Брыля была спавядальнаю, але споведзь была не поўнаю: даводзілася, як тады модна было казаць, «наступаць на горла ўласнай песні», стрымліваць, падманваць самога сябе, рабіць адборку, селекцыю, быць цэнзарам уласнай творчасці.

Творчасць Янкі Брыля — гэта тэксты для медытацыі, паглыбленне ў будучыню праз вяковую мінуўшчыну не для экспанавання і ўседазволенасці ці ўседаступнасці... Гэта трэба, каб фармаваць душу нацыі. Паколькі нашаму народу не да літаратурных іншасказанняў, не да гіпербалізацыі, бо ён увесь час займаецца выжываннем, пакуль што толькі выбраныя бедачыны з інтэлігенцыі смакавалі, перачытвалі і чакаюць з хваляваннем, калі іх пусцяць у сціплую, прыгожую і чыстую «кухню» Майстра...

*Данута Бічэль, Гародня.*

---

**Данута БІЧЭЛЬ** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басаног» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008) і «Мост святога Францішка» (2010).



# Сяргей Панізьнік

**Сяргей Панізьнік** — паэт, журналіст. Нарадзіўся 10 траўня 1942 г. у вёсцы Бабышкі Мёрскага раёна Віцебскай вобласці. Друкуецца з 1959 года. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1967 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Кастры купалля» (1967), «Палявая пошта» (1972), «Крона надзеі» (1975), «Чало і чалавек» (1979), «Слова на дабрыдзень» (1982) і інш. Апублікаваў кнігі дакументальнай прозы «Пасля вогненных вёсак...» (1980), «Браніслава» (1985), «Освейская трагедия: Книга народной памяти» (1990). Піша таксама для дзяцей. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (1991). У 2000 г. узнагароджаны Літаратурнай прэміяй імя Уладзіміра Калесніка за публіцыстычную творчасць, ідэю стварэння і падрыхтоўкі выдавецкай серыі «Бацькаўшчына». Жыве ў Мінску.

* * *

Пракаціліся слёзы
па Хрыстовым абліччы.
На Галгоце засуха.
Калючкі цярноўніка
смыляць у кожным з нас.

* * *

Займаецца на зару.
Патаема ночы
ўскалыхала вадзіцу.
Сорам — азерца развіднеласці.

* * *

Над перажытай разгубленасцю
зазыўна пазвоньвае
патанчэлае лісце пачуццяў.

* * *

Вытыркаецца комін
праз рэбры крокваў
асіроцелай вёскі.
На глобусе Беларусі вые труба:
з безназоўнай безлюдзі
мяне азывае.

* * *

Навокал былога млына —
пятля пустэчы.
Шалупінне не прарастае.

* * *

Раніца набрыняла перазовамі.
Лёзныя словы ідуць папасвіцца.
Няласкавыя — бягуць на ловы.
Поўдзень — подыум роздуму:
што скажам на выпускным вечары
абязмоўленай адукацыі?

* * *

Будзіцелі ратавалі чэхаў міфам і ласкай.
Нэруда Ян звяртаўся да свайго народа:
    «Высмейваю заганы я твае.
    На большае любові не стае».
Але не хапіла смеласці перакласці верш,
які пачынаўся такімі радкамі:
«Народ мой, я цябе люблю,
таму маю права цябе ненавідзець...»
Мая генетычная памяркоўнасць —
унутраная цэнзура.

Заблудзіўся Майсей
між Дзвіною і Прыпяццю.

* * *

Летапіс цвердзіць
трывалую стойкасць даўнасці.
Зімапіс перапыняе
адважнае шэсце будучыні.

* * *

Апошнія кроплі вячэрняга дожджыка
літаркамі свецяцца ў рэшаце неба.
Пачатковая школа восені
чакае маю настаўніцу
з незабытай вясны кахання.

* * *

Днее. Просвірка сонца завісла
над свіронкамі нашых душаў.
Прычашчаюся пэўнасцю.
Свіран перастае свіргатаць.
Ганак абвіваецца промнямі.
Заходзяць у маю вітальню
блікі сваякоў, родзічаў, крэўных...
Для спагады споведзі —
Ойча нябесны.
Будзь воля Твая!

* * *

Кулакі курганоў —
перАлапачаныя.
Апусцелыя жменькі продкаў
просяць міласціну.

...а бязлітасных выправім жабраваць.

* * *

Уяўляю дызайн аседласці:
вясёлая крона,
самотны камель,
тужлівыя карані.
А я не прышлы:
сам пан у родзе.
Удоўж і ўшыркі
ў стагоддзях ходзім.
Уяўляю дызайн адвечнасці:
крона — у рыштаваннях,
камель — у друзе,
карані —
у Вялікім Княстве Любові.
Над назваю — насып.
Жвір журбы разрыхлю!

* * *

Апостраф убрыквае слова.
Двукоссе яго зашорвае.
А мяккі знак увекавечвае
маё маўленне.
Нічога не кажу пра «ў» —
нескладовае для суседзяў:
гжэчным капялюшыкам
вітае іх па-шляхецку.

* * *

Вакол майго дома
спадзеўнымі зоркамі-заклёпкамі
я змацоўваю ў суткі-содні
кожныя дзень і ноч, —
каб іржавыя znічкі
не ўтыкнуліся
ў прыдуманую імі
дамавіну Бацькаўшчыны.

# Пятро Макарэвіч



**Пятро Макарэвіч —**
паэт, перакладчык,
сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.
Нарадзіўся 15 красавіка 1938 г.
у в. Шынкі Крупскага раёна Мінскай вобласці.
Восем гадоў служыў у войску.
Закончыў Беларускі дзяржаўны
педагагічны інстытут імя М. Горкага.
Амаль тры дзесяцігоддзі працаваў
карэспандэнтам лідскай раённай газеты
і гарадскога радыё.
Аўтар кніг паэзіі «Злітак» (1997),
«Расінкі беларускіх слоў» (2008).
У 2012 г. выдаў кнігу «Птица свободы» —
анталогію аднаго верша
ста беларускіх паэтаў XX–XXI стст.
у сваім перакладзе на рускую мову.
Жыве ў Лідзе.

## Акраец жыцця

Я з першага чэрвеня — птушка свабоды:
Ніхто не начальнік ужо нада мной.
Сказаўшы апошняй прафесіі «Годзе!»,
Нарэшце пакінуў я шуфель з мятлой.
Камандую сам я сабою і часам.
Будзільнік-сабака не рве болей сон.
На яве лячу я паветраным асам
На хвалі натхнення ў творчы палон.
Ад сэрца радкі я кладу на паперу
Пад рыфму і рытм паслухмяным пяром.
Прымаю паклоны чароту, аеру,
Стракозы фліртуюць з маім паплаўком.
Раздольна мне дыхаць на хутары, дачы
Па волі магутнай і шчодрай Тварца.
І толькі сумленню дае справаздачу
Мой непадуладны акраец жыцця.

*Чэрвень 2012 г., Ліда.*

## Ранак на Бацькаўшчыне

Па маладзенькіх промнях дня
У неба пот віецца парай.
Святлеюць сосны за папарам,
Дзе блізкая мая радня
Ля прадзедаў зямельку парыць.

А я, як Ясір Арафат,
Спавіўшы галаву хусцінай,
Кашу атаву канюшыны
Паблізу дзедаўскіх прысад
У звоне хмары камарынай.

Да вуснаў туліцца ручай
(У маленстве — дзедава крыніца),
Што з-пад алешніку бруіцца.
І аціхае мой адчай
З глытком гаючае жывіцы.

Пракосы ў кропельках расы
Трымцяць вясёлкаю на сонцы
І пах мядовы льюць бясконца...
Пасля пластую, блудны сын,
Ласунак матчынай кароўцы.

Упершыню падперазаў
Без бацькі сена воз духмяны.
І адпускаюць сэрца раны.
І з возам коціцца сляза
Любові, ўдзячнасці, прызнання...

## Унукі і летнік

Усё давалася мне ў рукі,
А хлопчыка не клікаў «сын!»
Затое радуюць унукі —
Арлы Георгій і Максім.

На дачу на веласіпедах
Праз Навасёлкі так ляцім,
Што напужалі непаседы
Сабак галёканнем сваім.

А Гоша рэагуе брава
І на былога лёну сінь:
«Цвіло тут поле кучарава,
А сёння лысае зусім!»

Рыдлёўкай здабываю з градкі,
Прашу даць куркам чарвячкоў.
Нясуць для вока, для парадку,
Але... закопваюць цішком.

Ну што за змоўшчыкі малыя!
Калі злавіў я на мане,
«Яны ж, дзядулечка, жывыя!» —
Усцешваюць ужо мяне.

Вось каларадскіх бульбарэзаў —
У шклянцы я запёр жукоў,
А жыццядайныя гарэзы
Ў бульбоўнік высыпалі зноў...

Максімка кошку на трох ножках
Бязлапкай любасна назваў,
А шэрага катка — Цімошка,
І хатку ім пабудаваў.

Мы даглядаем іх старанна
І я ад шчасця п'яны ўшчэнт,
Бо труцца так ля ног аддана,
Бы я — кашачы прэзідэнт!

## Спагада жывому — жыве

У раме аконнай аблокі
Па майскім блакіце плывуць.
Спакойна і мудра здалёку
Да сэрца ўспаміны нясуць.

Вось я, аблачынка дзяцінства,
Над лугам, над полем лятун,
Наскрозь прамяніста расхлістан,
Да ўпаду гуляю ў лапту.

На рукі мае па сасонцы
Сястрычка-вавёрка імкне.
Здаецца, разліўся я з сонцам,
А сонца ўлілося ў мяне.

Казяўцы з аслабленым цельцам
Заўзята майструю жытло
З лучынак, травінак і шкельцаў:
Хачу, каб жывое жыло!

Але за хмурынкамі хмары
Нахлынулі цёмных масцей
І — градам па хатцы, па марах
Дубасяць мацней і мацней.

Шчырую насуперак грому
І бліску маланак кругом...
Не выбіў спагады жывому
І сённяшні гром з перуном.

*1–3 лютага 2011 г., Ліда.*



**Мікола Касцюкевіч** — паэт.
Нарадзіўся 13 студзеня 1967 года
ў горадзе Мінску, дзе і жыве да гэтага часу.
Вучыўся на філфаку і журфаку БДУ.
Аўтар трох паэтычных зборнікаў:
«Вяртанне» (1990),
«Настальгія» (1995),
«Германія» (1995).
Творы перакладаліся на рускую,
украінскую, нямецкую,
іспанскую мовы.
Сябра Саюза беларускіх
пісьменнікаў з 1998 года.

Мікола Касцюкевіч

# Лістапад

* * *

— Мой Бог! Нашто ў дадатак церні
на й без таго суровы лёс?!
Але... ні гуку ў ночнай цемні,
дзе ў кожнага сваё мігценне
ліхтарні срэбнае нябёс.

**ГАТЫЧНЫ ТРЫЯЛЕТ**
Эсэнцыя

Страхі людскія, як птахі,
вострыя ў іх кіпцюры.
Нельга услых гаварыць:
страхі людскія, як птахі.

Ночныя крылаў узмахі
недзе ўжо блізка ўгары —
страхі людскія, як птахі,
востраць свае кіпцюры.

* * *

Калі здараецца хвіліна
і трэба нам выракаваць,
якую выбраць пуцявіну,
каб потым сораму не знаць,

каб зноў з душою лёгкай крочыць,
ёсць спосаб слушны: кожны раз
глядзецца ў матчыныя вочы,
што дзесь пакутуюць за нас.

## ЛІСТАПАД

Узнёслую самоту Ліста
халодны вецер прашаптаў,
і восень разліла празрысты,
яшчэ няўпэўнены крышталь.

А клён з настаўленым
каўнерам
дзіравы парасон трасе,
і піша на рудой паперы,
як дагарае ў голым скверы
бурштын апошні пакрысе.

## ВУЛІЧНАЯ ПАСТАРАЛЬ

Галлём счарнелым лезе дрэва
пад вокны з снежнае сяўбы.
Направа — груд намерзлы, злева —
ля шыбы ўюцца галубы.

Птушыны грай не знае гора
там, дзе людское ёсць жытло.
Яму паддашшы дорыць горад
і вуліц жоўтае святло.

Так добра раніцай замглёнай
зляцець, пад'есці у цяпле,
каб нехта радасна-ўлюбёны
крышыў на падваконні хлеб.

## АКРАВЕРШ

**Я** не пранёс любоў у часе
**Ц**натліва, як найвышні дар.
**Я**на ў мяне даўно звялася,
**Б**о шмат каму прынёс ахвяр.
**Е**нк не зацьміў дурныя вочы,
**К**алі ўцякаў я ад цябе,
**А**ле цяпер і ўдзень і ўночы
**Х**аджу то ў смутку, то ў жальбе:
**А**дной табе я хвалі нёс
**Ю**нацкіх найшчаслівых слёз.

* * *

Мы з табой — нібы зоркі ў мігценні:
уздыхне час апошняй тугой,
і занікнуць сляды, толькі цені
пасля нас павядуць карагод.

Мы з табой — два магічныя дрэвы —
скора знікнем без следу ў агні.
Попел здзьмухваюць ветру павевы,
засыхаюць без сіл карані.

Мы з табой — два пачуцці, два крыкі,
што зліліся ў каханне адно.
А яно, несмяротнае, звыкла
расчыняе ў бясконцасць акно.

## 1863

Знерухомела бледная поўня,
снег крывіцкай крывёй набрыняў,
і шыхтуецца шляхта ў пагоню,
люд сякеру ад дрэва адняў.

Гартам гора за даўкай гаркотай
крые край, дзе гарлае груган,
дзе сілкуе напевы гаротныя
калаўрот незагоеных ран.

Тут рунеецца гнеў на палетках,
і стаіць у паветры праклён,
хоць запхнуты ў быдлячую клетку,
каб нікому не быў ён чуцён.

Немажліва трываць, бо ўсё болей
упіваецца ў горла пятля,
каб давеку не зведалі волі,
каб забылі, чыя тут зямля.

.....................................................
Гонар продкаў ніколі не ўспомніць
той, хто сэрцам прынуку прыняў, —
і вымервае гоні пагоня,
і крывёй белы сцяг набрыняў.

* * *

Ах, як светла батлейкі-аблокі вялебнай плывуць талакой
над залітымі сонечным клёкам усплёскамі спелых палёў.
Як старанна да ранку стагуе сузор'і свае небакрай,
і штодзённа шчыруе ў прасторах руплівая рунь,
засяроджана-зеленакрылых узгоркаў імклівы разлёт
па-сяброўску спавіты маўкліваю блакітнавокай ракой.
У тры столкі нябыту згарнуты айчыны квяцісты абрус,
гоіць сэрца сваім дачарна спрацаваным
шчымлівым палеткам.
І ніяк не нацешыцца Створца,
не ў сілах разняць моцных рук,
і трымае, як жаўранка доўгачаканага ў звонкім зеніце,
напаёную Духам Жывым разняволеную Беларусь.

Тамара Габрусь

# КАТАЛІЦКАЕ БУДАЎНІЦТВА Ў СТАРАЖЫТНЫМ ПОЛАЦКУ



Сафійскі сабор у Полацку (былы грэка-каталіцкі). XVIII ст.

Сёлета грамадскасцю шырока адзначаецца 1150-годдзе Полацка, найстаражытнейшага горада Беларусі, які ўпершыню ўпамінаецца ў летапіснай «Аповесці мінулых гадоў» пад 862 годам. Зразумела, што сапраўдная гісторыя гэтага горада яшчэ больш даўняя. Той факт, што па тэрыторыі Беларусі праходзіць водападзел басейнаў Балтыйскага і Чорнага мораў, у раннім Сярэднявеччы меў найважнейшае значэнне для яе палітычнага і эканамічнага жыцця, таму транспартныя сувязі ажыццяўляліся галоўным чынам па рэках. У канцы I тыс. н. э. тут праходзіў славуты гандлёвы шлях паміж Візантыяй і скандынаўскімі краінамі, званы ў старажытных летапісах шляхам «з варагаў у грэкі». У сутоку вялікіх і малых рэчак узнікалі ўмацаваныя паселішчы, якія зваліся ў славянаў гарадамі, таму ў геаграфічных крыніцах Заходняй Еўропы наш край называўся «гардарыкай» — краінай гарадоў. Для падарожнікаў-гандляроў яны служылі своеасаблівымі пунктамі пройдзенага шляху і гасцінным прытулкам, але адначасова гарады павінны былі абараняцца ад варожых нападаў і рабаванняў. Паколькі на адной вялікай рацэ ўзнікала некалькі гарадоў, яны звычайна атрымоўвалі сваю назву ад старажытных водных тапонімаў шматлікіх прытокаў.

На правым беразе магутнай Заходняй Дзвіны, галоўнай воднай артэрыі Беларускага Паазер'я, у сутоку яе з невялікай рэчкай Палатой, і паўстаў некалі «град» Полацк. У розных летапісных крыніцах і скандынаўскіх сагах ён меў некалькі аднатыпных назваў: *Полотеск, Полотьск, Полтеск, Палтесьюберг*. Спачатку гэта было невялікае крывіцкае гарадзішча на востраве ў русле Палаты, памерамі ўсяго 0,1 га і паселішчам вакол яго на тэрыторыі 6,5 га. Ужо ў X ст. Полацк стаў цэнтрам найбуйнейшага на беларускіх землях удзельнага княства. Тэрыторыя горада ў гэты час пашырылася да 20 га. У 980 г. тут княжыў Рагвалод, забіты кіеўскім князем Уладзімірам Святаслававічам, які гвалтам узяў за жонку яго дачку Рагнеду.

Праўнук Рагвалода, славуты полацкі князь Усяслаў Брачыслававіч, празваны Чарадзеем, у першай палове XI ст. перанёс гарадскі дзядзінец на высокі бераг Заходняй Дзвіны, абмежаваны з захаду Палатой. Такім чынам умовы рэльефа стварылі натуральныя перашкоды, якія дапоўнілі штучныя драўляныя ўмацаванні таўшчынёю ў некалькі бярвенняў, што рабіла княжацкую рэзідэнцыю непрыступнай.

Падчас уладарання Усяслава, найбольш верагодна, у 1050–1055 гг., у цэнтры гарадскога дзядзінца палачане ўзвялі велічны сабор у гонар Сафіі — Пра-

---

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кніг «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.

мудрасці Божай, адзін з трох галоўных храмаў Старажытнай Русі. Параўнальна з пабудаванымі крыху раней Сафійскімі саборамі ў Кіеве і Ноўгарадзе полацкая Сафія не саступала ім памерамі, дасканаласцю архітэктурнай кампазіцыі, мастацкай выразнасцю сілуэта з сям'ю «верхамі», што таксама сведчыць пра палітычную і эканамічную магутнасць Полацкага княства. Сакральная сутнасць хрысціянскага храма спрыяла патрыятычнаму яднанню палачанаў. Сафійскі сабор стаў сімвалам палітычнай незалежнасці, у ім адбываліся найбольш значныя грамадскія падзеі: ажыццяўлялася «пасажэнне на прастол», абвяшчаліся вайна і мір, прысягала на вернасць князю дружына, прымаліся іншаземныя паслы, складаліся летапісы, перапісваліся кнігі.

Сафійскі сабор стаў першым творам манументальнай муранай архітэктуры Беларусі. За сваю шматвяковую гісторыю ён некалькі разоў знішчаўся, але адраджаўся, як чароўная птушка Фенікс. Першапачаткова ён быў пабудаваны па ўзору позневізантыйскага цэнтрычнага крыжова-купальнага храма з плінфы і мясцовага каменю, але ўжо меў шэраг тутэйшых архітэктурна-будаўнічых адметнасцяў. Усяго ў старажытным Полацку ў XI–XIII стст. было ўзведзена 9 мураваных праваслаўных храмаў, якія мелі агульныя рысы ў тэхніцы муроўкі, архітэктурнай кампазіцыі, дэкоры фасадаў і інтэр'ераў. За выключэннем Спаса-Праабражэнскай царквы, пабудаванай па замове св. Еўфрасінні Полацкай першым вядомым паводле летапісаў беларускім дойлідам Іванам, яны дайшлі да нашага часу ў архітэктурна-археалагічным стане, на ўзроўні падмуркаў. Гэтая значная па колькасці і гісторыка-культурнай каштоўнасці сукупнасць архітэктурных помнікаў вызначаецца ў гістарычнай навуцы як ***полацкая школа дойлідства*** старажытнарускага перыяду.

З канца ваяўнічага XIII ст., калі з усходу краю пагражала татара-мангольская навала, а з захаду — агрэсія крыжацкіх ордэнаў, стратэгічнае значэнне Полацка зноў узрасло. Ужо на пачатку 1260-х гг. тут уладарыў літоўскі князь Таўцівіл, а з 1307 г. Полацк быў дакументальна замацаваны ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. У «Хроніцы Польшчы» Яна Чарнкаўскага пад 1382 г. Полацк названы крэпасцю Белай Русі — гэта адно з найбольш ранніх дакументальных гісторыка-этнічных вызначэнняў нашага краю. На працягу пяці стагоддзяў ядро горада знаходзілася ў кольцы абарончых збудаванняў, што адлюстравана на шэрагу старажытных малюнкаў і мапаў. Княжацкі дзядзінец у XVI ст. атрымаў назву Верхні замак, у сувязі з пабудовай непадалёку ад яго, вышэй па цячэнні Палаты, Ніжняга замка.

Кампазіцыйнай і сілуэтнай дамінантай Верхняга замка параненйшаму заставаўся Сафійскі сабор, які з канца XV ст., як вызначыў паводле гістарычных крыніцаў вядомы беларускі гісторык М. Ткачоў, набыў аблічча храма-крэпасці з чатырма абарончымі вежамі. На працягу XVII ст. Сафійскі сабор, які перайшоў да ўніятаў, неаднаразова цярпеў ад пажараў і перабудоўваўся, але нязначна. Вядома, што ў пачатку стагоддзя полацкі ўніяцкі арцыбіскуп Язафат Кунцэвіч зняў вярхі абарончых вежаў «як непатрэбныя і царкве ніякай красы не прыдаваўшыя». Але і праз стагоддзе на плане фартыфікацыйных збудаванняў Полацка 1707 г. Сафійскі сабор, як і раней, прадстаўлены абарончым збудаваннем. Падчас Паўночнай вайны з 1705-га па 1710 г. Полацк быў часова заняты рускімі войскамі (Рэч Паспалітая і Расія выступалі ў гэтай вайне як саюзныя дзяржавы супраць Швецыі). Па загадзе Пятра I, які выгнаў з сабора ўніяцкіх святароў, а дваіх нават забіў, у сутарэннях храма зрабілі склад боепрыпасаў. 1 мая 1710 г. старажытны Сафійскі сабор быў амаль дашчэнту зруйнаваны выбухам.

Адраджэнне Сафійскага сабора адбылося праз 30 гадоў намаганнямі ўніяцкага мітрапаліта і грамадскага дзеяча Фларыяна Грабніцкага, які на працягу 43-х гадоў, з 1719-га па 1762 г., з'яўляўся арцыбіскупам Полацкім. Ён рэфармаваў базыльянскія кляштары сваёй епархіі, дбаў аб адукацыі вернікаў, па яго загадзе і пад яго наглядам былі ўзведзены мураваныя ўніяцкія цэрквы ў Полацку, Віцебску, Оршы, Беразвеччы (пад Глыбокім), у мастацкім абліччы якіх расквітнела позняе беларускае барока, званае віленскім. На яго ўласныя сродкі ў 1738–1750 гг. (афармленне інтэр'ера працягвалася да 1765 г.) па праекце віленскага архітэктара Я.К.Глаўбіца быў нанава змураваны велічны Сафійскі сабор, дзе пазней пахавалі яго фундатара.

Як уніяцкі, сабор быў пераарыентаваны алтаром на поўнач, пры гэтым даўжыня старажытнай Сафіі вызначыла шырыню новай. Будынак набыў структуру трохнававай базылікі з трансептам, утвораным старымі ўсходнімі і нанава прыбудаванымі заходнімі апсідамі. Спалучэнне аб'ёмаў рознай вышыні, увенчаных карункавымі франтонамі і галоўкамі з крыжамі, надало збудаванню незвычайную маляўнічасць. Асабліва ўражвае архітэктурная гармонія двухвежавага фасада: верхнія скразныя ярусы вежаў рэзка скарачаюцца ўгору, што стварае ўражанне амаль касмічнай узнёсласці, якое ўзмацняецца размяшчэннем храма на крутым беразе Заходняй Дзвіны, у выніку чаго яго сілуэт адыгрывае выключна важную ролю ў агульнай панараме горада. Рэстаўраваны ў 1980-я гг., Сафійскі



Двор адноўленага Полацкага езуіцкага калегіума.

сабор і сёння застаецца сакральным сімвалам Полацка і яго найкаштоўнейшым культурным асяродкам.

Першы каталіцкі касцёл, верагодна, быў пабудаваны ў Полацку яшчэ ў XIII ст. ганзейскімі (нямецкімі) купцамі і выкарыстоўваўся імі таксама для захавання тавараў. У 1406 г. вялікі князь літоўскі Вітаўт дазволіў рыжскім купцам, якія вялі з Полацкам актыўны гандаль, пабудаваць тут каталіцкі храм, аднак невядома, ці быў ён дабудаваны, таму што ў больш позніх гістарычных крыніцах пра яго не ўпамінаецца. У 1498 г. каралём польскім і вялікім князем літоўскім Аляксандрам Ягелончыкам у Полацку быў заснаваны адзін з чатырох найбольш ранніх у Беларусі кляштар ордэну бэрнардынаў. Да ініцыятывы яго заснавання далучыўся польскі паэт і царкоўны дзеяч Уладзіслаў з Гельнова, дзякуючы намаганням якога многія палачане прынялі каталіцтва. Выхаванцам полацкіх бэрнардынаў быў Францішак Скарына, які, верагодна, прыняў паўторнае хрышчэнне і стаў звацца Францыскам у гонар нябеснага патрона ордэну. У тым жа 1498 г., у дзень св. Францыска, Полацк атрымаў магдэбургскае права, што, як лічаць гісторыкі, было невыпадкова. Фундацыя на распачатае ў 1502 г. будаўніцтва драўлянага кляштара ў Запалоцці пацвярджалася каралеўскім прывілеем 1504 года. Першы драўляны бэрнардынскі кляштар праіснаваў да 1563 года. Падчас Лівонскай вайны горад быў захоплены войскам маскоўскага цара Івана Грознага. Усе шасцёра манахаў бэрнардынаў (Адам, Бонавентура, Венцаслаў, Даменік, Марцін і гвардыян Павел) былі забітыя татарамі, якія служылі ў царскім войску.

Замест драўляных будынкаў бэрнардынаў у 1696 г. па фундацыі ваяводы полацкага Аляксандра Слушкі быў узведзены мураваны комплекс кляштара з касцёлам св. Ганны. Як бачна на плане Полацка 1707 г., ён размяшчаўся ў цэнтры Вялікага пасада. Кляштар меў выгляд аднапавярховага мураванага жылога корпуса. З поўдня ад яго знаходзіўся аднанававы касцёл з больш нізкай прамавугольнай апсідай прэсбітэрыя. Да галоўнага фасада святыні далучалася масіўная чатырох’ярусная вежа з готыка-рэнесанснымі рысамі. У сярэдзіне XVIII ст. кляштар бэрнардынаў быў перанесены ў Задзвінне, дзе стаў адным з важных стратэгічных пунктаў абароны горада. У 1758–1769 гг. быў змураваны новы аднанававы касцёл з дзвюма вежамі на галоўным фасадзе, які меў план у выглядзе лацінскага крыжа і прыгожую «карону» з чатырох фігурных франтонаў. Архітэктурныя формы святыні, асвечанай у гонар Найсвяцейшай Дзевы Марыі Нябеснай і адлюстраванай на піктаграфічнай карце бэрнардынскіх кляштараў Вялікага Княства Літоўскага, дазваляюць аднесці яе да стылістыкі позняга беларускага барока. У комплекс, абнесены мураванай агароджай, уваходзілі мураваныя, накрытыя чарапіцай, будынкі двухпавярховага Г-падобнага кляштарнага корпуса, плябаніі і лазні, а таксама шматлікія драўляныя пабудовы: амбары, пякарня, піўніца, лядоўня, сараі, стайня. У 1772 г. у ім было 10 законнікаў, існавала школа філасофіі, а з 1810 г. — прытулак для жабракоў. У 1832 г. кляштар быў скасаваны, а касцёл ператвораны ў праваслаўную царкву. На сённяшні дзень захаваліся руіны былога касцёла і жылы корпус бэрнардынскага кляштара.

Наступнымі ў Полацку былі езуіты, за імі — францішкане і дамінікане. Першыя драўляныя будынкі ўсіх кляштараў неаднаразова цярпелі ад пажараў. Жабрацкія каталіцкія ордэны толькі ў другой палове XVIII ст. здолелі паставіць мураваныя касцёлы, але ў сувязі з хуткім падзелам Рэчы Паспалітай (Полацк увайшоў у склад Расійскай імперыі па 1-м падзеле 1772 г.) ім было наканавана нядоўгае жыццё.

Рэзідэнцыя езуітаў у Полацку была заснавана ў 1579 годзе. Роля Полацка ў гісторыі гэтага ордэну ўнікальная — ён стаў не толькі першым, але і апошнім яго прытулкам на беларускіх землях. Летам 1581 г. пад патранатам караля Стэфана Баторыя і намаганнямі вядомага езуіта, палеміста і прапаведніка Пятра Скаргі ў Полацку быў створаны калегіум — 5-класная навучальная ўстанова філалагічна-тэалагічнага профілю, дзе выкладаліся лацінская і грэчаская мовы, рыторыка, паэтыка, антычная літаратура і Святое Пісанне. Ка-

ралеўскім фундушам ад 1582 г. полацкім езуітам былі перададзены ўсе праваслаўныя цэрквы і манастыры горада, за выключэннем Сафійскага сабора, які крыху пазней быў перададзены ўніятам. Першапачаткова будынкі калегіума меркавалася ўзвесці на Востраве ў цячэнні Заходняй Дзвіны, на месцы праваслаўнага манастыра Іаана Прадцечы. Аднак езуіты занялі «ратушнае месца» і пачалі будаваць калегіум на высокім правым беразе ракі, паміж Верхнім замкам і Рынкавай плошчай. Першапачаткова будынкі калегіума былі драўляныя. Пры іх у 1636 г. па фундацыі В. Будака быў пабудаваны і драўляны касцёл на «мураваных крыптах», асвечаны ў гонар св. Казіміра, але ён быў знішчаны пажарам у 1643 годзе.

Падчас руска-польскай вайны 1654–1667 гг. Полацк быў захоплены войскам маскоўскага цара, пры гэтым калегіум, перад тым часткова адноўлены, цалкам знішчаны. Пасля вайны калегіум хутка адбудавалі, але самі езуіты называлі яго «сціплым». Сярод драўляных пабудоваў у 1682 г. паўстаў адзіны мураваны будынак, заняты бібліятэкай. Будаўніцтва мураванага касцёла пачалося ў канцы XVII ст. (умоўныя выявы комплексу адлюстраваныя на ваенных планах Полацка 1707 і 1720 гг.).

У 1733 г. касцёл езуітаў зноў быў разбураны рускім войскам, але ў тым жа годзе пачалося будаўніцтва новай велічнай святыні, якая сваімі памерамі пераўзыходзіла ўсе пабудовы горада. Яе ўзвядзенне ў асноўным было завершана ў 1738 г., але аздабленне інтэр'ера працягвалася да 1766 года. Касцёл езуітаў быў асвечаны ў 1745 г. у гонар св. Стэфана, нябеснага патрона караля-заснавальніка. Будынак уяўляў класічны архітэктанічны тып трохнававай крыжова-купальнай базылікі з планам у выглядзе лацінскага крыжа. На час будаўніцтва кас-



Зала Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта (былога езуіцкага калегіума).

цёла прыпадае ўдзел у ім і выкладанне ў калегіуме вядомых мясцовых архітэктараў езуітаў, сярод якіх Казімір Мецялкоўскі, муляр Бэнэдыкт Мезер, Марцін Пачобут, Язэп Алендзкі, Базыль Шляхта, Андрэй Жаброўскі. Вядома, што купал святыні ўзводзіў архітэктар езуіт Габрыэль Лянкевіч, які атрымаў прафесійную адукацыю ў Рыме. У стварэнні галоўнага алтара прымаў удзел мастак Сымон Чаховіч, над сніцарскім аздабленнем інтэр'ера працавалі разьбяры Антоні Лазуровіч і Тамаш Быковіч. Італьянскі майстар Дамінік Адам Касперыні пабудаваў тут цудоўны арган, які ў 1838 г. пры перабудове касцёла пад праваслаўны Мікалаеўскі сабор быў перавезены ў Вільню ў былы касцёл езуітаў пад тытулам св. Яна.

У 1750 г. на месцы ў чарговы раз знішчанага пажарам драўлянага калегіума пачалі мураваць новы грандыёзны комплекс, які разам з касцёлам стварыў велічны архітэктурны ансамбль. Яго агульная плошча складала 7180 м². Будаўніцтва ішло ў некалькі этапаў. Размяшчэнне трохпавярховага Е-падобнага корпуса на высокім надпойменным плато Заходняй Дзвіны запатрабавала ўмацавання берага мураванаю падпорнаю сцяною. На тэрасе перад галоўным фасадам быў разбіты рэгулярны сад. У падмуркі комплексу былі закладзены мураваныя падземныя вадасцёкі, якія дрэніравалі глебу. Сутарэнні таксама былі абсталяваны вадасцёкамі, у сценах убудаваны вентыляцыйныя хады, а пад цаглянымі і кафлянымі падлогамі праходзілі ацяпляльныя каналы, што стварала высокі ўзровень тэхнічнага забеспячэння і камфорту.

На 1-м паверсе знаходзілася трапезная, дзе на сценах віселі карціны. Верхні паверх над трапезнай займала славутая бібліятэка калегіума, якая на час свайго расфармавання ўключала 40 тысяч тамоў і з'яўлялася найбагацейшым кнігазборам на Беларусі. Аснову кніжнага фонду складалі выданні XVI–XVIII стст. на польскай, лацінскай, французскай і нямецкай мовах, а таксама літаратура, выдадзеная на Беларусі, у тым ліку ва ўласнай друкарні калегіума.

Калі ў 1773 г. булай папы Клімэнта XIV ордэн езуітаў быў скасаваны, імператрыца Кацярына II, насуперак буле, вырашыла захаваць ордэн у сваёй дзяржаве, і цэнтрам яго знаходжання стаў Полацк. У 1780 г. імператрыца наведала Полацк, што спрыяла чарговай актывізацыі будаўніцтва калегіума, які стаў магутнаю горадабудаўнічаю і найбагацейшаю культурна-асветніцкаю структураю.

У лютым 1784 г. сюды прыехаў прафесар архітэктуры Габрыэль Грубер, славенец па паходжанні, які з 1785 г. выконваў абавязкі кіраўніка ордэну. Гэта быў чалавек выключных здольнасцяў, які валодаў шматлікімі еўрапейскімі мовамі і веданнем многіх гуманітарных і прыродазнаўчых навук. Ён быў таксама доктарам медыцыны і выдатным мастаком, хаця звычайна яго характарызуюць як архітэктара і матэматыка. Паводле яго праекта, пабудаваны новы корпус злучыў галоўны і тэатральны карпусы: тут знаходзіліся пінакатэка, аздобленая ўласнымі фрэскамі Грубера, музей, хімічная лабараторыя, абсерваторыя і кабінеты па розных дысцыплінах. З полацкім езуіцкім калегіумам звязаны пачатак прафесійнай архітэктурнай адукацыі на Беларусі: тут існавалі 2 факультэты архітэктуры (цывільнай і ваеннай), на якіх у 1802 г. навучалася каля 40 чалавек.

Габрыэль Грубер меў вялікі ўплыў на расійскага імператара Паўла І, пры пасрэдніцтве якога ў 1801 г. атрымаў дазвол папы Пія VII на прызнанне ордэну ў межах Расійскай імперыі. На базе калегіума ў 1812 г. была створана вышэйшая навучальная ўстанова — Полацкая езуіцкая акадэмія, якая праіснавала да 1820 года. Дзякуючы ёй горад квітнеў, але асабліва святочна ён выглядаў 1 жніўня, калі пачыналіся вакацыі. Як зазначае Ян Баршчэўскі, выхаванец Полацкай езуіцкай акадэміі, адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры: «*У той дзень горад Полацак мог стаць сталіцаю ўсёй Белай Русі*». Аднак дзейнасць ордэну была спынена паводле загаду Аляксандра І ад 13.3.1820 г. аб высылцы езуітаў з Расійскай імперыі. Акадэмія зачыняецца, а будынкі і маёмасць езуітаў перадаюцца ордэну піяраў, якія валодалі імі да 1830 г., калі і гэты ордэн быў скасаваны. Бібліятэчныя зборы былі разасланыя



План Полацкага езуіцкага калегіума.

ў Пецярбург (389 старадрукаў) і Сімбірск (2080 кніг). Частка іх праз Віцебскую духоўную семінарыю трапіла ў Кіеўскую духоўную акадэмію і г.д. У былым калегіуме размясціўся Полацкі кадэцкі корпус, касцёл жа ў лютым 1833 г. быў пераасвечаны ў праваслаўную царкву ў гонар святога Мікалая Мірлікійскага, якая пазней стала катэдральным саборам Полацка-Віцебскай епархіі. У гэты час комплекс падвяргаўся рэканструкцыі паводле праекта полацкага епархіяльнага архітэктара А.Порта, але, як сведчыць малюнак Н.Орды 2-й паловы XIX ст., значных зменаў у яго выглядзе не адбылося.

Галоўны фасад касцёла св. Стэфана замыкаў з захаду перспектыву планіровачнай восі горада — былой Віцебскай вуліцы. Тэлескапічныя верхнія ярусы амаль 60-метровых вежаў надавалі яго абліччу такую ўзнёслую стромкасць, якой не меў ніякі іншы помнік сакральнай архітэктуры барока на Беларусі. Касцёл езуітаў ствараў асноўную сілуэтную дамінанту горада, нават больш значную за Сафійскі сабор, з якім ён меў мастацка-стылёвае падабенства. Магчыма, гэтая моцная горадабудаўнічая актыўнасць культавага збудавання стала прычынаю таго, што на піку атэістычнага варварства, у 1936 г., вежы касцёла разабралі. Другая хваля вандалізму накрыла ўжо ўвесь комплекс — гэта адбылося падчас хрушчоўскай «адлігі». Рэспубліканская камісія, пры ўдзеле старшыні Дзяржбуда БССР, прыняла рашэнне аб «немэтазгоднасці і немагчымасці» аднаўлення былога ансамбля, які адразу быў зняты з уліку помнікаў гісторыі і культуры. У студзені 1964 г. будынкі касцёла і калегіума былі ўзарваныя (ацалелі толькі паўднёвая частка галоўнага корпуса і заходняе крыло). У новым тысячагоддзі будынкі калегіума амаль цалкам адноўленыя і ў іх з Наваполацка пераведзена УА «Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт». У памяшканнях былога калегіума 22—23 мая 2012 г. адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя «Полацк у гісторыі і культуры Еўропы», прысвечаная юбілею горада, у якой мне давялося прыняць удзел. У заключнай пастанове, прынятай канферэнцыяй, ёсць прапанова аднавіць будынак касцёла св. Стэфана, як гэта зроблена з Успенскім саборам і Уваскрэсенскай царквой у Віцебску.

...У 1812 г. пад Полацкам пры падыходзе напалеонаўскай арміі да Заходняй Дзвіны 5-6 жніўня і яе адступленні 5-8 кастрычніка адбыліся бітвы паміж рускімі і французскімі войскамі. На акварэлі таго часу, якая адлюстроўвае першую падзею, барочны сілуэт бэрнардынскага касцёла распачынае з Задзвіння велічную панараму архітэктурнага ансамбля цэнтра Полацка з шматлікімі двухвежавымі святынямі на процілеглым беразе, сярод якіх на пярэднім плане бачны сілуэт ужо неіснуючага касцёла св. Антонія ордэну францішканаў.

Кляштар францішканаў, які існаваў у Полацку з 1628 г. па фундацыі Тэафіла і Хрысціны Храпавіцкіх, быў скасаваны ў 1833 г. пасля паўстання 1830–1831 гг. Яго драўляныя будынкі размяшчаліся на надпоймennай тэрасе Заходняй Дзвіны, непадалёку ад праваслаўнага Богаяўленскага манастыра. У 1763–1775 гг. была змуравана трохнававая двухвежавая базыліка

касцёла св. Антонія Падуанскага, якая вызначалася пышнаю стукаваю аздобаю інтэр'ера. Унутры святыні знаходзіліся пяць барочных алтароў, выкананых у тэхніцы стука (штучнага мармура), на хорах — 10-галосы арган (знішчаны пажарам у 1861 г.). Галоўным фасадам з дзвюма высокімі трох'яруснымі вежамі касцёл быў павернуты на поўнач, а алтарнай часткай — на поўдзень. З шматлікіх планаў Полацка XVIII–XIX стст. вынікае, што ў горадабудаўнічай структуры ён ствараў агульную кампазіцыйную мерыдыянальную вось з касцёлам дамініканаў, які стаяў на паўночным баку галоўнай плошчы горада. Ацалелы да нашага часу прамавугольны ў плане двухпавярховы мураваны кляштарны корпус быў узведзены да 1778 года. Ён быў далучаны да касцёла з усходняга боку і сваім строгім выглядам падкрэсліваў пышную пластыку галоўнага фасада святыні, што было характэрна для сакральнай архітэктуры беларускага барока. У комплекс кляштара ўваходзіла таксама некалькі драўляных будынкаў: два гаспадарчых флігеля, амбар, пякарня, стайня. У 1833 г. кляштар францішканаў быў скасаваны і перададзены праваслаўнаму ведамству. Касцёл быў часткова разбураны ў Вялікую Айчынную вайну і канчаткова — пасля яе.

Кляштар дамініканаў з драўляным касцёлам у гонар Найсвяцейшай Дзевы Марыі заснаваны ў Полацку ў 1672 г. канонікам віленскім Ф.М. Гурскім з дазволу Віленскага біскупа Аляксандра Сапегі. Аднак мураваны касцёл закладзены толькі ў 1774 г., пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай, і будаваўся з улікам перапланіроўкі галоўнай плошчы горада, якая праводзілася губернскім архітэктарам Іванам Зігфрыдэнам у сувязі са стварэннем у 1776 г. Полацкай губерні. Асноўнае будаўніцтва святыні прыпадае па часе на 1801–1804 гг., што адпавядала перыяду панавання ў мастацкай культуры Расійскай імперыі ідэяў класіцызму, таму ў архітэктуры полацкага касцёла дамініканаў спалучаныя рысы позняга барока і класіцызму. Гэта была класічная трохнававая базыліка, якая адзіная ў горадзе не мела вежаў. У адпаведнасці з горадабудаўнічай сітуацыяй, касцёл быў павернуты алтарнай часткай на поўнач, а галоўным фасадам — да плошчы. Вышыня будынка была роўнаю палове вышыні кампазіцыйнай дамінанты ансамбля – касцёла езуітаў. Першапачаткова галоўны фасад касцёла дамініканаў завяршаўся масіўным фігурным франтонам з арачнымі нішамі, які ў 1804 г. замянілі невысокім класіцыстычным трохвугольным франтонам. Інтэр'ер аздаблялі 5 разьбяных паліхромных алтароў, на хорах мясціўся 12-галосы арган. З усходу да касцёла прылягаў двухпавярховы Г-падобны мураваны кляштарны корпус, накрыты чарапіцаю. Будынкі комплексу пацярпелі ад пажараў у 1837 і 1843 гг. Пасля паўстання 1863–1864 гг. у былым кляштары былі размешчаны казармы. Касцёл застаўся адзіным у горадзе парафіяльным каталіцкім храмам, але ў савецкі час ён быў закрыты і разбураны пасля Другой сусветнай вайны.

Помнік даволі дакладна адлюстраваны на малюнку Напалеона Орды 1875–1876 гг. з надпісам: «Полацк. Касцёл дамініканаў. Тут ляжыць цела св. Баболі, нарodж. 1591, памёр 1657». Вядомы каталіцкі місіянер і прапаведнік Андрэй Баболя быў схоплены і закатаваны атрадам казакаў у мястэчку Янаў Палескі на Піншчыне (сучасны райцэнтр Іванава). Цела А. Баболі было прывезена ў Пінск і пахавана ў крыпце касцёла езуітаў, дзе ў 1702 г. было знойдзена нятленным. У 1808 г. яно было перавезена з Пінска ў Полацк і захоўвалася ў касцёле дамініканаў, што і адзначыў Н.Орда. Але вандроўка мошчаў святога на гэтым не скончылася. У 1922–1924 гг. яны экспанаваліся ў Маскве, у Музеі медыцыны, а затым былі перавезены ў Рым і змешчаны ў галоўным саборы ордэну езуітаў Іль Джэзу. Святы кананізаваны Каталіцкім Касцёлам 17 красавіка 1938 года.

Відавочна, што ў азначаных падзеях Полацк меў не апошнюю ролю. Магчыма, з гэтай прычыны адзіны ў горадзе каталіцкі храм, пабудаваны ў наш час (1994–1997 гг., арх. В.Паппруга), асвечаны ў гонар св. Андрэя Баболі. Гэта традыцыйная трохнававая базыліка з трохгранным завяршэннем прэзбітэрыя і фасадам-нартэксам з масіўнай чатырох'яруснай вежай у цэнтры, увенчанай вастраверхім шатром з вімпергамі па баках. Двухпавярховыя аб'ёмы абапал цэнтральнай вежы, накрытыя вальмавымі дахамі, нагадваюць дадатковыя абарончыя вежы. Стылістыка збудавання ўвасабляе рэмінісцэнцыі айчыннай готыка-рэнесанснай архітэктуры, што характэрна для сучаснай хвалі эклектыкі. Сціплы, нават аскетычны інтэр'ер святыні падзелены на тры навы, перакрытыя драўлянымі кесаніраванымі столямі. Над міжнававымі аркадамі ў плоскіх філёнгавых рамах размешчаны фрэскі з выявамі сцэнаў жыцця і пакутніцкай смерці святога, якія з'яўляюцца выдатнымі ўзорамі сучаснага манументальнага мастацтва. На хорах размешчаны 20-галосы арган. Тут, пры касцёле св.Андрэя Баболі, адбываюцца майстар-класы для беларускіх арганістаў. Шматвяковая дзейнасць каталіцкіх ордэнаў у Полацку, іх унёсак у яго гісторыка-культурную спадчыну і архітэктурна-мастацкае аблічча заслугоўваюць годнай адзнакі і пашаны ў слаўную гадавіну старажытнага горада.

# Святы Ян Божы з Вялікай Бераставіцы

*Памяць пра яго не знікне,*
*а яго імя будзе жыць*
*у многіх пакаленнях.*
(Сір 39, 9)



Скульптура Яна Божага з Бераставіцы перад рэстаўрацыяй.

Што можа быць агульнага паміж Вялікай Бераставіцай і баніфратрамі? А вось жа дзіўным чынам паяднала гэты невялікі гарадок у Гарадзенскай вобласці і шпітальны ордэн святога Яна Божага цудоўная барокавая скульптура, якую ў 1973 годзе выявіла экспедыцыя Мастацкага музея ў драўлянай капліцы на бераставіцкіх каталіцкіх могілках. Фігура была ў занядбаным стане, з адламанай правай рукою, забруджаная. Супрацоўнікі музея перавезлі яе ў Мінск, дзе былі праведзеныя рэстаўрацыйныя працы, і цяпер скульптура Яна Божага захоўваецца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, і гэта, без сумнення, уратавала твор ад знішчэння, бо праз тры гады каплічку на могілках дашчэнту знішчыў пажар.

Незвычайна ўжо тое, што фігура захавалася падчас дзесяцігоддзяў пераследу Каталіцкага Касцёла, якое пачалося яшчэ ў Расійскай імперыі і набыло катастрафічныя памеры ў гады камуністычнага панавання. 1970–80-я гады былі часам найвялікшай атэізацыі, калі на Беларусі не існавала касцёльнай іерархіі, не дзейнічаў (адкрыта) ніводзін ордэн і цяжка было нават раздабыць Біблію. Напэўна, менавіта з-за немагчымасці атрымаць парады ад знаўцаў традыцыі Касцёла і адбылося памылковае апісанне знойдзенай скульптуры як выявы св. Фелікса з Канталіцыо[1]. Нават раённая «Бераставіцкая газета» ў 2011 годзе размясціла гэтую памылковую інфармацыю[2], хаця ўжо ў 2001 годзе загадчыца аддзела старажытнабеларускай скульптуры Алена Карпенка ў артыкуле «Феликс из Канталиции или Иоанн от Бога» на падставе прадметных сімвалаў (галоўным чынам цярновай кароны), тыпалогіі і аналагаў у еўрапейскім жывапісе і скульптуры меркавала, што твор увасабляе святога Яна Божага[3]. І на сённяшні дзень, апрача руінаў кляштара ў Высокалітоўску і нешматлікіх архіўных запісаў, на тэрыторыі Беларусі не засталося ніякіх іншых слядоў баніфратраў, якія ў часы ВКЛ неслі

сваю паслугу хворым і церпячым у 6-ці кляштарах на нашых землях.

Скульптура св. Яна Божага, хутчэй за ўсё, была створана на пачатку XVIII ст. невядомым аўтарам[4]. Постаць святога гнуткая і дынамічная. Яна спалучае ў сабе малітоўную засяроджанасць духу і лёгкі нахіл цела пад цяжарам мяхоў, поўных сабранай міласціны. Скульптура мае вышыню 135 см, выканана з ліпы і, верагодна, была пакрытая паліхроміяй пад колер шэрага каменя. Уражваюць дакладныя рысы твару і далікатныя дэталі ацалелай левай рукі. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што скульптура не знаходзілася ў драўлянай капліцы на могілках. Але адкуль жа яна была перанесеная? Магчыма, з вялікага баракавага кармэліцкага касцёла, які быў перароблены ў 1866 г. пад праваслаўную царкву, у 1920 г. вернуты католікам, а ў 1963 г. канчаткова зачынены савецкімі ўладамі. (І цяпер у цэнтры горада ўзвышаюцца толькі велічныя руіны былой святыні). Таксама магчыма, што скульптура паходзіць са шпіталя, заснаванага ў Вялікай Бераставіцы Юрыем і Амеліяй Мнішкамі ў 1741 годзе.[5] Ёсць версія, што фігура была перавезена з якоганебудзь блізкага кляштара баніфратраў (напрыклад, з Гародні, ад якой да Вялікай Бераставіцы каля 60 км), Наваградка (каля 150 км ад Вялікай Бераставіцы), Высокалітоўска (каля 130 км), якія былі скасаваныя ў 1830–1840-я гады.

Аб тым, што пра баніфратраў і, адпаведна, пра святога Яна Божага ў ВКЛ ведалі, можна меркаваць па інфармацыі, якую пакінуў Стэфан Росяк у сваёй кнізе «Bonifratrzy w Wilnie»: «Тут (у віленскім касцёле баніфратраў) у галоўным алтары пануе Маці Божая, Аздараўленне Хворых, на Літве Баніфрацкай званая... цешылася і цешыцца розгаласам і пашанаю ва ўсёй Літве» [6]. Апрача таго, аб папулярнасці баніфратраў на нашых землях сведчыць і тое, што ў Віленскім канвенце ў 1761–1825 гг. адбывала навіцыят нямала братоў, якія паходзілі з мясцовасцяў, даволі аддаленых ад баніфрацкіх кляштараў. Напрыклад, з-пад Мядзела (каля 130 км ад Менска і Вільні), са Слуцкага павета (каля 100 км ад Менска), з Ігуменскага павета (каля 70 км ад Менска)[7].



Месца, дзе знаходзілася драўляная капліца, у якой у 1973 годзе экспедыцыя Мастацкага музея знайшла скульптуру святога Яна Божага.



Руіны касцёла Наведзінаў Дзевы Марыі ў Вялікай Бераставіцы.

Памяць пра святога Яна Божага і яго духоўных сыноў, нягледзячы на шматлікія віхуры гісторыі, на Беларусі не загінула і будзе трываць, бо яны аказаліся вернымі ў сваім служэнні, а з часам можна спадзявацца на адшуканне новых слядоў дзейнасці добрых братоў на нашай зямлі.

*Бр. Эмануэль Юран ОН*

---

[1] Высоцкая, Н.Ф. Пластыка Беларусі XII–XVIII стагоддзяў. — Мінск, 1983. — С. 115–117.
[2] Жывы сведка з касцельных муроў // Бераставіцкая газета. — 2011. — 29 крас. — http://www.beresta.by/?p=6047
[3] Карпенко, Е. В. Феликс из Канталиции или Иоанн от Бога? (К вопросу об атрибуции одной древнебелорусской скульптуры.) // Навуковыя матэрыялы да канферэнцыі «Аладаўскія чытанні», 2001.
[4] Тамсама.
[5] Шыдлоўскі, А. Касьцёлы ў Вялікай Бераставіцы // Слова жыцця. — 2011. — 13 кастр. — http://slowo.grodnensis.by
[6] Rosiak, S. Bonifratrzy w Wilnie (1635–1843–1924). — Wilno, 1928. — S. 67–69.
[7] Тамсама. — S. 50–54.



Бярэзінская пераправа, 1812.

Андрэй Шпунт

*Памяці жыхароў былой Рэчы Паспалітай — жаўнераў Вялікай Арміі.*

# КРЫЖОВЫ ШЛЯХ

*Што гэта? Творчы акт ваеннага Генія? Гульня ў жаўнерыкі, дзе замест алавяных фігурак — людзі? Ці гэта расплата Еўропы за крывавае шаленства і парушэнне святыняў Французскай рэвалюцыяй?*

*Аб вайне, у якой хаця і паміралі па-сапраўднаму, але была даўно і з нашага далёка выглядае як касцюміраванае дзейства, што мы ведаем? Усё. Але дзе месца ў гэтым «усім», у месіве народаў і дзяржаваў, у тым мурашніку, патрывожаным вялікім геніем, — дзе месца маёй Айчыны? Наколькі Айчыннай была для беларусаў Айчынная вайна 1812 года?*

**У шэрагах Вялікай Арміі**

Музыкай велічнай прыгажосці, у захапляючым шматквецці і разнастайнасці прыборных і іншых колераў, колераў масці, абмундзіравання і амуніцыі гучалі назвы карпусоў, дывізій, брыгадаў і паўбрыгадаў, палкоў, батальёнаў, швадронаў, ротаў і паўротаў гвардзейскіх, пяхотных лёгкіх і лінейных, карабінерных, кавалерыйскіх, драгунскіх, егерскіх, гусарскіх, уланскіх, артылерыйскіх конных і пешых, сапёрных, мінёрных і пантонных вестфальцаў, гесенцаў, баварцаў, бадэнцаў, італьянцаў, галандцаў, партугальцаў і яшчэ не менш за тузін назваў тых, што маглі здрадзіць у выпадку няўдачы, і Напалеон, ведаючы аб гэтым, усё ж рызыкнуў пакласці маральныя фактары на алтар матэрыяльнай магутнасці. Больш за тое, суадносіны прадстаўніцтва французаў змяніліся б яшчэ больш, калі б улічваўся нацыянальны склад французскіх рэкрутаў.

Праз месяц пасля пачатку вайны граф Дару, галоўны інтэндант Вялікай Арміі, казаў імператару французаў, што ні народ Францыі, ні армія не разумеюць прычынаў вайны, што яна «не папулярная, не народная». Маральная стомленасць адчувалася ўжо перад паходам. Супраць вайны адкрыта выказваліся перад імператарам яго старыя баявыя таварышы, у тым ліку Мюрат, Берцье, Макдональд і пасынак Яўген Багарнэ. Выключэннем быў Даву, заяты вораг Прусіі і Расіі, які сімпатызаваў справе Рэчы Паспалітай, а таму падтрымліваў вайсковыя прыгатаванні і цалкам аддаваўся ім з усім сваім геніяльным арганізацыйным і адміністрацыйным талентам. Лепшымі былі настроі на ніжэйшых ступенях, дзе не так уплывалі датацыі ды ўзнагароды.

Але руская армія, якая «ў адносінах маральнага духу была непамерна вышэй за Вялікую Армію, — як сцвярджаў расійскі савецкі гісторык Любамір Бяскроўны, — бо змагалася за незалежнасць сваёй Радзімы», мела перад сабой праціўніка, маральны дух якога быў нікольки не ніжэй, бо для жаўнераў Варшаўскага Герцагства (у тым ліку і літвінаў, якія пераважна былі афіцэрамі) вайна з Расійскай імперыяй была таксама вайной за незалежнасць. З першых дзён вайны беглі рэкруты, набраныя з польскіх і беларускіх земляў. Кутузаў у дакладзе Аляксандру I ад 7 снежня 1812 года паведамляў: «... Белорусские и литовские рекруты, в полках бывшие, когда российская армия ретировалась в Россию, почти ещё до Смоленска разбежались, но ныне отыскиваются».

**Варшаўскае Герцагства і яго Войска**

Варшаўскае Герцагства — адданы саюзнік Напалеона — толькі яму было абавязана сваім існаваннем, і толькі з ім былі звязаны спадзяванні вярнуць страчаныя землі. Існавала яно намінальна каля васьмі гадоў, ад Тыльзіцкага трактата з ліпеня 1807 года да Венскага з траўня 1815 года; а фактычна ад паўстання ў Вялікай Польшчы ў лістападзе 1806 года і да мілітарнай агоніі ў лістападзе 1813 года — амаль сем гадоў. Нельга без захаплення і здзіўлення думаць пра тое, як гэтая эфемерная дзяржаўка, што мела спачатку каля 2 млн жыхароў, а пад канец няпоўныя 4 млн,

**Андрэй ШПУНТ** — аспірант Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі (тэма дысертацыі — «Гарадская геральдыка Рэспублікі Беларусь»). Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989—1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.

за кароткі тэрмін пры такіх невялікіх людскіх рэсурсах прымала ўдзел у чатырох вялікіх кампаніях: пруска-расейскай 1806–1807 гг., аўстрыйскай 1809 года, расейскай 1812 года і кааліцыйнай 1813 года; акрамя таго, з 1808 года стала ўдзельнічала ў вайне ў Іспаніі і пазней рэшткамі сваёй зброі дапамагала Напалеону ў Французскай кампаніі 1814 года. Недабіткі, што ацалелі ў гэтай мясарубцы, падтрымалі імператара французаў падчас 100 дзён і на палях Ватэрлоо.



Пяхота Варшаўскага Герцагства.

Паступовае павелічэнне Варшаўскага Герцагства і магчымасць адраджэння Рэчы Паспалітай непакоілі Расію яшчэ болей, чым вымушаны саюз з Напалеонам і Кантынентальная блакада. У жніўні 1810 года ў Санкт-Пецярбургу з'явіўся план раптоўнага нападу на яго і стварэння новай кааліцыі. Рабіліся захады прыцягнуць да гэтай справы правадыроў вызвольнага руху, у тым ліку князя Юзафа Панятоўскага. Зімой 1811 года Панятоўскі паведаміў імператару аб расійскіх вайсковых прыгатаваннях. Напалеон, да ўсеагульнага захаплення, абвясціў, што знішчэння Варшаўскага Герцагства Расія не даб'ецца без смяротнай барацьбы, «нават калі б яе войскі стаялі на вышынях Манмартра». Славуты польскі ваенны гісторык, брыгадны генерал Марыян Кукель, які пакінуў фундаментальнае даследаванне «Wojna 1812» (Kraków, 1937. T. I–II), сцвярджаў, што менавіта пытанне існавання Варшаўскага Герцагства было істотнай зачэпкай да вайны, іншыя падставы — выйсце Расіі з кантынентальнай блакады, спрэчка наконт новай заваёвы Напалеона (Ольдэнбург) — мелі другаснае значэнне. Сутыкненне станавілася непазбежным. Імператар французаў пачаў беспрэцэдэнтныя вайсковыя прыгатаванні...

Краіна, уцягнутая ў арбіту напалеонаўскіх войнаў, ператварылася ў адзіны ваенны лагер, дзе войска было элітаю грамадства. Яго шэрагі папаўняліся таксама літоўскай моладдзю, эміграцыя якой, нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, не спынялася. Князь Дамінік Радзівіл, Людвіг Пац, князь Аляксандр Сапега і іншыя прадстаўнікі шляхецкіх родаў пераязджалі на пастаяннае жыхарства ў Варшаўскае Герцагства, кідаючы свае маёнткі на секвестры, упэўненыя, што неўзабаве вернуцца з пераможнымі войскамі Напалеона. «Вядома, — пісаў тагачасны расейскі сведка, — якім гарачым патрыятызмам палала тады Літва, нават пераважаючы, мабыць, у гэтым палякаў. Для яе Напалеон быў паўбогам, ідэалам грамадзянскай моцы, пасланым з неба для адбудовы Польшчы і Літвы». Войска Варшаўскага Герцагства, як сведчыў напалеонаўскі дыпламат і шпіён Эдуард Біньён, было найпрыгажэйшаю часткаю гэтай краіны. Пасля 1809 года яго колькасць узрасла з 30 да 50 тысяч. Асабліва ён адзначыў кавалерыю, узровень якой быў настолькі высокі, што яна нават пастаўляла інструктараў у французскую армію. З прычыны скасавання адпаведных навучальных устаноў пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай пэўныя цяжкасці перажывалі артылерыя і інжынерыя.

Выдатнай вайсковай школай былі легіёны, праз якія прайшлі каля 800 афіцэраў і каля 35 000 падафіцэраў і шараговых. Яны служылі пад камандаю найлепшых камандзіраў рэвалюцыйнай Францыі. Адтуль выйшлі выдатныя вайсковыя кадры, што аблегчыла ўвядзенне новых прагрэсіўных формаў арганізацыі і падрыхтоўкі войскаў Варшаўскага Герцагства.

Кароль Саксоніі і герцаг Фрыдрых Аўгуст I быў вельмі задаволены станам свайго войска, якое паказвала выдатныя вынікі на манеўрах.

У паход 1812 года было выстаўлена 48 тыс. пяхоты, 17 200 кавалерыі і 104 гарматы з 1 500 артылерыстамі. Усяго — 66 700 чал. (без уліку залогаў Замосця, Модліна, Торуня, Серацка і Варшавы, якія з артылерыяй і сапёрамі налічвалі некалькі тыс. чал.). Гэта былі вялікія высілкі, параўнальныя з выклікам 1830 года. Войска было ўключана ў склад Вялікай Арміі. Яе ядром быў V корпус, камандуючым якога на пачатку сакавіка 1812 года Напалеон прызначыў генерала дывізіі князя Юзафа Панятоўскага.

V корпус Вялікай Арміі (шэф штаба — генерал Фішар) складаўся з трох дывізіяў пяхоты і трох брыгадаў лёгкай кавалерыі.

У кожнай дывізіі было па 2 роты палявой артылерыі, паўрота цяжкай артылерыі і паўрота сапёраў.

У корпусе былі рэзерв, парк артылерыі, парк інжынерыі, абоз. Усяго — 40 328 жаўнераў і 70 гарматаў. На корпус ускладалася задача засланяць гіганцкую канцэнтрацыю галоўных сілаў ад раптоўнага нападу рускай арміі.

Астатнія часткі арміі Варшаўскага Герцагства былі раскіданыя па неабсяжных абшарах Вялікай Арміі (дзе з 620-тысячнай ударнай групоўкі толькі 370 тыс. складалі французы) і ўваходзілі ў імператарскую гвардыю, X корпус Макданальда і IV кавалерыйскі корпус Латура-Мабура. Ваенная неабходнасць для Напалеона была важней за нацыянальныя амбіцыі, і толькі ваеннай неабходнасцю тлумачылася, што ён разбіваў маналітныя кантынгенты. Напалеон імкнуўся да такога падзелу, каб кавалерыя Герцагства Варшаўскага была прадстаўлена на ўсім аперацыйным фронце як здольная да разведкі. Не было таксама выпадковым камбінаванне ў дзвюх брыгадах лёгкай кавалерыі палкоў польскіх з прускімі — надзейных саюзнікаў з сумніўнымі. Напалеон не лічыўся таксама з амбіцыямі баварцаў, саксонцаў, вестфальцаў, вюртэмбержцаў, прызначаючы ім французскіх камандзіраў.

Даволі шмат афіцэраў, былых жыхароў Рэчы Паспалітай, пераважна палякаў, літвінаў (беларусаў) і габрэяў, аб чым красамоўна сведчыць пералік прозвішчаў, прыведзены Вацлавам Гансяроўскім у прадмове да «Успамінаў» генерала Юзафа Грабоўскага, было пры імператарскім штабе і штабах французскіх карпусоў, пачынаючы ад штаба генерала Сулкоўскага, ад'ютанта і сябра Банапарта ў егіпецкім паходзе. У кампаніі 1812 года трэба адзначыць паручніка швалежэраў Станіслава Вансовіча, закліканага да асобы імператара пры пераходзе Нёмана, Рамана Солтыка, славутага афіцэра артылерыі, генералаў Сакальніцкага, начальніка контрвыведкі Напалеона, Касакоўскага, Паца, Фрэдра, Мюльберга, Ельскага, Квілецкага, Гансеўскага, Хлапоўскага. Генерал Кліцкі і паручнік Даўгела былі пры Яўгену Багарнэ, Мальчэўскі — пры Мюрату, Павел Ежманоўскі (у будучым камандзір Эльбінскага швадрона палка швалежэраў гвардыі, які паследаваў за Напалеонам на Эльбу) працяглы час быў пры Дзюроку, Юзаф Шыманоўскі і Кабылінскі служылі ад'ютантамі Даву, палкоўнік Камероўскі — ад'ютантам Мармона, Кежкоўскі — ад'ютантам Марцье.



Генерал дывізіі Ян Генрых Дамброўскі (падчас італьянскага паходу).

Падчас падрыхтоўкі паходу айцец легіёнаў, генерал Ян Генрых Дамброўскі, апынуўся сярод невялікай колькасці скептыкаў і праўдзіцаў, не чакаўшых нічога добрага ад такога рызыкоўнага мерапрыемства. Яны разумелі, што паход будзе карэнным чынам адрозніваецца ад папярэдніх. На Усходзе праціўнік набываў адразу двух моцных саюзнікаў, вартых некалькіх арміяў, — клімат і вялізныя абшары. Напалеон не звяртаў увагі на ўсе гэтыя «дробязі», а ўпэўнена глядзеў у далечыню, праводзячы позіркам бясконцыя маршавыя калоны.

Генерал Дамброўскі звярнуўся да Панятоўскага з планам, меўшым на мэце змякчыць удар па Варшаўскім Герцагстве ў выпадку паразы Напалеона ў Расіі. Прапанавалася павялічыць рэзервы, узмацніць залогі, павялічыць узброеныя сілы настолькі, каб краіна магла самастойна бараніцца. Дадаваў у паўголаса, што нядрэнна было б захаваць на ўсялякі выпадак кадравыя рэзервы і запасы зброі. Князь Юзаф спачатку нібыта згадзіўся з разумнымі довадамі старога генерала, але з-за апаскі настроіць супраць сябе імператара ці з-за веры ў яго шчаслівую зорку адхіліў план. Дома засталося толькі каля 5 тыс. жаўнераў, раскіданых па залогах. Перамога альбо смерць.

...Уначы з 11 на 12 чэрвеня 1812 года 300-м жыхарам былой Рэчы Паспалітай з 8-га ўланскага палка Дамініка Радзівіла выпаў гонар першымі перайсці мяжу сваёй Бацькаўшчыны.

Данясенне аб пераходзе Вялікай Арміі цераз Нёман Аляксандр I атрымаў 12 чэрвеня падчас балю ў Закрэце, пад Вільняй. Не жадаючы псаваць усеагульны настрой, не стаў абвяшчаць яго адразу, а наступнай раніцай пачалася мітусня, якая працягвалася некалькі дзён. Знішчалі вялікія магазіны з харчаваннем, вывозілі адміністрацыйныя акты, якія тычыліся скарбу, паліцыі, іншых галінаў кіравання за 50 гадоў, каб ускладніць хуткую арганізацыю кіравання, вывозілі мясцовую адміністрацыю і ўсіх, хто мог быць карысным новым уладам.

16 чэрвеня 8-ы ўланскі полк першым уступіў у Вільню. Праз чатыры гадзіны жыхары горада навялі новы мост, па якім авангард рушыў далей, праследуючы непрыяцеля.

Адам Міцкевіч у «Пане Тадэвушы» добра перадаў настрой, што панаваў у Літве ўвесну і летам 1812 года, паводле сваіх дзіцячых успамінаў. Перад намі — узнёслая карціна ўсеагульнага ўздыму і захаплення. Напалеон сярод гэтай святочнай атмасферы, паверыўшы абяцанням Юзафа Выбіцкага, дарэмна чакаў на нашых землях 100-тысячнае войска. Да восені, калі Вялікая Армія ўжо пачала свой драматычны зыход, здолелі сабраць усяго 30 тысяч. Армія знаходзілася на краі гібелі. Як пісаў Януш Івашкевіч (*Litwa w roku 1812. Kraków–Warszawa*, 1912), да вялікага гістарычнага моманту Літва была падрыхтаваная дрэнна. За выключэннем адзінкавых доблес-

ных афіцэраў, з прычыны шматлікіх цяжкасцяў, ніводны беларускі селянін не трапіў у легіёны, дзе ў масе польскіх шарагоўцаў не бракавала русінаў. У Літве адсутнічалі адпаведныя падпольныя арганізацыі, якія б мабілізавалі грамадства на барацьбу. Яна не ўдзельнічала ў падзеях 1806 і 1809 гадоў. Затое наконадні і падчас самога драматычнага высілку 1812 года мелася дастаткова фактараў для тушэння іскры, а не распальвання полымя. Пасля задушэння паўстання Касцюшкі тыя з літоўскіх патрыётаў, хто не загінуў ці не трапіў у палон, бадзяліся ў эміграцыі. Хто казаў, што «ўваходжанне» нашых земляў у склад Расійскай імперыі было карысным? Ад якой «карысці» на працягу XVIII стагоддзя ў Літву з Расіі збег мільён сялянаў? У 1805–1807 гадах краіна, сцёртая з мапы, цярпела ад пастаянных перамяшчэнняў расейскіх войскаў, пастояў, рэквізіцый, звязаных з гэтым злоўжыванняў і гвалтаў. Трохгадовы неўраджай, недахоп працоўных рук, голад і эпідэміі зменшылі насельніцтва на 1/5. Падаткі бралі ў срэбры (за 100 руб. асігнацыямі — 22 руб. срэбрам), што ў параўнанні з расейскімі губернямі было ў пяць разоў болей. Пасля трэцяга падзелу літвіны апынуліся ў складзе імперыі, якая вяла бесперапынныя войны, што вымушала яе праводзіць у некаторыя гады па два рэкруцкія наборы замест аднаго ці павышаць норму пастаўкі рэкрутаў. Гэткім чынам да прыходу Вялікай Арміі ў наяўнасці апынуўся вельмі сыры матэрыял — старыя, інваліды ды непаўналетнія. У давяршэнне да ўсяго, пакідаючы Літву, расійскія войскі пакідалі пасля сябе выпаленую зямлю.

Столькі перацярпеўшая краіна была не ў стане ні выставіць жаўнераў, ні пракарміць Вялікую Армію.

Праблемы з забеспячэннем выклікалі рабункі, якія пачаліся адразу ж, як толькі Вялікая Армія ўступіла на землі былога Вялікага Княства Літоўскага. Нэй наракаў на 129-ы полк (гамбургскі) і ілірыйскі за дэзерцірства і разбой, жадаючы пазбавіцца ад іх, сцвярджаючы, што ад такіх фармацый больш шкоды, чым карысці. Удзіно скардзіўся на партугальцаў, а генерал Вандам сам выпраўляў сваіх вестфальцаў спусташаць Лідскі павет (ад іх не адставалі і галандцы). Толькі ў корпусе маршала Даву, дзякуючы жалезнай дысцыпліне, панаваў узорны парадак. У Менску Даву звярнуўся да жаўнераў дывізіі Кампана са словамі: «Панове, нагадваю вам аб вашай павіннасці, волі імператара і маіх загадах; клянуся, што выкарыстаю ўсе сродкі для пакарання вінаватых, не зважаючы на асобу злачынцы». І тут жа перад строем 13 кірасіраў, якія адважыліся рабаваць склепы, былі расстраляныя. Напалеон, гледзячы на ўсё гэта, з роспаччу паўтараў, што «трэба берагчы насельніцтва, якое з намі», і зацвярджаў смяротныя прысуды, якія штодзённа падаваў Берцье. Адзінымі фармацыямі, якія не апусціліся да ваенных злачынстваў, былі войскі Варшаўскага Герцагства, прынца Яўгена, Макданальда і хуткага на расправу Даву.


Маршал Францыі князь Юзаф Антон Панятоўскі, ваенны міністр Варшаўскага Герцагства.

Трэба адзначыць, што па частцы рабункаў, якія не маглі спыніць ні Напалеон, ні маршал Нэй, руская армія была не лепшая. У снежні Чычагоў, а потым Тучкоў помсцілі Дамініку Радзівілу, на працягу некалькіх дзён рабуючы замак у Нясвіжы. Вывезлі выдатную калекцыю табакерак, парцаляны, зборы медалёў, зброі, кітайскія і турэцкія намёты, тканіны, гетманскія булавы з каштоўнымі камянямі, срэбра і касцёльнае золата, арнаты, манстранцыі, срэбраныя і залатыя сервізы, бібліятэку і інш., сярод каштоўнасцяў — меч, падараваны Яну Сабескаму папам Інакенціем XI. Асабліва балючым ударам для айчыннай гісторыка-культурнай спадчыны стала страта архіва, які ператварыўся ў попел жаўнерскіх вогнішчаў. Страты, панесеныя ў замку, згодна з падлікам радзівілаўскай адміністрацыі, не лічачы спусташэнняў у фальварках, складалі 10 млн польскіх злотых.

**Стомленасць і расчараванне**

На вайсковай Імшы біскуп Дадэрка прамаўляў: «Ужо скінуты кайданы, уваходзім у салодкае панаванне імператара Напалеона Вялікага», і заклікаў усіх сыноў Айчыны станавіцца пад харугвы вызваліцеля. Але сыноў Айчыны аказалася не так шмат, бо яны ваявалі ўжо ў войсках праціўніка. Загадам Напалеона ад 5 ліпеня 1812 года Літва мусіла выставіць чатыры кавалерыйскія і пяць пяхотных палкоў. Хутка пераканаўшыся, што не выставіць і паловы ад абяцаных ста тысяч, Напалеон разлічваў, прынамсі, на верныя тысяч пятнаццаць, але і гэта аказалася вельмі цяжкай задачай для новага ўрада, які папрасіў аб субсідыі ў 4 млн франкаў на фармаванне і экіпіроўку. Напалеон са здзіўленнем запытаўся, што ж гэта за грамадскі патрыятызм, які не можа зрабіць ахвяру ў 4 млн, калі гаворка ідзе аб незалежнасці Айчыны? Прысаромлены прадстаўнік урада, князь Аляксандр Сапега, апраўдваўся, што шляхта хаця і мае шмат зямлі, аднак без наяўных грошай. 400 тысяч — гэта ўсё, што імператар згадзіўся пазычыць са сваёй касы.

Узнёслы настрой хутка скон-

чыўся. Гэта было толькі праяўленне радасці грамадства, стомленага рэквізіцыямі і злоўжываннямі, але не жаданне дзейнічаць. Да расчаравання імператара і французскіх камандзіраў, у Літве яны не сустрэлі шырокай падтрымкі. Войскі галадалі. Напалеон не хацеў зразумець, што краіна і так ужо знясіленая панаваннем чужынцаў, і прыпісваў усё злой волі грамадства і прошукам здраднікаў, як ён называў Агінскага, Ваўжэцкага і іншых. Песімізм пачаў узмацняцца на фоне вайсковых аперацый. Баграціён выблытваўся з пастак, расстаўленых князем Экмюльскім і каралём Вестфаліі. Прайшло тры тыдні з пачатку ваенных дзеянняў, але не было атрымана ніводнай значнай перамогі. Прыгняталі няпэўнасць і велічэзныя абшары, аб якія разбіваліся геніяльныя камбінацыі, засмучаў дрэнны стан войскаў, якія змяншаліся ад хваробаў і дэзерцірства.

І толькі моладзь, асабліва ўніверсітэцкая, палала патрыятызмам. Некалькі сотняў літоўскіх дзідаў будуць біцца на барадзінскіх палях.



Генерал дывізіі Караль Ота Князевіч.

**Корпус Панятоўскага**

V корпус Панятоўскага, разам з VII (саксонскім) Рэнье, VIII (вестфальскім) Вандама і IV (кавалерыйскім) Латура-Мабура (усяго каля 80 тыс. пры 159-ці гарматах), складалі правае крыло Вялікай Арміі пад камандаваннем малодшага брата імператара, вестфальскага караля Жэрома Банапарта. Застаецца незразумелым, як геніяльны Напалеон мог аддаць настолькі адказную пасаду такой «нявопытнай і гнюснай асобе», па словах відавочца, генерала Клеменса Калачкоўскага, тады 18-гадовага капітана інжынерыі.

Сам Панятоўскі меў мала вопыту ў камандаванні корпусам у некалькі дзясяткаў тысячаў; да таго ж войска складалася пераважна з маладых жаўнераў, якія ні разу не былі пад агнём.

29 чэрвеня, амаль не сустракаючы супраціўлення, V і VIII корпусы ўвайшлі ў Гародню, дзе Жэром Банапарт затрымаўся да 4 ліпеня. Сярод баляў і фэстаў, якія ладзілі ўдзячныя жыхары ў яго гонар, прыйшоў цвёрды загад Напалеона аб правядзенні вайсковых аперацый, але вестфальскі кароль чакаў, пакуль пройдуць дажджы і прасохнуць дарогі. Баграціён тым часам імкліва адступаў на ўсход.

Тыя пяць дзён адгукнуліся пад Смаленскам, а пакуль яны «кампенсаваліся» фарсіраванымі маршамі, абцяжаранымі ліпеньскай спёкай, і няўдалым кіраўніцтвам Жэрома Банапарта.

Панятоўскі звярнуўся да імператара. Ён апісваў варты жалю стан свайго корпуса, а таксама прасіў, каб яму «растлумачылі яго становішча адносна караля Вестфаліі». Напалеон загадаў перадаць адрасату сваё «незадаволенне, бо не прыстала гаварыць аб аплаце і хлебе, калі гаворка ідзе аб пераследаванні непрыяцеля». Але камандаванне правым крылом перадаў выпрабаванаму Даву.

Баграціён, прайшоўшы школу Суворава і італьянскія кампаніі, належаў да самых выдатных генералаў і мог параўноўвацца з Нэем, Ланам, Даву. Бліскуча манеўруючы, ён імкліва адыходзіў на Смаленск, куды на злучэнне накіраваўся і Барклай дэ Толі, камандуючы 1-й арміяй.

У Магілёве V корпус атрымаў доўгачаканую перадышку. За няпоўныя два месяцы без аніводнага бою страты склалі больш за 1/3 асабовага складу. Такога не было ў іншых фармацыях Вялікай Арміі. На пачатку жніўня ў шэрагах корпуса налічвалася каля 23 тысяч чалавек.

Праз два тыдні з Магілёва выйшла 15 тысяч. (Паводле загаду Напалеона, XVII дывізія Дамброўскага была накіраваная на другасны напрамак, засланяючы Варшаўскае Герцагства і зносіны Вялікай Арміі з боку Валыні, а лепшую кавалерыю корпуса перадалі пад асобнае французскае камандаванне.)

3 жніўня V корпус злучыўся з галоўнымі сіламі Вялікай Арміі пад мурамі Смаленска, страчанымі калісьці «ключамі ад Вільні». Панятоўскі і Фішар стаялі перад імператарам пад градам папрокаў за страты на маршы і іншыя недахопы.

Раніцай наступнага дня V корпус атрымаў баявы хрост і магчымасць рэабілітацыі — першым быў кінуты на штурм горада. Вялікая Армія сустрэлася з нябачаным дагэтуль супрацівам. Пад параненым генералам Заёнчакам конь атрымаў пяць куляў. Да вечара жаўнеры Панятоўскага першыя зламалі правы фланг абароны праціўніка і ўварваліся ў прадмесце. Раніцай 17 жніўня яны першыя перасеклі крапасныя муры. Ноччу, узрываючы за сабою парахавыя склады і падпальваючы дамы, расейцы пачалі пакідаць горад.

Смаленск зноў стаў усходнім фарпостам Літвы. У гонар яго вызвалення ва ўсіх касцёлах спявалі «Te Deum».

Шэрагі V корпуса зменшыліся яшчэ на паўтары тысячы геройскі загінуўшых, сярод якіх былі 83 афіцэры, і папоўніліся 89-цю кавалерамі Ганаровага Легіёна. На ўрачыстым аглядзе з нагоды вызвалення горада імператар у прысутнасці ўсёй арміі выказваў жаўнерам гарачую падзяку, што здара-

лася даволі рэдка. Ён увогуле быў вельмі скупы на пахвалу, бязлітасна нішчыў прадстаўленні да крыжа Ганаровага Легіёна і пры кожным уласнаручна занатоўваў: «Àccordé, a quel titre? (Прадстаўлены, а па якім праве?) — Combien de blessures? (Колькі раненняў?) — Plus tard! (Пазней!)» і г. д.

Уночы 12 жніўня Вялікая Армія выйшла са Смаленска, літаральна па слядах праследуючы Барклая. Правае крыло ператварылася ў пярэднюю варту, засланяючы авангард Мюрата, і ўвесь час знаходзілася ў сутычках з лятучымі казацкімі аддзеламі.

На пачатку верасня ў адной з сутычак Панятоўскі ледзь не загінуў з усёй сваёю світаю, пракладваючы шлях шабляй праз акружэнне непрыяцельскай кавалерыі.

З пачатку выправы Вялікая Армія паменшылася напалову не столькі з-за супраціву ворага, колькі ад хваробаў, стомленасці, а галоўнае, з прычыны вялікіх абшараў з празмерна расцягнутымі і слабымі лініямі камунікацый.

**Кульмінацыя**

Прызначаны 8 жніўня галоўнакамандуючым Заходнімі арміямі расейцаў Міхаіл Кутузаў з вялікай неахвотай і толькі пад ціскам цара і грамадства 4 верасня прыпыніў адступленне каля вёскі Барадзіно, каб даць цалкам не патрэбную, на яго думку, генеральную бітву.

Раніцай 26 жніўня, пры першых сонечных промнях, корпус віцэкараля Італіі Яўгена Багарнэ абрынуўся на Барадзіно на левым флангу. Даву, Нэй і Мюрат ударылі па цэнтры на Баграціёнавы флешы каля сяла Сямёнаўскае. Панятоўскаму імператар паставіў задачу абысці левы фланг рускіх і ўдарыць з тылу.

На працягу дня Напалеон атрымліваў супярэчлівыя весткі — ад радасных да трывожных — як вынік нябачанай храбрасці і бязлітаснасці з абодвух бакоў: «Камандзір CVI лінейнага палка генерал Плазон выбіў расейскіх егераў з Барадзіно... Плазон і мно-



Генерал дывізіі Юзаф Заёнчак.

гія яго афіцэры забітыя... Лепшая дывізія корпуса Даву, генерала Кашона трапіла пад страшэнны агонь... Кашон паранены, яго афіцэры параненыя ці перабітыя... Пад Даву ядром забіты конь, маршал кантужаны... Нэй з трыма дывізіямі выбіў рускіх грэнадзёраў з Баграціёнавых флешаў... Дывізія Невяроўскага выбіла Нэя... Нэй выбіў Невяроўскага... Нэй і Мюрат нясуць аграмадныя страты і просяць падмацавання... Баграціён цяжка паранены ці забіты... Батарэя Раеўскага адчайна супраціўляецца... Саксонцы атакуюць з тылу, а пяхота Багарнэ ў лоб... Вестфальскі корпус знік, як вясновы снег... У палон не бяруць з ніводнага боку...».

У сем раніцы корпус Панятоўскага ўступіў у перастрэлку на ўскрайку Уціцкага лесу з рускімі егерамі. Рускія адышлі да вёскі Уціца і занялі пануючую вышыню. Падмацаванні падыходзілі да абодвух бакоў. У 11.00 Панятоўскі пайшоў у атаку...

Калі дзень пачаў хіліцца да захаду, рускія, пакінуўшы на полі бітвы 1/3 арміі (больш за 38 тыс. і 22 генералаў), пачалі павольна адступаць, зберагаючы баявы парадак, які не здолелі парушыць ні залпы 300 гарматаў, ні кавалерыйскія атакі V корпуса, што страціў у той дзень каля 2 тысяч чалавек.

Вялікая Армія перамагла, але не было чуваць крыкаў радасці ў яе шэрагах, як пасля Аўстэрліца, Іены ці Фрыдланда, — на полі засталося ляжаць больш чым 58 тыс. яе воінаў і 49 генералаў.

**Прывід перамогі**

На зыходзе дня, 2 верасня, калі апошнія расейскія аддзелы яшчэ выходзілі з Масквы, на другім канцы паказалася кавалерыя Панятоўскага. Перад адыходам сталіца па загадзе губернатара Растапчына была падпалена (у чым наўмысна абвінавацілі Вялікую Армію), але памераў будучай вогненнай катастрофы ніхто не ўяўляў.

V корпус затрымаўся ў горадзе толькі на два дні, накіраваны праследаваць адступаючага праціўніка і ахоўваць з поўдня адпачынак Вялікай Арміі.

Кутузаў адышоў на 80 км на паўднёвы захад і размясціў свае войскі лагерам каля вёскі Таруціна, куды ўвесь час паступалі свежыя сілы і харчаванне. Адсюль час ад часу рабіліся набегі. 16 верасня пад Чырыкавым, на Вялікай Калужскай дарозе, сутычка зацягнулася на 6 гадзінаў. Пры надыходзячым змроку Панятоўскі асабіста павёў у атаку два швадроны драгунаў. Рускія адступілі, але страты нічым не папаўняліся.

6 кастрычніка на авангард Мюрата, што стаяў у назіраючай пазіцыі перад Таруцінам, раптоўна абрынулася частка арміі Кутузава пад камандаваннем выконваючага абавязкі начальніка Галоўнага штаба, генерала ад кавалерыі Лявонція Бенігсена. Здарылася гэта ў той самы момант, калі Напалеон з узнятым настроем праводзіў агляд дывізій Нэя ў Крамлі. Прымчаўся ад'ютант і пад акампанемент аддаленага гарматнага грукату сапсаваў усё, далажыўшы, што Мюрат церпіць паразу.

З ваеннага пункту гледжання параза Мюрата, які страціў 2,5 тыс. жаўнераў (супраць 1 200 рускіх), 36 гарматаў, 50 зарадных скрыняў і, самае непрыемнае — аднаго «арла» (наверша сцягоў напалеонаўскіх войскаў) не была сак-

рушальнаю дзякуючы падаспеўшаму корпусу Панятоўскага. Па словах Станіслава Хербста, гэта была «бадай найвыдатнейшая бітва кн. Юзафа», але гэта было і першае наступленне рускіх з пачатку вайны. Пасля 12-гадзіннай бітвы ад V корпуса засталіся адна назва і забіты начальнік штаба Фішар.

**Зыход**

4 тысячы вайскоўцаў — гэта ўсё, што засталося ад «прыгожага» 40-тысячнага корпусу. Але была захавана ўся артылерыя і не страчаны ніводны «арол».

На наступны дзень пасля Тарущінскай бітвы Вялікая Армія пачала пакідаць Маскву.

V корпус рухаўся ў ар'ергардзе. Панятоўскі амаль не сходзіў з сядла. Яго ад'ютант Шумлянскі ўспамінаў, як заўсёды схільны да сібарыцтва яго камандзір цярпеў голад разам з усімі і нават не меў уласнага лекара.

Вялікая Армія адступала па ўжо пройдзенай спустошанай мясцовасці. Калі шанцавала, — успамінаў капітан Людвіг Шчанецкі з XVII дывізіі, — выразалі пячонку ў забітых коней і пяклі яе на багнетах, яна вельмі падабалася, тая нудна-салодкая, мачалістая пячонка, ды грызлі кавалкі чорных сплеснявелых сухароў, што знаходзілі ў тарністрах забітых расійцаў.

Ар'ергард Даву, Мюрата і Нэя, пакутуючы разам з усімі, геранчна стрымліваў насядаючых Міларадавіча, Платава і Арлова.

17 кастрычніка пад Гжацкам, на рэкагнасцыроўцы, Панятоўскі, жадаючы ўдакладніць размяшчэнне лініі рускай кавалерыі, прышпорыўшы вельмі наравістага каня, паслізнуўся на пагорку і рухнуў разам з канём у галопе — вывіхнуў нагу і разбіў калена. Не ў стане трымацца ў сядле, ён аддаў камандаванне корпусам старэйшаму па званні генералу Юзафу Заёнчаку і з гэтага часу ехаў у карэце.

Па выйсці з Масквы Вялікая Армія нагадвала вялікі цыганскі табар — хтосьці нёс нарабаванае, задаволены памерамі ранцу, а хтосьці не грэбаваў армейскімі павозкамі. (Казакі выглядалі не менш дзіўна. Абцяжараных нарабаваным, коні ледзь неслі. Бывала, казак меў пад плашчом ці буркаю багата шыты мундзір французскага генерала.) Але ніхто не падумаў тады аб цёплай адзежы, кошт якой праз месяц перавысіць усё трафейнае золата. Зіма 1812 года пачалася вельмі рана: напрыканцы кастрычніка тэмпература панізілася да -18–23 °С. З узмацненнем маразоў Вялікая Армія катастрафічна змяншалася. Пакідаючы Смаленск 2 лістапада, Напалеон меў у страі толькі 37 тысяч байцоў і столькі ж без зброі супраць 120 тысяч у Кутузава.

Пад Красным карэта Панятоўскага параўнялася з ішоўшым па галалёдзе імператарам, які абапіраўся на палку, — наўмысна не сядаў на каня, уласным прыкладам падтрымліваючы жаўнераў, нароўні з імі пакутуючы ад усіх цягатаў паходу. Скокнуў на прыступку і аб чымсьці доўга па-сяброўску размаўляў з князем...

**Геній перад абліччам катастрофы**

...Калі ў Талачыне імператару далажылі аб страце пераправы цераз Бярэзіну каля Барысава, заўсёды спакойны, нават у самых цяжкіх абставінах, ён збялеў нібыта палатно. Заўважыўшы гэта, нават самыя мужныя з яго палкаводцаў разгубіліся (авангард Кутузава маячыў ужо ў адным пераходзе). Паследаваў загад спаліць сцягі. А далей, як гэта бывала і будзе ў крытычныя моманты, праявіў свой геній ва ўсім бляску — удалымі манеўрамі перахітрыў рускіх наконт сапраўднага месца пераправы і пачаў яе 14 лістапада каля вёскі Студзёнкі ў ваколіцы на поўнач ад Барысава, дзе лансьеры 8-га палка Надвіслянскага легіёна знайшлі брод.

Падчас набліжэння да Бярэзіны да адступаючых далучыліся карпусы Удзіно, Віктора і дывізія Дамброўскага, разбітая пад Барысавам, але ў бадзёрым настроі і, самае дзіўнае, захаваўшая ў тых катастрафічных абставінах аркестр. Сілы Вялікай Арміі на галоўным напрамку ўзраслі да 50 тысяч байцоў. Сярод іх было каля 6 тыс. былых жыхароў Рэчы Паспалітай — рэшткі V корпуса (каля 1200 чалавек і 54 гарматы), дывізія Дамброўскага, дывізія Жырара і Надвіслянскі легіён. Уся артылерыя Вялікай Арміі мела тады 300 гарматаў.

Насупраць пераправы стаяў толькі атрад генерал-маёра Карнілава (батальён егераў, два палкі казакаў і 4 гарматы), адзін з тых, што пакінуў адмірал Чычагоў ва ўсіх месцах магчымага пераходу, так і не разгадаўшы сапраўдныя намеры Напалеона.

Кавалерыйскі швадрон генерала Карбіно і 400 егераў з дывізіі Дамброўскага на платах і ўплаў пад прыкрыццём агню з 40 гарматаў фарсіравалі Бярэзіну і адкінулі атрад Карнілава ад месца пераправы.

У гэты ж час, праяўляючы цуды гераізму і самаахвярнасці, французскія і галандскія (11-я рота) пантанёры і рота сапёраў з дывізіі Дамброўскага пад камандаваннем генералаў інжынерыі Эбле і Шаслу-Лаба наводзілі масты на драўляных козлах, з матэрыялу дамоў Студзёнкі. Левы — для кавалерыі, правы — для пяхоты. Шырыня Бярэзіны ў месцы пераправы складала каля 90 м. Калі кавалерысты брыгады Карбіно фарсіравалі раку ўплаў, глыбіня не перавышала 1,5 м, але з-за адлігі ўзровень вады павысіўся да 2 м.

Навесці пераправу не ўяўляла б асаблівых цяжкасцяў і заняло б не болей за 2 гадзіны, калі б Напалеон захаваў свой пантонны парк, які быў спалены ў Оршы, а коні не былі перададзены артылерыі. Аднак мудры Эбле ўсё ж захаваў дзве паходныя кузні, дзве павозкі з вуглём і шэсць фураў з прыладамі і цвікамі. Гэта выратавала армію.

Напалеон з 7 гадзін раніцы стаяў каля пераправы. «Доўга, ге-

нерал, вельмі доўга!» — звярнуўся ён да Эбле. «Ваша вялікасць, мае-це ласку бачыць, што мае людзі стаяць па горла ў вадзе, іх працы перашкаджаюць льдзіны; у мяне няма ні харчоў, ні гарэлкі, каб даць ім сагрэцца».

Правы мост быў гатовы а пер-шай па поўдні. Зараз жа па ім пра-дэфіляваў II корпус Удзіно з 5600 пяхоты і 1400 кавалерыі і дывізія Дамброўскага. Войскі пераходзілі мост з крыкамі: «Няхай жыве імпе-ратар!». Пасля кароткага і моцна-га ўдару 5-тысячны атрад генера-ла Чапліца, падаспеўшы на дапа-могу Карнілаву, адступіў. Дарога на Вільню была свабодная.

Пад грукат гарматаў і ружэй-ны трэск, пантанёры па пояс, а дзе і па плечы ў ледзяной вадзе пра-цягвалі сваю працу. Другі мост быў гатовы а чацвёртай па поўдні. У восем гадзін некаторыя апоры ле-вага маста рухнулі пад цяжарам павозак. Адрамантаваны нечала-вечымі высілкамі а адзінаццатай, уначы мост зноў не вытрымаў. Здзяйсняючы немагчымае, панта-нёры ўвайшлі ў ваду, і а шостай раніцы рух узнавіўся. Паводле справаздачы палкоўніка Шапэля ад 18 ліпеня 1818 года, больш як сотня людзей працавала ў вадзе. Амаль усе яны загінулі ад пера-ахаладжэння.

15 лістапада на другі бераг пе-райшлі гвардыя і карпусы Мюра-та, Даву і Панятоўскага. Гэта былі адзінкавыя, згуртаваныя вакол сваіх «арлоў» атрады сярод вялі-кага натоўпу. Усялякія высілкі вяр-нуць у шэрагі людзей, адарваных ад палкоў і яшчэ прыдатных тры-маць зброю, былі дарэмныя. Для гэтага не было сродкаў. Афіцэр, ге-нерал і жаўнер дзялілі адзіны лёс; розніца паміж імі знікла.

16 лістапада дывізія Дамброў-скага перайшла на левы бок ад да-рогі і цэлы дзень стрымлівала пра-ціўніка. Генерал Заёнчак з рэшт-камі V корпуса — на правым баку.

У гэты час на правым беразе заставаўся маршал Віктор з адной польскай дывізіяй Жырара і не-калькімі сотнямі кавалерыі гене-рала Фурнье, доблесна адбіваючы атакі корпуса Вітгенштэйна.

Каля 11-й раніцы ружэйная куля раструшчыла Дамброўскаму руку, у якой ён трымаў шаблю Са-бескага. Пасля параненых Паня-тоўскага, Заёнчака (ядром адарва-ла нагу) і Дамброўскага кіраўніц-тва V корпусам атрымаў адважны Князевіч, але і ён пратрымаўся менш за суткі.

Ціск рускіх усё нарастаў. На-тоўп паблізу мастоў павялічваўся. Нарэшце, калі ядры Вітгенштэй-на пачалі падаць у гэты тлум, па-чалася паніка. 17 лістапада Напа-леон загадаў Віктору пакінуць левы бераг. Пад артылерыйскім агнём, скідваючы з маста ўсё, што стаяла на шляху, — людзей і па-возкі, — корпус Віктора перайшоў на правы бераг. Ля маста застава-лася яшчэ больш за 10 тысяч чала-век, але без зброі яны былі толькі абузаю. Эбле атрымаў загад спа-ліць масты.

Пераход Бярэзіны, — пісаў Ма-рыян Кукель, — належыць да най-прыгажэйшых подзвігаў Напале-она і яго войска. Клаўзевіц (які быў тады ў арміі Вітгенштэйна) па-цвярджае: «Ніколі не было больш магчымага прывядзення арміі да капітуляцыі ў адкрытым полі, як тут».

Перад абліччам той катастро-фы, якая абрынулася на Вялікую Армію, было зроблена галоўнае — з пасткі, што рыхтавалі рускія, вырваліся Напалеон, дзесяць мар-шалаў, амаль усе генералы, боль-шая частка афіцэрскага корпуса і гвардыя.

Напалеон затрымаўся ў Ма-ладзечне і ў палацы Агінскіх пра-дыктаваў славуты 29-ы бюлетэнь, які абвяшчаў Францыі і ўсяму све-ту аб гераічнай барацьбе Вялікай Арміі і яе гібелі. Насмешкаю лёсу выглядала вестка аб тым, што Літва нарэшце гатовая выставіць 15 тысяч лёгкай кавалерыі. Было вельмі позна. Напалеон здаў ка-мандаванне Мюрату і таемна ад'-ехаў у Парыж рыхтавацца да кам-паніі 1813 года.

**Доблесныя да апошняга**

На працягу другой паловы сту-дзеня ў Варшаву, да палаца Паня-тоўскага «Пад бляхай», сцягвалі-ся рэшткі V корпуса — 220 жаўне-раў і 160 афіцэраў стаялі на палацавым дворыку. Моўчкі яны паклалі «арлоў» перад сваім ка-мандзірам. Князь употай змахваў слёзы. Прымаючы рапарт, не без здзіўлення пачуў аб захаванні ўсёй артылерыі. Як мог, аддзячыў сваіх жаўнераў — запрасіў на абед і раз-даў усе свае наяўныя грошы.

Ганна Патоцкая, дачка графа Тышкевіча і Канстанцыі з Паня-тоўскіх, пляменніцы караля Ста-ніслава Аўгуста, занатавала ва ўспамінах наступны эпізод: «Як толькі даведалася аб прыбыцці князя, пабегла цалаваць яго рукі. Рысы яго, змененыя пакутамі, вы-яўлялі хутчэй боль душы, чым фізічныя цярпенні.

Заўважыўшы вялікую кнігу каля ложка князя, запытала яго, смеючыся, ці гэта не яго мемуары?

— Ах, ці ж маем час для пісання, — адказваў. — Бяры тую кніжку на памяць — гэта мой трафей. Зага-даў яе падняць на гасцінцы і чытаў, каб бавіць час. Гэта „Падарожжа на Усход" — захавай яе для сваіх дзяцей, гады дададуць ёй вартасці (кнігу захаваў, нават калі падчас адступлення давялося кінуць ба-гаж і знішчыць штабныя паперы. II том „Tableau génerale de l'empire Ottoman" („Навуковае апісанне Ту-рэччыны") Ігнацыя д'Асона, выда-дзены ў 1790-м, быў яму асабліва дарагі як памяць і адзіны трафей з той вайны)».

Толькі на працягу 1812 года маленькае Варшаўскае Герцагства выставіла 162 тыс. жаўнераў — лічба, недасяжная для Рэчы Пас-палітай за ўсю яе гісторыю.

Напалеон, далёкі ад сантымен-таў, справядліва сказаў пра V кор-пус: «Іх знішчыла сіла абставінаў, але загінулі смерцю мужных».

## CONTENTS


This issue offers to the readers article «The History of the Life of St. Maximilian Maria Kolbe». The article by Karol Wojtyla «Triumph Despite the Obstacles» is also dedicated to the martyr. Here you also find some catechesis of father Maximilian, united under the heading «Patience is the Most Important Part of the Work» (p. 2-13).

Memoirs by father Arkadz Kulaha OCD «The Unusual and Irreplaceable» is dedicated to Cardinal Kazimierz Swiatek (p. 14-17).

We also continue to publish the translation of the work by Stephan Svyazhauski «*Saint Thomas, re-read*», made by Ales Zhlutka (p. 18-21).

In the publication «Nikolai Ge. The Last Supper» art critic Valery Buival describes the masterpiece of the great artist (p. 22-23).

We continue the publication of the translation of *Following Christ* by Thomas a Kempis, made by Stanislau Grynkevich (p. 24-25).

Article «With Faith in God's Blessing» by expert of literature Yazep Yanushkevich is dedicated to the first bishop of the Diocese of Minsk Yakub Dederko (p. 26-27).

Local historian Viktar Malinouski tells the readers about the 100th anniversary of the consecration of the Catholic Church of the Immaculate Conception of the Blessed Virgin Mary in Babrujsk (p. 28-31).

Fr. Vyachaslau Pyalinak MIC and historian Yuras Garbinski in their article «Belarusian Memorial Crosses at Tayshet» write about the honoring the memory of Archimandrite Andrei Tsikota and fr. Adam Stankevich who died as martyrs for the Christian faith in the Gulag, in distant Siberia (p. 32-34).

Natalia Sergeenko in her article «The Tragedy of the Priest Adolf Philip» tells the story of a priest who happened to serve God and people in hard times (p. 35-37).

Article by expert in literature Alena Valchuk «Yanka Kupala and Belarusian Priests-revivalists» is dedicated to the 130th anniversary of birth of Yanka Kupala. Small essays by famous Belarusian researcher Uladzimir Sodal are also dedicated to the memory of the poet (p. 38-42).

Mihas Skobla in his article tells about Zoska Veras (Ludvika Sivitska), one of the most remarkable figures in the Belarusian culture (p. 43-47).

Essay «Yanka Bryl Is the Carrier of Peace» by Danuta Bichel is dedicated to the 95th anniversary of birth of People's Writer of Belarus Yanka Bryl (p. 48-49).

Under the heading «Poetry» we print poems of famous Belarusian poets Siargei Paniznik, Piotr Makarevich and Mikola Kastiukevich (p. 50-55).

Article by doctor of art Tamara Gabrus «Catholic Construction in Ancient Polatsk» is dedicated to the 1150th anniversary of Polatsk (p. 56-61).

Brother Emanuel Yuran offers the readers his article «St. John of God from the Great Berastavitsa», where he tells the story of the statue of St. John of God, found in Berastavitsa (p. 62-63).

Article by Andrei Shpunt «Way of the Cross» is dedicated to the memory of the soldiers of the Great Army (p. 64-71).


## RESÜMEE


Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit der „Lebensgeschichte des heiligen Maximilian Maria Kolbe". Der Person dieses Märtyrers ist auch der Artikel „Triumph trotz Hindernissen" von Karal Wajtyna gewidmet, es gibt auch einige Katechesen von Pater Maximilian, die unter dem Titel „Geduld ist der wichtigste Teil der Arbeit" gesammelt sind (S. 2-13).

Dem Andenken an Kardinal Kasimierz Swjatek sind die Erinnerungen von Pater Arkadzj Kuljacha OCD mit dem Titel „Ungewöhnlich und unersetzlich" gewidmet (S. 14-17).

Die Fortsetzung der Übersetzung des Werkes „Heiliger Thomas, neu gelesen" – Abschnitt VI, „Gott als selbstexistierende Existenz" – von Stefan Swierzewski, ausgeführt von Alesj Shlutka, ist in dieser Nummer veröffentlicht (S. 18-21).

In der Publikation „Nikolai Ge. Das letzte Abendmahl" des Kunstwissenschaftlers Walery Bujwal wird über dieses hervorragende Werk des großen Meisters erzählt (S. 22-23).

Die Fortsetzung der Übersetzung des Werkes „Nachfolge Christi" von Thomas von Kempen, ausgeführt von St. Grynkewitsch, ist hier veröffentlicht (S. 24-25).

Dem Andenken an Jakub Daderka, den ersten Bischof der Diözese Minsk, ist der Artikel des Literaturwissenschaftlers Jasep Januschkewitsch gewidmet (S. 26-27).

Über den 100. Jahrestag der Einweihung der katholischen Kirche der Unbefleckten Empfängnis der Jungfrau Maria in Bobrujsk berichtet der Heimatkundler Viktar Malinouski (S. 28-31).

P. Wjatschaslau Pjalinak MIC und der Geschichtswissenschaftler Jurasj Garbinski berichten im Artikel „Belarussische Gedenkkreuze bei Tajschet" über die Ehrung des Andenkens an den Archimandriten Andrej Zikota und an den Priester Adam Stankewitsch im fernen Sibirien, wo diese Märtyrer für den christlichen Glauben im Gulag umgekommen sind (S. 32-34).

Natallja Sjargejenka erzählt im Artikel „Die Tragödie des Priesters Adolf Philipp" über das Lebens des Priesters, der Gott und den Menschen in einer komplizierten Zeit dienen musste (S. 35-37).

Dem 130. Geburtstag von Janka Kupala ist der Artikel „Janka Kupala und belarussische Priester-Erneuerer" von Alena Waltschuk gewidmet. Dem Andenken an den Poeten ist ein kleiner Essay des bekannten belarussischen Forschers Uladzimir Sodal gewidmet (S. 38-42).

Mihasj Skobla berichtet im Artikel über Sosjka Weras (Ljudwika Siwizkaja) – eine der markantesten Personen in der belarussischen Kultur (S. 43-47).

Dem 95. Geburtstag des Volksschriftstellers von Belarus Janka Bryl ist der Essay von Danuta Bitschel „Janka Bryl – Symbol der Ruhe" gewidmet (S. 48-49).

In der Rubrik „Poesie" sind die Gedichte der bekannten belarussischen Poeten Sjargej Panisjnik, Pjotr Makarewitsch und Mikola Kaszjukewitsch veröffentlicht (S. 50-55).

Dem 1150. Gründungstag von Polozk ist der Artikel „Katholisches Bauwesen im alten Polozk" der Doktorin der Kunstwissenschaft Tamara Gabrusj gewidmet (S. 56-61).

Bruder Emanuel Juran bietet den LeserInnen den Artikel „Heiliger Johannes von Gott aus Bolschaja Berestowiza", wo er über die in Berestowiza gefundene Skulptur des heiligen Johannes von Gott erzählt (S. 62-63).

Dem Andenken an die Soldaten der Großen Armee ist der Artikel „Kreuzweg" von Andrej Spunt gewidmet (S. 64-71).


## PODSUMOWANIE


Najnowszy numer czasopisma rozpoczyna się „Historią życia świętego Maksymiliana Marii Kolbe". Osobie tego męczennika jest także poświęcony artykuł Karola Wojtyny „Triumf na przekór przeszkodom". Zamieszczone zostały również niektóre katechezy ojca Maksymiliana, pod jednym wspólnym tytułem „Cierpienie – najważniejsza część pracy" (s. 2-13).

Pamięci kardynała Kazimierza Świątka poświęcone zostało wspomnienie ojca Arkadiusza Kulachy OCD „Niezwyczajny i niezastąpiony" (s. 14-17).

Drukujemy także dalszy ciąg przekładu Alesia Żłutki pracy Stefana Świeżawskiego „Święty Tomasz na nowo przeczytany" – rozdział VI „Bóg jako samoistne istnienie" (s. 18-21).

W publikacji znawcy sztuki Waleryia Bujwała „Mikołaj Ge. Ostatnia Wieczerza" jest mowa o arcydziele wielkiego artysty (s. 22-23).

Proponujemy również dalszy ciąg przekładu dzieła Tomasza a Kempis „O naśladowaniu Chrystusa", w przekładzie Stanisława Grynkiewicza (s. 24-25).

Pamięci Jakuba Daderki – pierwszego biskupa mińskiej diecezji – poświęcony został artykuł literaturoznawcy Jazepa Januszkiewicza (s. 26-27).

O 100-leciu konsekracji kościoła Niepokalanego Poczęcia Najświętszej Maryj Panny w Bobrujsku pisze krajoznawca Wiktor Malinowski (s. 28-31).

Ojciec Wiaczesław Pialinak MIC i historyk Juraś Garbiński w artykule „Białoruskie pamiątkowe krzyże pod Tajszetem" opowiadają o uszanowaniu pamięci archimandryty Andrzeja Cikoty i ks. Adama Stankiewicza w dalekiej Syberii – zginęli oni w Gułagu za wiarę w Chrystusa (s. 32-34).

Natalia Siargiejenka w artykule „Tragedia kapłana Adolfa Filipa" opowiada o życiu księdza, któremu udało się służyć Bogu i ludziom w trudnych czasach (s. 35-37).

130-tej rocznicy narodzin Janki Kupały poświęcony jest artykuł literaturoznawcy Aleny Walczuk „Janka Kupała i białoruscy kapłani odrodzenia narodowego". Pamięci poety poświęcony został również niewielki esej znanego białoruskiego badacza Uładzimira Sodala (s. 38-42).

Michaś Skobła opowiada o Zośce Wieras (Ludwice Siwickiej) – jednej z najbardziej godnych uwagi osób w białoruskiej kulturze (s. 43-47).

95-tej rocznicy narodzin narodowego pisarza Białorusi Janki Bryla poświęcony został esej Danuty Biczel „Janka Bryl – nosiciel pokoju" (s. 48-49).

W rubryce „Poezja" znajdują się wiersze znanych białoruskich poetów Siergieja Paniźnika, Piotra Makarewicza i Mikoły Kościókiewicza (s. 50-55).

1150-leciu Połocka poświęcony został artykuł znawcy sztuki Tamary Habruś „Katolickie budownictwo w starożytnym Połocku" (s. 56-61).

Brat Emanuel Juran proponuje czytelnikom artykuł „Święty Jan Boży z Wielkiej Bierestowicy", w którym opowiada o rzeźbie świętego Jana Bożego, znajdującej się Bierestowicy (s. 62-63).

Pamięci żołnierzy Wielkiej Armii poświęcony został artykuł Andreja Szpunta „Krzyżowa droga" (s. 64-71).


## SOMMARIO


Il presente numero della rivista si apre con la "La storia della vita di Massimiliano Kolbe". A questo martire della fede è dedicato anche l'articolo di Karol Voityla "Un trionfo che ha superato gli ostacoli" e alcuni catechisi del Padre Massimiliano unite sotto il titolo "La pazienza è la componente più importante del lavoro" (p. 2-13).

Alla memoria del Cardinale Kazimir Swiontek è dedicato l'articolo del Padre Arkadz Kuliakha OCD «Straordinario ed insostituibile» (p. 14-17).

Continua la pubblicazione del testo "Dal Medioevo, epoca d'oro, ai tempi nostri: San Tommaso e il suo interprete Stefan Swiezawski", tradotto da Ales Žlutka (p. 18-21).

Nella pubblicazione del critico d'arte Valery Bujval «Nikolai Ghe. Il cenacolo» si racconta del capolavoro del grande pittore russo (p. 22-23).

Si pubblica la parte successiva del saggio di Tommaso da Kempis l'*Imitazione di Cristo*, tradotto da Stanislau Grynkevič (p. 24-25).

Al primo vescovo della diocesi di Minsk Jakub Daderka è dedicato l'articolo del Dottore di ricerca in letteratura Jasep Janushkevich (p. 26-27).

Lo storico degli eventi regionali Viktar Malinouski scrive del 100° anniversario della consacrazione della Chiesa della Concezione Immacolata della Vergine Maria a Bobruisk (p. 28-31).

Il Padre Viačiaslau Pialinak MIC e lo storico Juras Garbinski nell'articolo "Le croci in ricordo nei pressi di Taišet" raccontano della commemorazione dell'archimandrita Andrei Zikota e del parroco Adam Stankevich in lontana Siberia, la zona dove entrambi i martiri per la fede di Cristo hanno trovato la loro morte al GULAG (p. 32-34).

Natallia Siargheenka nell'articolo "La tragedia del sacerdote Adolf Filip" racconta della vita del parroco che ha dovuto servire il Dio e la gente in un momento difficile (p. 35-37).

Al 130° anniversario della nascita di Janka Kupala è dedicato l'articolo di Alena Valchuk "Janka Kupala e i sacerdoti bielorusi del periodo della rinascita". Alla memoria del poeta sono dedicati i piccoli saggi del famoso studioso di letteratura bielorussa Uladzimir Sodal (p. 38-42).

Mikhas Skobla racconta di Zoska Veras (Liudvica Sivizkaya), persona tra le più note della cultura bielorussa, nell'articolo (p. 43-47).

Al 95° anniversario della nascita dell'insignito del titolo "Scrittore del Popolo di Belarus" Janka Bryl è dedicato il saggio di Danuta Bicel "Janka Bryl, portatore di serenità" (p. 48-49).

Sotto la rubrica "Poesia" sono pubblicate le opere dei famosi poeti bielorussi Siarghei Panisnik, Piotr Makarevič e Mikola Kacziukevič (p. 50-55).

L'articolo del Dottore di ricerca in Teoria dell'Arte Tamara Gabrus "Le costruzioni cattoliche all'antica città di Polozk" è dedicato al 1150° anniversario di Polozk (p. 56-61).

Il frate Emanuel Juran sottopone all'attenzione dei lettori l'articolo "San Giovanni il Divino da Vialikaya Berastaviza" nel quale racconta della scultura di San Giovanni il Divino trovata a Berestaviza (p. 62-63).

L'articolo di Andrei Špunt "La Via Crucis", è dedicato ai soldati di Grande Armata (p. 64-71).


---

На 1-й ст. вокладкі — святы айцец Максімільян Марыя Кольбэ.


*Часопіс «**НАША ВЕРА**», № 3 (61)/2012.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*

*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*

*Падпісаны да друку 28.09.2012 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 1142.*

*Надрукавана ў друкарні ПУП «Джі энд Ді».*

*ЛП 02330/0150065 ад 05.06.08 г. Вул. Бурдзейнага, 37–191, Мінск, 220136.*

